ванымі адозвамі. Усе тыя, што былі нядаўна пры больніцы, сышліся сюды. Яны ўсё пабылі тут не больш дзесяці хвілін. Кожны ўзяў пачак адозваў, і ўсе выйшлі ў розных канцах з горада. Адзін астаўся раскідаць і расклейваць адозвы па горадзе. На світанні ўсё было зроблена. Наталя выйшла полем у кірунку да карчмы, але гасцінцам яна не ішла. Пакуль развіднела, яна была ўжо далёка ад горада. Яна ішла шпарка. Ужо нават высокае месца, дзе стаяла карчма, асталося за ёю на захадзе. Яна ўвайшла ў лес, далёка ад дарогі, і там асталася чакаць вечара, каб тады рушыць далей. Яна была стомленая, змучаная. Палавіны адозваў ужо ў яе не было: яна іх пакінула на прызбах і сценах вёсак, па якіх праходзіла і на прыдарожных слупах. Цяпер у лесе было змрочна. Восенны дзень быў цёплы, спакойная хмурнасць стаяла над зямлёй. Наталя доўга стаяла пад густым зборам дрэў, на шэрым дубовым лісці. Праз лісце білася наверх парыжэлая трава. Наталя быццам бачыла і чула перад сабою ўвесь свет. Такой радасці даўно яна не ведала. Гэтакая слаўная часіна! Уночы яна пройдзе яшчэ кіламетраў трыццаць і пакіне за сабой рэшту адозваў. І калі ўвечары не спаткаецца з бацькам на краі гэтага лесу, спаткаецца з ім наступным вечарам у вядомым ім лесе і ў вядомым месцы, далёка адсюль. З вялікаю асалодаю яна ела хлеб, радасна чула, як пахне восень у лесе, які мяккі мох пад нагамі, як весела дзяўбуць дзятлы кару на сухім дрэве. Апоўдні яна села на адвіслую ралу стагодняга дуба, абняла рукою галіну, прыперлася плячыма да ствала і задрамала. Прачнулася яна праз гадзіну—ёй стала холадна. Яна шчыльней зашпіліла на сабе свой кароткі кажушок, наставіла каўнер, і зноў вейкі спусціліся ўніз, адцяняючы бледнасць яе стомленага яснага твару. Як змеркла, яна пайшла далей, нікога не спаткаўшы. У першай вёсцы яна пайшла пазагуменню. Блізка, за парканам, гаварылі людзі. Яна прыслухалася. Яна чула нізкі мужчынскі голас:

— А камісар Паўлоўскі ўцёк з больніцы. Яму памагалі ўцякаць, бо, кажуць, жандарм ляжаў звязаны ў калідоры. А міласэрдная сястра, гэтая што з Фартушніцкае карчмы, падняла гвалт, кажучы, што чалавека, жандарма, значыцца, забілі! Жандарма пашкадавала, каб цябе чэрці, галава авечая. Ух, гадаўка!..

Наталя кінула цераз плот некалькі адозваў і пайшла далей.

„Гадзіна,—думала яна пра Клаву.—Як гэта я раней не магла ацаніць яе і не так варожа, як трэба было, глядзела на яе. Які я промах зрабіла! Якую праўду казаў пра яе Валодзя Кастрыцкі! Подзвіга шукае, гадзіна! Цяпер напэўна маліцца пойдзе! Гэта мне навука!“

Ёй было праціўна думаць пра Клаву.

Наступны дзень яна перабыла таксама ў лесе, а ўвечары, трымаючыся левага яго краю, пайшла паволі, да ўсяго прыслухоўваючыся.

У тую ноч фурманка з Паўлоўскім ехала глухімі дарогамі, і проста полем, да самага дня. Паўлоўскі сам ведаў мясцовасць, як не трэба лепш—яе ён выхадзіў уздоўж і ўпоперак з малых год сваіх. Ён сам паказваў свайму таварышу, дзе ехаць. На світанні яны ўехалі ў глухую вёску, заехалі ў цесны двор. Гэта Паўлоўскага таварыш, што вёз яго цяпер на сваім кані, прыехаў дадому. Тут Паўлоўскі дняваў—пераляжаў дзень у клеці пад кажухом. Яму нездаровілася. І ў яго таварыша і ў яго самога былі думкі—чакаць тут яшчэ суткі-двое, але тады ён мог размінуцца з Наталяй. Увечары ўзышлі зоры, Паўлоўскі, апранены ў кажух свайго таварыша, стаяў на двары. Схаваўшы рукі ў рукавы, ён не варушыўся. Ён перамагаў сваё нездароўе. Праз не-

калькі хвілін яны выехалі. Ехалі палавіну ночы і тады спыніліся ў лесе. Паўлоўскі пралежаў на возе пад кажухамі і халатамі рэшту ночы і да поўдня. Пасля поўдня яму стала лепш. Яны грэлі чай у лесе, і Паўлоўскі, апіраючыся на выламаную арэхавую палку, хадзіў, спрабуючы сілу сваёй нядаўна аперайанай нагі. Ён чуў прыліў сіл.

— А ў гэтым лесе, можа зусім блізка ад нас, чакае Наталя,—сказаў Паўлоўскі, і вочы яго засвяціліся хваляваннем. Ён чуў, як ехалі недзе лясною дарогаю людзі, як спявалі дзесці жанчыны, і чамусці думаў пра сваю колішнюю гаворку з Хурсам на двары завода ў той дзень, калі ўпершыню спаткаў там-жа малога хлапца Валодзю Кастрыцкага. Колькі год прайшло з таго часу! І як інакш ён сам цяпер стаіць на зямлі, у дачыненні хоць-бы сабе да таго самага Хурса.

Уночы, пад'язджаючы да гэтага лесу, яны сарвалі з аднаго з дарожных слупоў адозву. Цяпер Паўлоўскі дастаў яе з кішэні, каб яшчэ раз перачытаць. „Наталя за работай“—сказаў ён сам сабе, пераглядаючы тэкст. На змроку ён выйшаў на ўскрай лесу і ўбачыў там Наталю.

*(Канец першай часткі).*

Р. МУРАШКА

## СВАЕ—ЧУЖЫЯ

Каб не чорная смуга ночы, не спатыкнуўся-б ён аб накіданы гургун свежай зямлі і не ўпаў-бы ў выкапаную яму. А мо' каб не чорная смуга ночы, дык не было б гэтае і ямы. На ўсё свая прычына. Устаючы, ён вылаяўся—моцна і сакавіта, быццам гукі голасу кампенсавалі за парушаны спакой дарогі. Але вылаяўшыся з асалодай, ён раптам забыўся пра сваё падзенне ў яму, пра парушаную плынь спакойнага роўнага думання і насцярожыўся.

Гукі чалавечых крокаў пачуліся недалёка, пачуліся і, аддальваючыся, захлынуліся ў глыбіні чорнае смугі ночы.

„Без прычыны нічога не бывае"—падумалася яму.

І выкапаная на сцежцы яма, і гукі чалавечых крокаў звязаліся раптам у адзін непарыўны вузел і напамянулі яму, што на гэтым самым месцы калісь аброслы сівым мохам ляжаў стары вялікі камень. Камень аб'язджалі з возам, абыходзілі з плугам ды з бараною, і на роўным гладкім палетку ён ляжаў, як бяльмо на воку.

Было яно не так даўно.

Аднае вясны прыехалі на машынах дарожныя тэхнікі-даследцы, вымералі доўгую роўную палосу зямлі, а рабочыя абазначылі яе двума радамі слупкоў—паміж гэтых слупкоў прайшла потым добрая шасейная дарога. І стары абымшэлы камень перастаў быць бяльмом: звезены на лінію, ён лёг моцным грунтам у першы пласт дарогі. Тым-жа месцам, дзе ляжаў ён на полі, руйнуючы межы і разоры, прайшоў за трактарам востры плуг. Але плуг зачапіўся разаком за нешта ў зямлі і зламаўся. Гэтае „нешта" было закручаным у анучы хобатам „Максіма". Пачалі раскопваць, і выявілася, што наўкола старога каменя быў закапаны цэлы склад зброі: кулямёты, вінтоўкі, патроны, гранаты.

Гэта ўсё прамільгнула перад ім, як лёгкакрылая, быстрая ластаўка. І выкапаная яма там, дзе ляжаў стары камень, і гукі чалавечых крокаў, і хобат кулямёта—звязаліся ў адзін непарыўны вузел і напамянулі яму... І напамянулі яму, Мігаю Аляксею, аб дваццаць адным годзе, аб тым, што ён комсамолец, прызыўнік у Чырвоную армію, прызыўнік прымежжа, прызыўнік-калгаснік, і што ён ідзе з ваенных заняткаў. І Мігай Аляксей спорным крокам кінуўся туды, дзе гукі чалавечых крокаў захлыналіся ў глыбіні чорнае смугі ночы.

„Ліха яго ведае, хто тут можа быць",—падумалася зноў Мігаю Аляксею.—„Ці мала яшчэ сволачы ўсякае на свеце".

І да памяці прыйшло, як летась, якраз гэтай парой, быў падпалены іх калгас „Фарпост социялізма", як, дзякуючы геройству жывёлавода, былога чырвонаармейца, удалося выратаваць з гарэўшага хлява сотню кароў—усё рагатае стада калгаса, як выкрыты былі скрытыя кулакі з сваімі сябрамі, якія падпалілі калгас.

Думае і не думае Аляксей Мігай, а быццам перад вачыма ў яго праходзіць чарада жывых людзей. Але лінія думкі перарываецца. Сонная птушка ўспырхвае з-пад самых ног і прымушае яго сплюнуць ад нечаканасці.

Дробны і часты восенькі дождж непрыемнай халоднай вільгаццю насычае начную цемрадзь і робіць з яе брудную, чорную, як вакса, рошчыну, у якой гразнуць Мігаёвы ногі, грэзне і патанае сам ён. Пад нагамі шамаціць мокрае іржышча. Дажджавыя каплі абіваюцца з іржышча на ногі, сцякаюць у чаравікі. Непрыемнае адчуванне вільгаці ў абутых нагах прымушае яго адрасаваць непасрэдна да бога, які заўсёды ў такіх выпадках з'яўляецца, бадай, адзіным яго адрасатам, моцнае прывітанне з успамінаннем божае маткі, прывітанне крытычна настроенага чалавека. Аблягчэнне душы ўносіць выразнасць у становішча і чула дае ўспрыняць велічную наўкола цішыню.

Але акром яго ўласных крокаў на мокрым іржышчы, больш нішто не парушае яго крытычнага настрою. Зафіксаваныя нядаўна памяццю гукі чалавечых крокаў яшчэ востра жывуць унутрана, але вонкава аб'ект іх расплыўся ў магутнай начной неабсяжнасці. Дарэмна востры зрок пнецца працяць адлегласць: і зямля, і неба—усё наўкола вымазана ў чорную сажу начное цемры. Мігай заварочваецца і ідзе назад. Хвіліны хады выводзяць на сцежку, якой ішоў ён перад тым дадому. А не дае ён і дзесяці крокаў па сцежцы, як зноў апыняецца каля ямы і крыху не ляціць потырч. Потым—зусім не дарэчы—ясны прамень сонца працінаецца праз густую смугу чорнае ночы, і—зыркім святлом запырсканы—з далёкага кутка памяці ўстае ўспамін.

Вось ён, Мігай Аляксей, пяцігадовы карантыш, мацуецца стаць на пальчыкі, каб паглядзець вакол, на ўвесь жытні палетак, і што там робіцца яшчэ далей за высокімі залацістымі жытамі. Але з-за высокіх сцен жыта нічога не відаць. Маці ўвіхаецца каля постаці і не заўважае, як малы Аляксейка ўсплішчваецца на стары абымшэлы камень. Якія вялізныя прасторы адкрываюцца з яго Аляксейку. Па моры сонца бягуць адна за аднэй залацістыя жытнія хвалі. Густы з поўдня вецер растрэпвае ў паветры мігатлівыя жытнія жмені жней. А там, далёка, далёка, сіні лес апавіўся гарачым дымком і цёпла млее на сонцы. Ён быў у гэтым лесе, хадзіў з мамаю ў грыбы. Ой, колькі там грыбоў! Яны прынеслі дадому поўны кошык адных свойскіх. Радасна Аляксейку ад таго, што яму відаць усё гэтак далёка. Ён паварочваецца ў другі бок. А там яшчэ цікавей, толькі адгэтуль не відаць. І там ён быў, з бацькам ужо. Ён сядзеў на возе ў натоўпе сялянскіх фурманак на гарадскім рынку, а бацька яму прынёс цукерак і пернікаў... Але сонечны ўвесь белы горад далёка, і не відаць яго за ўзгоркам. Аляксейка становіцца на пальчыкі,—ах, як яму хочацца, каб не было гэтага ўзгорка! Не, відны толькі шырокія прасторы жытоў, што далёка, далёка зліваюцца з небам, ды пыльны гасцінец, які, здаецца, вунь там кладзецца на сіняе неба. І вось, быццам, казюлька ўспаўзае на гасцінец там і павольна паўзе ўсё бліжэй ды бліжэй сюды. Аляксейка ўжо сочыць за гэтай казюлькай. А тая, як узіраецца ён добра, ўсё большае ды большае і на яго ваччу становіцца чалавекам. І нават не простым чалавекам, а ў зялёнай шчыгольнай вопратцы, з бліщчастымі наплечнікамі салдатам. Паварочваецца Аляксейка да мамы з крыкам, што салдат ідзе, ды крык абрываецца на палове. Не адзержваецца карантыш на камені і, падаючы, моцна стукаецца носам аб сухую зямлю і абдзірае аб іржышча твар і рукі. Знікае раптам усё; і жыта, і сонца, лес далёкі, і горад, і казюлька-чалавек, што з неба, здаецца, успоўз на гасцінец—засталося толькі

адзін боль ды колкае іржышча з дробнымі капялюткамі крыві, што капаюць з Аляксеевага носа. І захраслы ў горле крык скончаецца горнымі салёнымі слязмі. Маці кідаецца ад постаці, жорсткімі пальцамі заціскае яму нос, каб не ішла кроў.

„А не будзь вельмі дастатны. Усюды табе трэба ўсё ўгледзець“,—гаворыць маці і далонню другое рукі выцірае на твары яго буйныя слёзы.

Аляксейку горна. Горна ад таго, што баліць і ідзе кроў, горна ад таго, што маці не ведае, якая радасць была яму, стоячы на камені і азіраючы з яго ўсё наўкола. Тымчасам маці адрываецца ад яго і з крыкам: „А сыночак мой дарагі!“ кідаецца насустрач салдату.

Аляксейка выцірае вочы і бачыць маму, якая плача з радасці на грудзях у салдата.

„А ты чаго плачаш, карантыш?“—пытае падыходзячы салдат.—„Э-э, ды ты нос расквасіў... Ну нічога, пакуль жаніцца, дык загаіцца“,—жартуе ён ды бярэ Аляксейку падпашкі і пачынае высока падкідаць угору.

У Аляксейкі захліпаецца ў сярэдзіне ад змяшэння крыўды і слёз з радасцю і задаваленнем. Тады салдат ставіць яго далоў і дастае з пакунка розных ластоў.

„Ну вось, ты ўжо і не плачаш“,—гаворыць ён.

І Аляксейка сапраўды не плача. Ён забыў пра сваю дзіцячую бяду, яму зноў радасна, зноў весела. Ён узіраецца ў салдата і бачыць на шчапэ вялікі чырвоны шрам.

„Што гэта ў цябе на мордзе?“—пытаецца ён.

„А гэта мяне немец, брат, вялізным такім нажом вось гэтак во-о о...“

Салдат робіць страшны, люты твар, паказваючы, як немец яго вялізным нажом...

„І ты яму падараваў?“—пытаецца зноў Аляксейка.

„Там не даруюць, брат,—ого! І я яму таксама“,—скрыпнуў зубамі салдат, і чырвоны шрам на шчацэ зрабіўся яшчэ чырванейшым.

Тымчасам да іх сыходзяцца суседкі, і на жніве запаноўвае святочны настрой. Гэта яго, Аляксейкаў, старэйшы брат Андрэй, былы настаўнік, а цяпер афіцэр, прыйшоў з вайны на пабыўку.

Але вось раптоўна цмянеюць святочныя светлыя фарбы. Цёмная хмара наплывае і ў шэрую вопратку апранае святочных людзей, залацістыя жыты, сіняе неба.

Мільгаціць у паветры гарапнік, і крывяны пісуг кладзецца на твары ў чалавека. Чалавек—старшыня сельскага бядняцкага камітэта, бацька таго самага жывёлавода, што вырataваў з падпаленага хлява калгасныя каровы. У чалавека моцна сцяты зубы, і ніводнага слова, ніводнага гуку болю ці просьбы не вылятае праз іх. Жаль сціскае Аляксеева горла, і зло варушыцца ў сярэдзіне на гэтую руку з гарапнікам. А рука ў зялёным рукаве афіцэрскага мундзіра, а мундзір з старымі палінялымі пагонамі, надзеты на яго старэйшым брату Андрэі. Ён служыць у рускай афіцэрскай легіі, якая за адно з белапалякамі, а цяпер прыехаў катаваць людзей за зброю, якую нібыта тыя пахавалі ад белых. Капля за капляй сцякае кроў па шчацэ ў старшыні бядняцкага камітэта... І каб, здаецца, хоць адзін гук вырваўся праз моцна сцятыя зубы, дык лягчэй было-б Аляксею. І ён прыслухоўваецца, ці не пачуе...

Наўкола цішыня. Шэрыя фарбы патанаюць у чорнай смузе ночы. Нібы дробны часты дождж змывае апошнія сляды ўспамінаў у камсамольца Мігая Аляксея, прызыўніка прымежжа, прызыўніка-калгасніка, прызыўніка, які ішоў дадому з ваенных заняткаў.

Выкапаная на сцежцы яма ўсё яшчэ турбавала яго думкі, прымушала прыслухоўвацца чула—з надзеяй улавіць гукі тых невядомых крокаў.

Вільготная шалпаткая цішыня прыступаецца з усіх бакоў, глыбокім дыханнем ночы павявае ў твар. І хочацца Аляксею разагнаць гэтую цішыню, сарваць з ночы чорнае прасцірадла цемры, каб убачыць да дробязяй усё начное варушэнне, пачуць зноў тыя крокі.

„Хто тут мог быць? Тут-жа пад бокам граніца...“

І ніякавата робіцца на душы ў Мігая Аляксея, быццам дапусціўся ён да вялікае віны перад сваімі найблізкімі таварышамі, перад сваімі аднадумцамі.

* * *

Хлюпкія крокі Аляксея прабудзілі суседавага сабаку, і той азваўся кароткім раз'юшаным брэхам. Ад выбуху ядранага звонкага брэху скаланулася цягуткая вадкая цемра, задрыжэла ў цёплым святле жоўта-вокіх агнёў, заплакала сіратліва. І, быццім, натоўпы нябачных ценяў заварушыліся, запоўзалі па зямлі, абкружаючы з усіх бакоў Аляксея.

Ці не адзін з ценяў гэта мільгануўся з-пад скупа асветленага акна бацькаўскае хаты і напоўніў сэрца Аляксея вострым прадчуваннем.

— Хто тут?

Дрыжыць начная цемра, сыходзяцца і разыходзяцца патрывожаныя цені, выплёскваючы на святло высокую фігуру шырокаплечага чалавека.

— Я дужа галодны і хацеў папрасіцца паначаваць.

— Дык хадзем у хату,—гаворыць Аляксей і здзіўляецца раптоўнай сваёй сухасці.—Ці не вы гэта перада мною з поля ішлі?

— Я прыйшоў адтуль,—паказаў той рукою ў цемру, і не відаць было Аляксею куды.

Ён прапускае ўперад сябе незнаёмага.

Маці сядзела пры скупым святле вісючае лямпы і лапіла старыя мяшкі.

Незнаёмы даў „добры вечар“.

Пры гуках голасу яна спалохана-радасна ўзняла галаву, але ўбачыла аброслага барадою высокага незнаёмага чалавека з сынам і зноў узялася за работу, адказаўшы на прывітанне.

— Гэта, мама, чалавек просіцца пераначаваць,—сказаў Аляксей.

— Адкуль-жа ён?—запыталася маці і, не чакаючы адказу, дадала:— Няхай паначуе, хата прасторная.

— Што гэта за мяшкі, мама?

— Гэта збожжа ў падатак вазіць трэба, а няма ў што насыпаць. Дык назбіралі з усяго калгаса старых нейкіх ды параздавалі бабам, каб да заўтрага паналаджвалі. Сёння павезлі нанач—і бацька недзе паехаў—чырвоным абозам заўтра здаваць будуць. А дзеўкі прыйшлі павячэралі ды зноў пайшлі. З гэтаю работаю цяпер дык проста не ацерабіцца... Пайшлі ў малатарню. За ноч хочуць намалаціць ды з'арфаваць, а заўтра зноў везці на здачу.

— Малайцы!—проста сказаў Аляксей і, жмурачы на святле вочы, зірнуў на незнаёмага.

Той сядзеў на лаве і з прыхаванай цікавасцю разглядаў хату, быццам ён даўно-даўно некалі бачыў яе і цяпер прыпамінае, дзе і што стаяла тады, чаго з старога няма ўжо і што з'явілася новага.

А новае кідалася на вочы адразу. Пры сцяне ад вуліцы стаяў новы куфар, накрыты адмыслова-вытканай посцілкай. Над куфрам на сцяне вісеў гадзіннік—„ходзікі“. Побач з „ходзікамі“ адрыўны каляндар. Пры другой сцяне таксама накрытая прытулілася габінетная швейная машына. У кутку, які з даўных-даўён у сялянскай хаце служыў пры-

тулкам для святых і багоў, у вобразе то страшных і лютых, то літасцівых і ўседаравальных сівых дзядоў і маладых прыгожых жанчын у абкружэнні светлых ангелаў, не разабраць якога роду,—у гэтым кутку, у калгаснай хаце віселі фарбавыя карціны ды партрэты бальшэвіцкіх правадыроў, партрэты Маркса і Леніна.

Цень неўразумення і нечаканасці блудзіў на твары ў незнаёмага.

— Калі-б ты, мама, дала павячэраць нам, то было-б нядрэнна,—наш госць галодны, дый я таксама,—папрасіў Аляксей.

Пры слове „госць", незнаёмы скалануўся, але зараз-жа схаваў гэта за рух, стараючыся нібы ўтульней сесці на лаве.

Тымчасам маці знайшла павячэраць і сказала:

— Каб я ведала, сынок, што ты прыедзеш сёння да дому, дый з чалавекам, я наварыла-б большыя гаршкі.

— Нічога, мама, хопіць,—адказаў Аляксей, запрашаючы незнаёмага есці.

Вочы прызвычаіліся ўжо да святла, і ён не жмурыў больш, узіраючыся на свайго незнаёмага. Пры блізкім святле лямпы ён разглядзеў на твары ў таго цераз усю шчаку чырвоны шрам ад загоенай рэзанай раны. Напалову схаваны негустою чорнаю барадою, шрам быў не вельмі прыкметны, і толькі вячэраючы заўважыў яго Аляксей.

— Ці не след гэта ў вас на твары ад вайны яшчэ?—запытаўся пранікліва ён.

Лыжка ў руцэ незнаёмага павярнулася коса, і страва палілася на стол.

— Не, гэта я ў маленстве ўпаў з плота і рассек на камень,—адказаў ён і пальцам левай рукі машынальна правёў ад налітае лужынкі дарожку на край стала.

„Вось гэтак рабіў і ён",—падумаў Аляксей.

— Ці ты еў дзе, сынок, што гэтак мала ясі,—сказала маці, бачачы, што Аляксей сам зусім не бярэ, а запрашае незнаёмага—падсоўвае таму бліжэй міску.

А ён нібы не пачуў матчыных слоў.

— Я таксама ў маленстве ўпаў быў на полі з каменя—от расквасіў быў нос. Тады якраз старэйшы брат мой прыйшоў з вайны на пабыўку, дык ледзьве суцешыў мяне... Дык у брата быў вось гэтакі самы шрам ад штыхавое раны.

Незнаёмы зноў, не данёсшы, разліў лыжку, а маці глыбока журботна ўздыхнула.

— Дзе ён, сыночак мой дарагі, мо' даўно ўжо няма жывога...

Ціхія слёзы пакаціліся адна за аднэй па глыбокіх зморшчках яе шчок.

Незнаёмы пакінуў есці. Рука, кладучы лыжку, дрыжэла, і лыжка стукнулася аб стол.

Аляксей устаў і строга паглядзеў на яго.

— Ці мала чаго бывае ў жыцці.

І невядома да каго праказаны былі ім гэтыя словы—да незнаёмага ці да маткі.

Ніколі ёй не давалі спакойна выплакаць матчыных слёз і абьлягчыць набалелае сэрца. Хаваючыся ў цёмны куток і ўспамінаючы Ўграчанага, дарагога матчынаму сэрцу, старэйшага сына, яна ціханячутна выплаквала сваё гора. І цяпер, каб не бачылі яе слёз, выйшла з хаты, згорбленая пад цяжарам балючых успамінаў.

Аляксей зірнуў на гадзіннік, на дзверы, на незнаёмага, што абціраў сваю чорную бараду, падышоў да яго ўпрыступку і сказаў:

— Ні слова пры маме... Ты бачыў, як прычыненае ёй табою гора зламала і пастарыла яе. Табе, брат, не прыдзецца начаваць сёння

ў бацькаўскай хаце. Па законах і парадках, устаноўленых намі ў нашай краіне, я павінен правесці цябе на заставу.

Рука ў таго, у другога, адарвалася ад барады і нежывою ўпала на калена.

— Не чакаў ты гэткага канца, вар'ят, ідучы ў гэты вар'яцкі край, ратаваць гэты вар'яцкі народ,—ціха, як для сябе, праказаў ён. І схамянуўся. Гімнастычным рухам ваеннага ўстаў з-за стала і зашпіліў з даматканага сукна жакетку.

— Ты праўду сказаў, што мне нельга аставацца тут. Відаць, апошні раз я пакідаю гэтыя сцены... А я не думаў, што ты пазнаеш мяне, як не пазнаў-бы цябе з твару і я.

Толькі цяпер убачыў ён хваравіта, востра, што сядзеў за адным сталом у роднай бацькаўскай хаце не з родным братам, а з зусім незнаёмым з аблічча і з думак чалавекам—маладым, шырокім у касці і мускулістым. Ён ведаў малога такога пакрыўджанага карантыша з расквашаным носам, ён такога чакаў і сустрэць тут, такога ён і ішоў сюды „вызваляць" для жыцця, якому ахвяраваўся сам. Зразумелаю і даўнейшаю была маці са сваімі слязмі, горам ад утратку старэйшага любімца-сына. Там, на чужыне, яна была для яго вобразам маці-айчыны, што пагубіла па ўсім свеце сыноў і ціхімі енкамі болю склікае іх да сябе. Ён не хацеў прызнацца сабе, што толькі матчынае гора і было тым адзіным, па чым ён разумеў сваю матку, што словы, праказаныя тэю за вечар у яго прысутнасці, шырокай граню раздзялялі іх, і, каб не сардэчнае гора, не пазнаць бы яму і роднае маткі, як не пазнаць было брата, як не пазнаць стала хаты, дзе нарадзіўся і ўзрос. Наўмысля не хацеў прызнавацца ў тым. Нявіднымі для вока людскога сцежкамі, як адзінокі воўк да свае здабычы, прабіраўся ён сюды не для таго, каб бачыць усё гэта і адчуваць. Як бразнула маці клямкай і адчыніліся дзверы, ён сказаў:

— Пойдзем.

— Куды-ж гэта вы проці ночы выпраўляецеся? Не будзеце хіба начаваць? А ты куды, сынку?—не чакаючы адказу незнаёмага, спыталася яна ў сына.

— Я пайду, мама, пакажу чалавеку дарогу,—не хоча ён аставацца начаваць, кажа, пойдзе далей.

— Каб доўга не бавіўся, сынок, дык я яшчэ пасяджу.

Старэйшы даў „дабранач".

Ёй толькі што ад сваіх балючых успамінаў, якія навеяў блізкі вобраз старэйшага любімца-сына, голас гэтага праходжага здаўся да болю знаёмым і блізкім, і маці спалохана ўзіралася на высокага барадатага незнаёмага. Але той адчыніў дзверы, і чорны зеў сянец праглынуў іх. З моцна застукацелым сэрцам памкнулася была яна ўслед, а потым сляза адзінока заблішчэла на пергаментнай яе шчацэ, і змучанаю хадою вярнулася яна ад парога.

А два браты, паводле вонкавых людскіх умоўнасцей браты, ішлі ўжо вуліцаю. Ішлі яны моўчкі, нібыта кожнаму трэба было разабрацца са сваімі думкамі і пачуццямі і ўстанавіць ясную, бязлітасную яснасць ува ўсім, хаця і без таго абодвум было ясна ўсё: аднаму—бязлітасна неўнікнёны канец, другому—неабходнасць гэтага канца.

Калгасныя хаты асталіся далёка за імі. Тады малодшы загаманіў:

— А запытаўся тады, ці не ты гэта ішоў перада мною з поля, не здарма. І ляпей усяго табе прызнацца. На тваіх ботах і на вопратцы сляды свежай зямлі. Навошта ты капаў гэтую яму?

— Ах, ты пра гэта,—з вясёлай ноткай у голасе праказаў старэйшы, у якога, не гледзячы на гэтую нотку, чулася Аляксею пахмурная не-

здаволенасць.—Пра гэта... Бачыш... Я скажу табе па сакрэту... У час белапольскага адступлення там было закопана золата і розныя каштоўныя рэчы. Гэты клад я і хацеў сёння дастаць.

— Дарэмна хацеў... Ён ужо дастаны,—адказаў Аляксей, і марозавай стынню павеяла ад яго скупых слоў на брата.

Той раптоўна адчуў, што гульня, задуманая ім яшчэ там і дзеля якое, рызыкуючы жыццём, ён прайшоў кардон, што гульня гэтая заблытваецца і перарастае ў небяспечную гульню з агнём.

— Дастаны...

Як шкло, лопнуўшы, зазвініць кароткім абрыўчастым звонам, дык гэтак прагучэў і адразу ўтраціў усю сваю каляровасць яго голас.

— Дастаны і аддалы куды след. Так што табе ляпей прызнацца Праўду ў нас цэняць дорага, памятай гэта.

— Вось яно што,—праказаў старэйшы брат, і словы яго, чужыя, далёкія, гучэлі зусім прыглушана, нібы выходзізі яны з цьмы вякоў.

— Усё прапала,—прашаптаў ён, з усяе сілы супрацiўляючыся яшчэ непазбыўнай звярынай тузе, якою налівалася ўсё яго велізарнае магутнае цела. І раптам тады сонечны прамень бліснуў у яго свядомасці, бліснуў і асвятліў адзін з глухіх куткоў памяці. І з надзеяй ён ухапіўся за гэта.—А памятаеш, як ты упаў там на жніве з каменя і разбіў нос. калі я прыйшоў ранены на пабыўку, ды я цешыў цябе, такога горнага, усяго ў слязах і крыві карантыша.

Нешта дрогнула ў сярэдзіне ў Аляксея, калі перед вачыма бліснула сіняе неба, калі прабеглі адна за аднэй залацістыя хвалі жытоў і быццам кволае шапаценне пяшчотна даткнулася слыху. Дрогнула, але не зламалася. Чулым вухам улавіў ён варушэнне безлічных ценяў вакол і адчуў магільны холад начное цемры.

— А ты памятаеш, як пад гарапнікам лёг на твары ў старшыні бядняцкага камітэта крывяны пісаг, і капля за капляй кроў цякла па шчацэ... А ён маўчаў... Сцяўшы зубы, маўчаў. І вы яго потым, збітага, акрываўленага, расстралялі ў глінішчах. Ты памятаеш гэта? Я памятаю добра. Нядаўна яго сын, жывёлавод у калгасе, былы чырвонаармеец, вырataваў з падпаленага ворагамі хлява нашы калгасныя каровы. Памяць у мяне добрая.

Закіпае ў сярэдзіне ў Аляксея, быццам у жылы яму ўліваецца гарачы кіпень, і кіпень той шпарка бяжыць па жылах да самага сэрца. Ён разумее—гэта пачуццё глыбокага абурэння на тых, хто ў халоднаразлічанай сваёй нянавісці ў руіны імкнецца разбурыць працу людскую, працу, якая з бяздоння гора і паднявольнасці ўзнімаецца на п'едэстал радасці, на п'едэстал геройства і гонару.

— Слухай... Чуеш?... Вярніся дамоў,—чуе ён чорствы і незнаёмы голас брата. Але сэнс гэтых слоў толькі штурхае яго ўперад.

— Не ашуквай сябе дарэмнымі надзеямі—мы на простай дарозе ў заставу. Старайся лепей абдумаць усё і сказаць толькі праўду.

— Вытры губы, шчанё, ты яшчэ малады разважаць аб праўдзе. Праўда заключаецца ў магазыне рэвальвера, у гранаце, у штыху. Ты зялёны яшчэ разумець сэнс жыцця, і, па ўсіх акалічнасцях, табе так і не ўдасца зразумець яго.

Халодны металічны лёскат адведзенага ў рэвальверы затвора пачуўся за гутаркай.

— Ідзі спаць і дай мне ісці сваёй дарогай.

Аляксей умомант і востра зразумеў усё.

— Але ты памыляешся... Гэтыя дарогі ў нас заараны даўно. Ты памыляешся, думаючы, што ідэю можна расстраляць з рэвальвера, закалоць штыхом або ўзарваць гранатай. Ты забываеш, што нашыя

ідэі неўмірушчыя, бо яны жывуць у найвелізарных тварэннях працоўных рук і розуму, жывуць у свядомасці мас, і таму на абарону гэтых тварэнняў устануць мільёны ўзброеных навейшай ваеннай тэхнікай. Ты памыляешся...

Ён не даказаў. Ад моцнага ўдара ў грудзі зацяло ў яго мову. Але аднача сна кіпень закіпеў у жылах і пабег да сэрца. Ён віхрам ірвануўся ўперад і адным шырокім крокам насціг таго.

Росту былі яны, бадай, аднаго. І калі ў старэйшага за плячыма было больш трываласці, дык у малодшага была яго маладосць, маладосць дваццаці аднаго года, а ў мускулах эластычнасць, пруткасць прызыўніка-фізкультурніка.

І захадзіла ходырам начная цемра, пусцілася ў шалёныя дзікія скокі, падхапіўшы з сабою абодвух—паводле людскіх умоўнасцей—братоў. Спляліся ў моцным пощіску рукі. Ногі выганцоўвалі дзікі і бязлітасны танец, танец жыцця і смерці. Сэнс жыцця знаходзіў самае яркае, самае вялікае і магутнае сваё праяўленне. Праўда жыцця інтэнсіўна жыла ў гуках і рухах барацьбы. Але вось дзве рукі раз'яднаціся, і малодшая напаткала аброслае жорсткімі сухімі валасамі горла. Старэйшая намацала гладкі метал рэвальвера. І аднача сна з хрыпам у валасатым горле прагрымеў знізу ўгару звонкі стрэл. Хрып праглынуўся звонам стрэла, і глухое водгулле апошняга сканала ў танцоўнай далечыні.

Дзікія цені ўблізку пакідалі свой раз'юшаны танец жыцця і смерці. На дарогуападала шапатлівая чулая цішыня.

* * *

Дарэмна чакала маці малодшага сына. Не пры чакала. І нейкая крыўда ў душы была: не паслухаў-жа вось, загібае недзе. Папрыходзілі з начное работы дочкі, а яна ляжала з адкрытымі вачыма і змежыць не магла зморавых веяк. І цені начныя, як здані неўлавёныя, блукалі вакол. І доўга жаданы сон не злятаў да яе на сваіх лёгкіх крылах. Дарэмна чакала.

Начальнік заставы пагранвойск, цёмнае ночы аб'язджаючы з байцом свой раён, заўважыў спалох у поступе каня. А калі ён паспрабаваў даць каню шпоры, той стаў на дыбкі і пайшоў задам. Начальнік злез з сядла і аддаў павады байцу. Электрычным ліхтарыкам асвятліўшы дарогу, ён убачыў дзве нерухомыя чалавечыя фігуры, рукамі і нагамі пераплеценыя ў смяротнай барацьбе. Але блізкае азнаямленне паказала, што калі душа аднаго з іх адправілася ўжо ў апошнюю падарож па хвалях пахмурнага Стыкса, дык другому закаханая смерць яшчэ марудзіла аддаць свой пацалунак.

Абодва былі адпраўлены на заставу.

Доўга прыйшлося чакаць матцы свайго малодшага сына.

Некалькі дзён, як у зыбцы, калыхаўся ён паміж жыццём і смерцю.

А старэйшага... Старэйшага яна, бадай, і не чакала, яшчэ зажыва пахаваўшы яго значна раней. І гэтая іронія лёсу толькі больш выразна падкрэслівала тое, што мы разумеем як сэнс жыцця.

Малодшы.. Ён падараваў сваёй закаханай яе пацалунак і вярнуўся на квітнеючы бераг жыцця.

Яшчэ да прызыва магутны арганізм прывёў яго зноў у рады жывых і дужых. І перад самым прызывам маці праліла апошнія ўжо слёзы, але гэта былі слёзы вялікае радасці на грудзях у здаровага сына, якога яна гэтак доўга чакала.

Прызначаны быў ён у пагранічнае войска і цяпер скалою непарушнай стаіць на граніцы Далёкага Ўсхода.

---

ПЯТРО ГЛЕБКА

# ДВА ВЕРШЫ

## ПЕРАМОГА

У нас было шмат
для гаворкі прычын:
над садам вясна
рассыпала пялёсткі,
чарэмшынай пахкай
цвіла далячынь,
заходзіла сонца
ў ружовых усплёсках.

Мы дбайнай рукой
дасявалі ганкі,
наступнага планы
разгортвалі шырай,
нам ветла ўсміхаліся
нашы жанкі—
і гэтае ўсё
выклікала на шчырасць.

Адменнае слова
сказаў старшыня:
— Мой сын на граніцы
чырвонаармейцам,
мы з ім парашылі,
што кожнаму з нас
належыць змагацца
за першае месца.

І я, безумоўна,
шчаслівы і рад,
што добра зародзіць
густая пшаніца,
што сын мой—
совецкай краіны салдат,
пільней вартаваць будзе
нашы граніцы.

Наступнае слова
трымаў брыгадзір:
— Мы доўга, бывала,
спрачаліся з братам,

пакуль не сказалі:
адзін на адзін
ідуць у спаборніцтва
нашы брыгады.

І я гэтак сама
сягонечы рад,
што нашы аўсы
падымаюцца ўгору,
што слёсару Мішу,
каторы мой брат,
не будзе за брата
малодшага сорам.

Апошняе слова
сказаў трактарыст:
— А мы падпісалі умову з дзяўчынай:
хто першы закончыць
сяўбу да пары,
таму не жаніцца
не будзе прычыны.

І я, прызнаюся,
да чорцікаў рад,
што нашы палі
зашумяць каласамі,
што дзеўчына будзе
старацца стократ
і выйдзе такі
за мяне яна замуж.

Ад гэтай прамовы
смяяліся ўсе—
прычын весялосці
у нас было многа:
вясна развіналася
ў поўнай красе,
руплівай хадою
ішла перамога.

Мы дбайнай рукой
дасявалі ганкі,
наступнага плану
разгортвалі шырай,
нам ветла ўсміхаліся
нашы жанкі,
а мы іх любілі,
любілі іх шчыра.

## СЯБРОЎСТВА

Яшчэ не сплывае настоены змрок,
гусцейшы за чорныя хмары—
на голас сірэны ідуць яны ўтрох,
і кожны другому—
таварыш.

Дармо,
што старэйшаму шэсцьдзесят год,
сярэдняму—
сорак чатыры,
малодшаму—
трыццаць,
і то без чаго,—
вітаюцца ветла і шчыра.

Сяброўства такое вядзецца здаўна,
яго не закрэсліць,
не сцерці.
Яно нарадзілася сілы з'яднаць,
яно ратавала ад смерці,

яно разграміла нашчэнт Калчака,
бандытаў усякіх пакрояў,
яно ратавала ў баях хлапчука—
малодшага з нашых герояў,

яно правяло цераз горы віюг
ад Віслы да Чорнага мора,
яны яго неслі,
як дужасць сваю,
і пакарылі прастору.

Цяпер,
знітаваныя шчыльна утрох,
і кожны другому—
таварыш,
падходзяць яны да заводскіх варот
з прысудам суровым на тварах.

Каб словам дачасным не скрыўдзіць каго,
на вочы другому не трапіць,
яны абыходзяць адзін аднаго,
чытаюць уважліва графік.

Малодшага выраб—
семнаццаць звыш ста,
сярэдняга—
сто і семнаццаць,
старэйшы, вядома, ад іх не адстаў,
а значыць—
ільга прывітацца.

Ніхто ўжо самоты не можа цярпець,
усмешка зіяе на тварах,
нібыта заўважылі толькі цяпер,
што кожны другому—
таварыш.

Сяброўства-ж такое вядзецца здаўна,
яго не закрэсліць,
не сцерці,
яно нарадзілася сілы з'яднаць,

яно ратавала ад смерці,
яно і на новых узмежках дарог
кладзецца цяжкімі слядамі,
яно да вялікіх вядзе перамог,
мінае гады за гадамі,

яны яго мерацъ,
як дужасць сваю,
на лічбы заводскага росту.
І гэта адзіны праўдзівы саюз,
праўдзівая мэта сяброўства.

---

Новым людзям—
Ледзіку і Толе
прысвячаю.

МІКОЛА ЦЭЛЕШ

# КУРЫЛКА

*(запіскі вучня царкоўна-прыходскай школы)*

## „Азы і букі“

— От, пачакай-жа! Пойдзеш у школу, абдзярэ табе вушы настаўнік.

Так, звычайна, палохалі мяне за якую-небудзь дуроту дома. Я тады рагатаў і адказваў:

— А от і не абдзярэ. Я буду добра вучыцца.

А сам задумваўся, як-бы так зрабіць, каб у школу не хадзіць.

Калі мне споўнілася восем год, матка прыбрала мяне ў чыстую адзежу, падперазала паяском, абышла кругом, абцягнула сарочку і сказала:

— Ну, мае дзетачкі, сёння ты пойдзеш у школу.

Я ўспомніў пагрозы і павесіў, як гэта кажуць, нос. Бацька ўцягнуў у новыя лапці аборы і кінуў мне іх на зачынак.

— Абувайся ды пойдзем!

Мы выйшлі на вуліцу. Чым бліжэй мы падыходзілі да школы, тым трывожней білася сэрца. Бацька па дарозе гаварыў:

— Ты не дурэй! Слухай настаўніка, добра вучыся. Выўчышся— табе карысць, бацьку падмога. Пісьменны чалавек, гэта—не то, што... Вунь як жыве наш аб'езчык! А якое пісьменства ў яго? Не будзеш вучыцца—дрэнна будзе: пан Курылін сярдзіты!

Панам Курылiным называлі настаўніка.

У школе ішлі ўжо заняткі. У цёмным карыдоры, куды даносіўся з класа голас Курыліна, бацька яшчэ раз папярэдзіў:

— Глядзі-ж!? Барані бог, настаўнік паскардзіцца... Як увойдзеш, не забудзь пакланіцца...

Бацька ўзяўся за клямку і нерашуча адчыніў дзверы. Мы, як старцы, сталі ля парога.

— Добры дзень, пане настаўнік.

Я пакланіўся. Бацька таксама. Курылін ішоў нам насустрач.

— Пане настаўнік,—загаварыў бацька, гледзячы ў вочы настаўніку і камечачы шапку ў руках.—Хлопца, от, у школу, значыцца...

Настаўнік моцна, па-ваеннаму, запытаў:

— Колькі год?

— Восем споўнілася... улетку.

Бацька пераступіў з нагі на нагу.

— Значыцца, дзесятая нядзеля на дзевяты...

— Чытаць можа?

— Яно, сказаць, пане настаўнік, не было дзе вучыцца... значыцца. Хоць сям'я і вялікая, а пісьменных, каб так добра, нікога...

— Ну, добра,—абарваў настаўнік і запытаў у мяне:—Вучыцца хочаш?

Тады была такая традыцыя: пытацца ў вучня—хоча ён вучыцца ці не? Я адказаў:

— Хочу.

Настаўнік паказаў мне на вольнае месца ў першых радах партаў і адвярнуўся ад бацькі.

Бацька, часта кланяючыся, ламаючы шапку ў руках, вышаў з школы. Дзверы зачыніліся. І, здавалася, разам з гэтым зачынілася ў мяне дыханне...

У першы дзень я пісаў палачкі ў касую лінейку. На дом настаўнік загадаў вывучыць першых дванаццаць літараў з такім разлікам, каб заўтра, уранні, я прачытаў іх перад класам.

На двары было сыра. У хаце цесна і цёмна. Я сядзеў з букваром ля комінка. Трашчэлі смальныя карчы. Дзядзька Саўка, малодшы брат бацькі, паказваў мне, бо бацька быў зусім непісьменны.

— Аз,—гаварыў ён.

Я паўтараў.

— Аз.

— Букі.

— Букі.

— Ведзі.

— Ведзі.

— Глаголь.

— Глаголь.

Потым яшчэ і яшчэ, па парадку. Часамі Саўка закрываў буквар і прымушаў паўтараць прачытаныя літары на памяць. Як толькі я ўпэўніўся, што літару ведаю і не забуду, я імкнуўся ўнікнуць у яе нутраны сэнс.

— А што гэта: азы...

— Азы,—адказваў, настойліва, Саўка.

— А букі.

— Букі.

— Ведзі. Куды, каго вядзі?

— Якая табе справа?—пачынаў злаваць Саўка.

Але я не адставаў.

— Букі... букі... Вуча, а сам не ведае.

Саўка шчыпаў мяне за бок. Я яго. Мы пачыналі біцца. Саўка быў старэй за мяне гадоў на восем, але фізічна слабы. Усё-ж плакаў я першы. Тады за мяне заступалася матка.

— За вошта ты яго валтузіш?—крычала яна.

Я смялеў і браўся за корч, каб ударыць Саўку. За яго заступаліся цётка, сястра бацькі, дзед, і ў хаце пачыналася сварка. Саўка забіраўся на печ і плакаў. Бедны Саўка, мне шкода станавілася яго.

— Так праходзіў я „азы“ і „букі“.

### Што неабходна ведаць

Назаўтра я прышоў у школу амаль першым. У класе было пуста. Я вышаў на ганак і сеў. Хутка да мяне падышоў хлопчык Мацвей. Ён жыў па суседству і таксама вучыўся. Мы сядзелі, гаварылі.

— Ты ведаеш, што, перш за ўсе, трэба ведаць?

— Не,—адказаў я.

— Што будзе? Навучу.

— Ну, што?

— Яблык дасі?

У бацькі быў сад. Мацвей бачыў, што ў торбе ў мяне ляжаць яблыкі.

— Дам.

— Вельмі б'ецца наш Курылка,—паскардзіўся Мацвей.

— А хто-ж гэта Курылка?

— Настаўнік. Ён не ведае, што завем мы яго так. Глядзі, не скажы.

— Не!—даў я слова.

— Дык, вось! будзе Курылка цягнуць цябе за вуха ўлева, ты галаву паціханьку, таксама, круці ўлева. Калі ўправа, дык і ты ўправа. Калі ўгару, станавіся на цыпачкі.

Мацвейка смачна еў яблык, чмокаў языком і гаварыў далей:

— От з лапай, дык горш.

— А што гэта—лапа?

— Ты не ведаеш?

Я маўчаў. Мацвей пачаў растлумачваць, што лапа—гэта ёсць лапа.

— Ну, ведаеш?—гаварыў ён.—Курылка зазлуецца. Тады возьме ён, значыцца, лінейку тую, дубовую, што на стале ў яго, і будзе біць тваю лапу.

Я зразумеў.

— Дык, вось! Як размахнецца лінейкай, а ты прымеш руку, ды лінейка грукне аб стол,—гэта горш. Рукі прымаць нельга...

— А як-жа?—сур'ёзна і ў задуменні я запытаў.

— Дай яшчэ адзін яблык.

Я даў. Мацвей зноў пачаў есці.

— Лепш за ўсё трошкі, ціханька пад парту апусціўшы руку, нацягнуць на далонь рукаў світкі. Тады не так шчыпле.

Мацвей хіхікнуў, нацягнуў рукаў на далонь і паказаў, як даваць лапу Курылку.

— А, от, як на жарству ставіць, гэта кепска. Калені баляць, і нічога не зробіш. Я, дык, раблю так: сачу за настаўнікам. Ён адвернецца, я прысяду, а потым, калі трэба, зноў хуценька ўсхаплюся.

Так гаварыў я з Мацвеем. Раптам званок затрашчэў на заняткі.

Курылка стаяў ля стала сярод класа і пучкамі маленькіх, як запалкі, лазовых палачак, павязаных па дзве, тры, пяць і дзесяць, тлумачыў другой групе другое дзеянне арыфметыкі. Я нічога не разумеў, а таму і не слухаў, што кажа Курылка. Я аглядаўся навокал. Мне цікава было, што я ў школе. Перш на перш я ўбачыў на стале Курылкі тоўстую дубовую лінейку, расшчэпленую з абодвух канцоў. Я дагадаўся, што гэта тая самая „лапавая“ лінейка. Далей, у кутку, каля групкі, стаяла скрыначка з набітай жарствой. Назначэнне гэтай жарствы я ўжо ведаў.

Раптам Курылка топнуў нагой.

— Мацвей, ты чым там займаешся?

Мацвей падняўся з парты і глядзеў перад сабой.

— Ідзі сюды!

Мацвей вылез з-за парты.

— Адымі ад трыццаці сямі дзевятнаццаць.

Мацвей узяў анучу, сцер напісанае з дошкі і паставіў названыя лічбы. А далей, як відаць, ад спалоху, не ведаў, што рабіць.

— Ну!

Мацвей стаіць.

— Ну!—ужо моцна крычаў Курылка.—Ты слухаў, што гаварыў я?

Мацвей маўчаў.

Курылка падбег да Мацвея, узяў двума пальцамі—вялікім і паказальным—за валасы на патыліцы і пацягнуў угару. Мацвей зморшчыўся, падняўся на цыпачках.

— Дык ты так?—крыкнуў Курылка, схапіў яго за каўнер, хацеў штурхнуць да дзвярэй. Але разагнаўся не ў меру. Ногі Мацвея адарваліся ад падлогі, цыркулем павіслі ў паветры. Бацькавы валенкі паляцелі па класе. Мацвей адарваўся, пакаціўся па падлозе, ударыўся аб ножкі парты. У класе стаяла мертвая цішыня. Здавалася, каб павук дзе кранууўся, дык і то было-б чуваць. Я сатраснууўся...

### Парада прыгадзілася

Мацвей быў старэйшы за мяне гады на два, мацнейшы і смялейшы. Мы здружыліся з ім. Я заўсёды заходзіў за ім, і мы разам ішлі ў школу. Часцяком я даваў яму хлеб, бульбу і яблыкі.

Неяк з першых яшчэ дзён была вельмі цёплая раніца. Мы стаялі з Мацвеем ля сценкі і грэліся. Заняткаў яшчэ не было.

Раптам да нас падышоў вучань Коля. Коля быў аднагодак з Мацвеем, але куды здаравейшы. Бацька Колі меў паравы млын і быў багаты. Яго баялася наша вёска. Нават настаўнік і той пальцам ніколі не крануў Колю, не гледзячы на тое, што ён дрэнна вучыўся і вельмі дурэў.

Коля апрануты зусім не так, як мы з Мацвеем. На ім было чорнае, цёплае пальто, на нагах новыя боты, добрая шапка.

Коля падышоў да нас і прыціснуў знарок мне нагу новым ботам. Я штурхануў Колю ў грудзі.

— Ну, не штурхацца!—агрызнуўся той і штурхнуў мяне яшчэ раз, потым яшчэ і яшчэ.

Я зірнуў на Мацвея. Коля ў гэты час ужо добра ўчапіўся за каўнер маёй світкі, гнуў маю галаву, каб паваліць мяне. Мацвей грозна крыкнуў:

— Кінь.

— А ты?—кінуў Коля.

— Ну!

— Што?

Завязалася бойка. Мы з Мацвеем накінуліся на Колю. Але той не здаваўся і зваліў мяне ў пясок на бульбянішчы, а потым прыняўся за Мацвея. Я ўчапіўся Колю за ногі. Той захістаўся і сеў мне на шыю. Так мы качаліся па бульбянішчы, пападаючы то абодвы на Колю, то Коля на каторага з нас.

У нашай школе вучылася толькі адна дзяўчынка Ніна. Гэта была дачка аб'езчыка. Аб'езчык меў шмат зямлі і жыў вельмі багата. Бацька не раз прыводзіў мне прыклад: „Вучыся, вучыся. Месца аб'езчыка знойдзецца“.

У чыстай ружовай сукенцы Ніна сядзела на вакне і ўвесь час смяялася. Як прышлі мы з Мацвеем у клас, яна торкала пальцам і дражніла:

— Казлы, казлы. Але не здужалі Колю. Ён адзін вас...

Наогул яна часта дражніла нас і ёй сходзіла гэта. Але цяпер Мацвей падбачэніўся і сказаў:

— Ну, ты можа здужаеш?

— А от здужаю.

У гэты-ж момант Мацвей маргнуў мне вокам. Я дагадаўся, у чым справа. Не паспела Ніна саскочыць з вакна, як Мацвей штурхнуў яе ў грудзі, я падхапіў за нагу. Ніна паляцела за вакно і раўла там. Убег. Курылка.

— Што такое? У чым справа?

— Вось гэтыя ба-а-а-ся-я-я-кі!...—сказала скрозь слёзы Ніна.

Курылка тупаў нагамі, крычаў, махаў лінейкай. У мяне халадзела ўнутры. Хутка я нацягваў рукаў світкі на далонь. Але лапа была добрая, далонь пасінела і доўга шчымела. Мацвей атрымаў па абодвух руках і нейк балюча скрывіў твар.

## Тонкая палітыка

Наша школа стаяла на пустыры, сярод вёскі. Гэта была старая, крытая цёсам будыніна. Калісь у ёй была карчма. Потым карчму зрабілі новую, а для школы ўзялі стары будынак. Страха яе дзе ні дзе праваліласся, і, як рэбры абгладанай ваўкамі жывёлы, тырчэлі кроквы і латы. Пабітыя шыбы выглядалі чорнымі плямамі. У класе заўсёды было халодна і непрыемна.

Ля школы быў гарод. Далей, за гародам пачыналася балота, праз якое працякала, як казалі ў нас, рэчка. Але гэта не была рэчка. Гэта была проста канава. Яна ўлетку зарастала травой, вада ў ёй пакрывалася зялёнай муццю і разносіла ўсякія хваробы.

Каля самага балота, крокаў на дзвесце ад школы, стаяла маленькая, чорная, зусім не пакрытая кузня.

Уласнік кузні, каваль Іцка, з чорным закураным тварам, рыжаватай барадой, штодзень праходзіў ля школы ў кузню. За ім ішлі сыны і памочнікі: Хаім, хлапец гадоў пад пятнаццаць, і Лэйзар—гадоў пад дзесяць.

Каваль Іцка звычайна нёс на сабе якія-небудзь драбіны, стары плуг ці яшчэ што. А Хаім і Лэйзар—жалеззе, малаткі, абручы.

Мы любілі бываць у кузні. Бывала, празвоніць званок на перамену, і мы, з крыкам і бойкамі, панясемся ў кузню. Кожны імкнуўся першым дабегчы, каб быць ля самага горна. Цікава было! Шухае мех! На распаленых вуглях скачуць язычкі агеньчыкаў, спачатку сіняватыя, потым, калі мех пачне ямчэй раздзімацца, вуглі разгарацца, агеньчыкі чырванеюць і, урэшце, становяцца белаватымі. Усунуты кавалак жалеза ў вуглі становіцца цмяным, потым, чым больш награецца, тым больш чырванее і ўрэшце стане ружова-празрыстым, напрыклад, такі, як на сонцы спелая маліна.

Цікава было! А яшчэ цікавей станавілася, калі Іцка крыкне Хаіму і Лэйзару.

— А ну, хлопцы! Гоп-та-та...

І стукне сваім маленькім молатам, абцугамі трымаючы чырвонае жалеза на кавадле.

Тады сыпецца дождж агнявых іскраў з-пад молатаў Хаіма і маленькага Лэйзара і ляцяць звонкія гукі праз дзіравую страху, і рэха працы адгукнецца ў ціхім балоце... А стары Іцка, заахвочаны працай, заспявае нейкую песню: цягучую і нудную, такую, якую пець мог толькі наш Іцка. Ад гэтай песні ў мяне сціснецца сэрца, пакрыюцца вільгацою вочы. Аб чым ён пеў, нам невядома... І нам вельмі хацелася больш быць у кузні, глядзець на веер чырвона-малінавых іскраў, слухаць песню пад звон жалеза. А яшчэ больш хацелася біць самім молатам па гарачым жалезе, рабіць з яго, што захочаш. Напрыклад, у мяне заўсёды з'яўлялася думка: „Лепш быць кавалём, чым вучыцца". Я нават збіраўся прасіць бацьку, каб аддаў ён у кузню мяне. І тады я выкую нешта такое, што сам Іцка аж здзівіцца.

Часамі Іцка зірне на каторага з нас, угадае наша жаданне і скажа:

— А ну-тка, пасапі ў мех. Тады мы ўсе кінемся да палкі, якой раздзімаюць мех, і чуць не паб'емся за пяршынства. Але—вось і званок! Неахвота пакідаць кузню.

Любілі мы старога Іцку. Любіў і Іцка нас. Асабліва сяброўскія зносіны былі між кавалямі і Мацвеем. Чаму? Не ведаю. Магчыма таму, што ў іх жыцці было нешта агульнае. Бацька Мацвея таксама не меў ні зямлі, ні гаспадаркі і жыў з таго, што наймаўся пасвіць сялянскіх кароў. Але Коля і Ніна, як я ведаю, рэдка заходзілі ў кузню.

— Што там? Толькі запэцкаешся ды адзежу прапаліш!—казала Ніна.

А Коля чамусьці не любіў кавалёў.

Курылка таксама часта лаяў старога Іцку.

Быў цёплы дзень. Снег камячыўся і чапляўся за ногі.

На пераменцы мы гулялі ў снежкі. Курылка, накрыўшыся курткай, стаяў на ганку. Гулялі ў снежкі мы на гародзе, праз які ланцужком бегла сцежка ў кузню. Раптам з вуліцы вышаў Іцка з сынамі. Стары каваль нёс пару колаў, а маладыя жалеза на шыны.

У нашай школе вучыліся хлопцы і вялікія. Як толькі Коля ўбачыў кавалёў, паклікаў некалькі вучняў, нешта шапнуў ім. Хлопцы, з крыкамі і рогатам кінуліся на кавалёў. Першым бег Коля. За дарослымі кінуліся меншыя. Але некаторыя стаялі на месцы. Мацвей не ўдзельнічаў у бойцы.

Дзеці кружыліся вакол кавалёў, хапалі снег, камячылі снежкі і кідалі імі. Спачатку Іцка, Хаім і Лэйзар паспрабавалі абараняцца, але не паспеюць яны нагнуцца, як дзесяткі снежак ляцяць у іх твар, у нос, за каўнер. Настаўнік хіхікаў...

Кружыліся дзеці, бегалі кавалі. Бойка цягнулася мінут колькі. Кавалі былі рабымі ад снегу. Раптам Іцка спыніўся, сеў на кінутыя колы, схапіўся за лоб.

— Разбойнікі! Што вы робіце?

Падняў руку, патрос ёю ў паветры, хапіўся за голаву. Рука была ў крыві. Здзеў шапку,—тонкім струменьчыкам цацілася кроў па твары. Іцка размазваў яе. Коля смяяўся. Курылка скрыўся ў школу. Мне стала страшна. Некаторыя таксама глядзелі напалохана і здзіўлена. І ніхто не мог зразумець, як здарылася гэта.

— Нехта каменем!—сказаў Мацвей.

А хто—невядома. Толькі я ведаў, хто. У самы разгар бойкі ў мяне разулася нага, я падышоў да сцяны школы, паставіў нагу на цэглы фундамента і пераабуваўся. І я бачыў, як Коля ціханька закамечваў у снег камень. Але цяпер я маўчаў.

Хутка аб здарэнні ўведала ўся вёска.

— Школьнікі Іцку пабілі!—гаварылі адзін аднаму.

— Эт, вучы іх! Дурэюць!—гаварылі бацькі.

Назаўтра дома мне загадалі:

— Глядзі, не чапай, а то... Ён табе не раўня!

Я сказаў бацьку, як здарылася гэта. Той адказаў:

— Далі волю ім!—Уздыхнуў.—Нечага гаварыць!? Далі волю! Хутка і па вуліцы не прапусцяць.

Я ведаў, што мой бацька вельмі не любіў бацьку Колі.

Пасля таго больш ніхто не крануў кавалёў, але амаль што ніхто і не заходзіў у кузню.

## Ку-ка—рэ-ку

Адзін раз у сем дзён у нашу школу наязджаў поп. Звычайна ён загадваў прачытаць ці прапець пару малітваў, задаваў два-тры пытанні па евангеллю і ад'язджаў. А іншы раз, апрача таго, мучыў па доўгу спяваннем царкоўных песень, пакідаў без абеда на цэлыя гадзіны ўсю групу, ставіў на калені.

Аднаго разу поп прыехаў падвечар, на апошні ўрок. У школе ўжо станавілася цёмна. Праз дзесяць мінут вучні ўсіх груп былі выстраены ў рад па тры. Курылка ўдарыў камертонам па парце, нагнуў галаву, прыклаў яго да вуха і працягнуў:

— А-а-а а...

Мы паўтаралі:

— А-а-а-а...

Галасы былі расстаўлены. Поп цягнуў па-царкоўнаму. Курылка кіраваў хорам. Ён, як крумкач, махаў рукавамі, крывіў твар, касіў вочы, круціў галавой і тупаў нагамі на тых, хто фальшывіў.

— Отча-анааа...ш...—кацілася ў класе.

Я стаяў у заднім раду. Мацвей ля мяне. Тут было цёмна. Мацвей падпяваў у такт песні:

— Отча-а нааш... курэй краў... пад печ хаваў....

Яго голас зліваўся з апошнімі. Але тыя, што стаялі ля нас, усе чулі. Душыў смех. Мы штурхалі адзін аднаго локцямі. Некаторыя хіхікалі. Спевы канчаліся. Тады Мацвей, у самым канцы спеваў, прапеў пеўнем.

— Куу-каа-рээкууу...

Здавалася, бомба ўляцела ў клас. Так адразу стала ціха. Поп бегаў кругом нас, задзіраў галаву і кулдыячыў, як індык.

— Хто крычаў? Хто крычаў?

Курылка захліпаўся.

— Хто пеў?

Мы маўчалі.

— На тры гадзіны пакінуць у класе!—сказаў поп.

Было цёмна. Хацелася есці. Мы стаялі гуртам ля вакна. Месяц клаўся праз шыбы на парты. Раптам Коля сказаў:

— За аднаго дурня ўсім дрэнна. Даць яму!

— Табе даць!—адказаў спакойна Мацвей.

— Мне? Я не пеў пеўнем, не дурэў.

Тады я ўступіўся за Мацвея.

— Ты каменем біў каваля.

— Ну, дык што? Біць яго можна,—адказаў спакойна Коля.

Тады крыкнуў Мацвей:

— За што—біць? Каваль бедны, але не злодзей. А твой бацька крадзе ў сялян муку...

За Колю заступілася Ніна.

— А твой бацька пастух!—крыкнула яна на Мацвея.

— А твой—хабары дзярэ з мужыкоў,—адрэзаў Мацвей.

Коля ўжо круціўся ля Мацвея. Я стаў у абарону. Ніна за Колю. Той крычаў:

— Бі пастухоў!

Клас раздзяліўся на дзве часткі: большасць з намі, меншасць, хто быў падкуплены Колем,—за іх. Пачалася бойка. Нешта стукнула недзе. Нехта крактаў, плакаў. Рыпелі парты. У цемры падалі крэслы. Раптам:

— Вы што?

Усе заціхлі. Ніна казала Курылку:

— От, гэтыя басякі б'юць нас.

Курылка Колю і Ніну адпусціў дамоў, а нас яшчэ пакінуў гадзіны на дзве.

Па дарозе да хаты з галавы ў мяне не выходзілі словы: „Аб'езчык дзярэ з мужыкоў хабары. Колін бацька крадзе муку ў сялян". Для мяне гэта нова было.

Бацька дома спытаў:

— Дзе шляўся так позна?
Я адказаў:
— Не буду аб'езчыкам! Ён „дзярэ хабары“.
Бацька ўсміхнуўся:
— Дурань ты! Яму даюць, от і „дзярэ“.

### Непрызнаныя даследчыкі

Дзіўны быў хлопец Мацвей! Вельмі дзіўны. Я блізка з ім жыў. Разам качаліся ў пыле на вуліцы. Разам коняй, цялят пасвілі. Шмат чаго мы разам рабілі.

Бывала, матка скажа Мацвею:

— Збегай, Мацвейка, поўвядзерца вады прынясі.

Прынесці вады для Мацвея, гэта не толькі прынесці вады. Не так хутка гэта робіцца. Мала што можа сустрэцца цікавае па дарозе да калодзежа.

І возьме Мацвей вядро, выйдзе на вуліцу, як, раптам, якая-небудзь птушка цікавая сядзе на ліпу, што стаіць ля калодзежа. Трэба-ж ведаць яму, што за птушка такая. Стаіць Мацвей мінуту, дзве мінуты, глядзіць, сочыць,—пра ваду зусім забыў.

Ці яшчэ!

Мацвей часта хадзіў з бацькам за падпаска.

— Збегай, вунь, кароў ад жыта адгані!—скажа бацька.

Бяжыць Мацвей. Раптам жук ці казюрка паўзе такая, што рэдка сустрэнеш. А што гэта за казюрка, за жук? А як яна паўзе, дзе жыве? Пераверне казюрку, ногі падлічыць. А бацька крычыць:

— Мацвей! Мацвей, каровы глядзі вунь...

Мацвей адгоніць тады.

— Што ты там рабіў?

— Так, нічога.

— Нічога? Вар'ят!

Адлупіць бацька. Але Мацвей прывык да гэтага і ніколі не плакаў,—упарты быў хлопец.

Вельмі ўпарты быў Мацвей. У школе, чым больш біў яго Курылка, тым горш ён вучыўся, тым больш розных штук адколваў. Здавалася, што Мацвей ганарыцца гэтым.

Аднаго разу Курылка выклікаў Мацвея да дошкі. Тады ён быў ужо ў другой групе.

— Падзялі сорак пяць на тры і прыбаў дзесяць.

Мацвей напісаў сорак пяць, паставіў дзве кропкі, а далей... маўчаў.

— Ну!—падагнаў Курылка.

Мацвей аглянуўся, чмыхнуў носам, задраў галаву і пачаў глядзець угору.

— Ну!—паўтарыў Курылка ўжо мацней.

Мацвей, пераступае з нагі на нагу, пачынае сачыць за Курылкам.

— Нууу!—у апошні раз крычыць Курылка.

Бедны Мацвей робіць крок убок, чакае нападу свайго ворага, кладзе мел на дошку. А між тым, я добра ўпэўнен, што Мацвей куды больш ведаў, чым падзяліць сорак пяць на тры. Ён ведаў, колькі бацька атрымае ад сялян хлеба, калі за лета ад каровы кожны заплаціць па дзесяць фунтаў. Ён ведаў, колькі пудоў хлеба не хопіць у іх да наступнай восені. Усё гэта ён сам вылічаў. А от цяпер ён не можа падзяліць сорак пяць на тры. Гэта дзіўным мне здавалася.

— Дык не можаш, не ўмееш?—спытаў Курылка.—Гааа!

Ён падсунуўся да Мацвея, узяў яго за вуха, падняў угору, пацягнуў у бок і толькі, як відаць, хацеў ставіць на жарству, як да вакна школы падляцеў на шэрым вялікім кані нейкі начальнік. Курылка зірнуў праз вакно.

— Садзіся, балдаўня.

Але пакарання Мацвей у гэты дзень не мінуў.

У клас увайшоў „благачынны". Ён да нас прыязджаў адзін раз у месяц. Пачаўся ўрок „па закону божаму".

Благачынны сядзеў ля стала, шырока расставіўшы ногі ў новых валёнках і галошах, і тоненькім галаском, прыпяваючы, гаварыў:—

— ...Ну, Аўрам радзіў Ісаака, Ісаак радзіў Якава... а Якаў каго?

І благачынны выклікаў аднаго за другім вучняў. У класе было ціха і нудна...

У гэты час на раму вакна села сініца. Яна махнула хвастом уніз, угору, крутнулася, ціўкнула і стукнула дзюбай па шыбе. Потым пачала чысціць носік аб пер'я, растапырыўшы крылы. Я бачыў, як Мацвей глядзеў на птушку і ўсміхаўся. Як відаць, убачыў гэта і благачынны. Ён торкнуў на Мацвея пальцам і сказаў:

— Ну, ты! Як цябе зваць?

Мацвей не пачуў спачатку і не адрываў вачэй ад птушкі.

— Ну, як цябе там?—крыкнуў другі раз.

Мацвей назваў сваё імя.

— Мацвей? Добра! От, ты добра слухаў, — сказаў благачынны хітра.—Скажы, каго радзіў Якаў?

Мацвей падняўся з парты, маўчаў.

— Ну, што-ж ты? Ты слухаў?

— Слухаў,—зманіў Мацвей.

— Ну, дык скажы: каго-ж, па-твойму, радзіў Якаў?

Мацвей сказаў:

— Якаў? Нікога. Якавіха хутка родзіць, а каго—невядома.

Благачынны спачатку аж падскочыў: у Курылкі, здавалася, валасы сталі дубка.

— Што?.. што ты сказаў?—запытаўся ён.

Мацвей маўчаў, як забіты. Благачынны злосна зірнуў на Курылку.

— Што ён сказаў?

Той паціснўў плячмі, нібы і не ведаў. Гэта вельмі раззлавала благачыннага. Ён закружыўся па класе, як цэцярук на таку, і крычаў:

— Што ён казаў? Чаму вы вучыце іх?.. Вы!.. Я вас!.. Што ён казаў? Якавіха? Якая Якавіха?

Я хацеў услужыць ім абодвум і, без дазволу, не падняўшы рукі, хуценька ўстаў і сказаў:

— Якавіха, гэта суседка наша. Бабы кажуць...

— Дурак!—крыкнуў благачынны.—Маўчаць!—І зноў накінуўся на Курылку.—Вось!.. Вось, чаму вы іх вучыце!

Праз некалькі мінут благачынны сядзеў на крэсле. Я і Мацвей стаялі ля яго на каленях: я, як навічок, на падлозе, а Мацвей на жарстве. Доўгі падраснік папа звісаў да долу і слаўся перад намі. Коля тыркаў у нас пальцамі, паказваў фігуры. Ніна высоўвала язык. Нам было нудна і злосна...

Папоў я наогул баяўся чамусьці заўсёды. Бывала, у пост, поп хадзіў па кілбасах. З кожнай хаты яму павінны былі даць не менш, чым кольца, кілбас. Прыдзе поп да нас, а я—на печ. А матка шэпча:

— Ідзі, мае дзетачкі, пацалуй руку бацюшку.

Мяне крыўдзіла гэта. За што цалаваць яму руку? Чаму аддаваць яму кілбасы ў той час, як самі ядзім адну бульбу? І, разам з тым,

узнікалі думкі такога парадку: чаму поп так апранаецца, не стрыжэцца? Я пытаўся пра гэта ў маткі. Матка лаялася і казала:

— Ён іншы, чым мы... Ен „святы“ чалавек...

Я адказваў:

— Калі святы, дык навошта яму кілбасы?

— Дурны ты нейкі, вось што. Шалёныя думкі табе ў галаву лезуць...

Я змаўкаў і рашэнне задачы адкладваў.

І вось зараз я стаю на каленях. І так блізка ля мяне поп. І радзілася думка: а што, калі паглядзець, як апранаецца ён? Калі так, як і ўсе, дык ён такі самы, як і мы.

У гэты час поп нешта запісваў у кнігу. Курылка корпаўся ў шафе. Вучні чыталі евангеліе. Я ціханька нагнуўся да вуха Мацвея і сказаў яму сваю думку. Той зараз-жа, бясшумна, падсунуўся трохі бліжэй да благачыннага і пачаў паднімаць пальцам падраснік. Я ў другім месцы. Спачатку паказалася валёнка, потым, пад калена чорныя суконныя штаны. Раптам я заўважыў, як Коля хіхікнуў. Благачынны крануўся, зірнуў на нас і адразу-ж ускочыў, як падпалены. Невядома, што падумаў ён у гэты час.

Усё змянілася ў класе. Дзеці замерлі. Настаўнік трымаў нас за вушы. Благачынны, як відаць, не ведаў, у чым справа. Ён думаў, што падрабілі яму нейкую іншую штуку. Ён кружыўся ваўчком па класе, махаў рукамі,—парусам надзімаўся яго падраснік.

— Ах!.. ах... ах...—ахкаў ён.

Твар перакрыўлены. Вочы блішчаць. Нос раздуты, дрыжыць, зрабіўся сінім. Мы прапалі! Нас білі пасля, як ніколі. Коля строіў нам рожы.

Мацвею абвясцілі, што вучыцца ён не можа. Мой учынак занеслі ў школьную кнігу.

А як вышлі дамоў, Мацвей крыкнуў на Колю:

— Абдзірала!

Ніна ў адказ.

— Пастух!

Я за Мацвея.

— Хапунка!

— Пастухі!

Мы памянулі жывых і мёртвых. Потым узяліся за каменні...

## Твор

Вучыўся я лёгка і ніколі не сядзеў над кніжкамі доўга. Але затое не раз маўчаў на ўроку. І не таму маўчаў, што не ведаў яго. Не! Я быў настолькі нясмелым і забітым, што, бывала, дрыжэў перад Курылкам. А вось ды не тое, ды не так, што тады будзе? Ну і дасць!

Аднаго разу, неяк перад вольным днём, Курылка загадаў кожнаму вучню трэцяй групы напісаць свой асабісты твор. Кожны павінен быў апісаць якое-небудзь здарэнне.

У той дзень я ішоў з школы ў задуменні. Жартачкі, напісаць твор! Увечары на камінку трашчэлі смольныя карчы. Бацька плёў лапці. Маці прала кудзелю. Я сядзеў перад сшыткам на ўслончыку. Часцяком я падымаў галаву, глядзеў на палаючы агонь і запісваў свае думкі. Так радзіўся мой твор.

Назаўтра Курылка прышоў у школу, кульгаючы.

Трэба сказаць, што Курылка любіў пагуляць. Бывала, перад святам пойдзе ён у мястэчка, дзе была воласць, двухкласная школа, і загуляе Дзень няма, другі няма, на трэці—прыходзіць з сіняком пад вачамі

з перабітай рукой, рассечанымі губамі, ці яшчэ з якой-небудзь адзнакай. У такія дні быў ён маўклівы і вельмі сярдзіты. Часцяком без аніякай віны ён тады збіваў вучня да страты прытомнасці.

Сёння Курылка быў такім самым. Пачаліся заняткі. Ён сядзеў ля свайго стала, паклаўшы нагу на нагу. Адна была ў боце, а другая ў галошы і тоўстай суконнай панчосе. Спачатку была арыфметыка, потым чытанка ў другой групе, потым гісторыя ў нашай групе і, услед за тым, Курылка пазяхнуў і патрабаваў сшыткі па пісанню. Мы падалі. Мусіць у кожнага з нас, як і ў мяне, трапятала ў гэты момант пад лыжачкай. Я адчуваў, што твор напісаў я складна і добра і яшчэ больш хваляваўся. Хутка Курылка паклікаў мяне. Я падышоў.

— Ты пісаў?—запытаў ён, гледзячы ў мой сшытак.

Я заўважыў у яго на вачах нейкія нядобрыя агеньчыкі і ціха, заікаючыся, сказаў:

— Яяя ..

Настаўнік зірнуў мне ў твар. Я схаваў вочы.

— Адкуль ты пісаў?

— Ніадкуль.

Я бачыў, як па твары Курылкі распаўзалася чырвань.

— Ніадкуль?

Курылку, як відаць, мой адказ паказаўся абразай. Яго вочы павіслі на мне. Рукі дрыжэлі. Кульгавая нага калыхалася, як калода. Як так? Колькі біў ён мне за тое, каб я адказаў яму ўрок, біў за пісанне, за нескладнасць пры пераказе прачытаных твораў, а тут... Сам пісаў. Хлусіць! Так, відаць, думаў настаўнік. Спісаў аднекуль! Але адкуль спісаў, Курылка не мог улічыць.

— Хлусіш ты, ты хлусіш! Чуеш, спісаў?—крыкнуў на ўсю школу.

Я маўчаў і стаяў перад ім, як на агні. Я не ведаў, што сказаць. Усе думкі выляцелі ў мяне з галавы.

Курылка схапіў за вуха, моцна, як нажом, сціснуў ногцямі. Я зморшчыўся, але не заплакаў. Я ведаў, што будзе горш. Курылка ірвануў вуха да сябе, сагнуў маю галаву.

— Глядзі, як дрэнна перапісаў! Дзве памылкі зрабіў на старонцы. Ну гавары! Пень, пень!—гавары.

Закруціў маё вуха, зноў нахіліў галаву і стукнуў ілбом у тое месца стала, дзе ляжаў мой сшытак.

— Лапаць, лапаць! Спісаў, лапаць ты! Адкуль спісаў?...

Я зрабіў крок назад.

— Дык ты так!

Курылка схапіў лінейку, стукнуў ёю аб стол. З-пад лінейкі, ад удара, здавалася, пасыпаўся пыл. Аловак, што ляжаў на стале, падскочыў і бразнуў на падлогу. Вучні ўздрыгануліся. Коля хіхікнуў. Я сцяў зубы і яшчэ адступіў, адступіў інстынктыўна. Гэта, як відаць, яшчэ больш раззлавала Курылку.

— Дык ты так!

Я спалохаўся і рашыў зманіць. Хай не я напісаў, абы цэлым застацца. І я ціха прашаптаў:

— Яяя, пан настаўнік, спісаў...

— Ага, спісаў, лапаць! Адкуль спісаў?...

Я папаўся. Адкуль спісаў? Сэрца, я чуў, разрывалася. Слёзы душылі мяне. Адкуль я спісаў? Хто паможа сказаць, адкуль-бы я мог спісваць? Што рабіць? У вачах пацямнела. У галаве зрабілася пуста. Толькі рухі Курылкі, яго твар, яго чырвоныя, недаспаўшыя вочы я бачу да падрабязнасці.

— З кніжкі спісаў, пан настаўнік! З кніжкі.

— З кніжкі? З якой кніжкі?..—чую я, скрозь сон.—З кніжкі! Ах ты падлюка!... Ах ты!...

Курылка стукнуў лінейкай па маёй галаве. У вушах зазвінела, пацямнела ў вачах. Я захістаўся. Курылка ірвануў мяне да сябе, тармасіў мае вушы, але я ўжо нічога не чуў.

— Усёроўна! —мільганула адзіная думка.—Хай б'е.

Ногі аслабелі, гнуліся ў каленках. Курылка крычаў:

— Ах, ты!... ах, вы... свінні, свінні! У свінушнік вас, а не вучыць...

Праз гадзіну я ішоў дамоў. Вушы гарэлі. Было нудна і сорамна,—неяк сорамна самому за сябе. Мацвей сустрэў мяне ля сваёй хаты.

— Прыходзь увечары, будзем пускаць ваўчка.

Мацвей выняў з кішэні і паказаў мне гэту цацку.

— Сам зрабіў?

— Сам!

Я здзівіўся і згадзіўся прыйсці.

## Іцка вярнуў мне жыццё

Назаўтра ўставаць не хацелася. Ламала ўсё цела. Я сядзеў на зачынку і памалу абкручваў ногі, абуваўся ў лапці. Матка пякла бульбу на снеданне, бацька збіраўся ў лес.

— Ты, што—так позна?—спытаўся бацька.

— Паспею!—адказаў я.

Я ўзяў некалькі бульбін у кішэню і вышаў.

Быў нейкі чорны, пахмурны дзень. У стрэхах свістаў і выў вецер. Слупы снежнага пылу курылі па вуліцы. Нейдзе выў галодны сабака.

Хадзіць у школу мне зараз здавалася нейкім нудным заняткам. Перад вачмі паўставалі малюнкі ўчарашняга, і ў тумане гэтых малюнкаў выплываў і мільгаў чырвоны твар п'янюжкі Курылкі.

Вось і школа. Адчыніўшы чутачку дзверы, я заглянуў у дзірачку і прыслухаўся. Заняткі ішлі. Вучні сядзелі, як мёртвыя цені, над партамі. Перад імі кавыляў храмы Курылка. Я зноў прычыніў дзверы і ўспомніў словы Мацвея, з якім я ўчора правёў вечар.

— Не хадзі больш у школу.

— Бацька будзе біць,—адказаў я.

— Эт, бацька, мой дык—ані! Каб ты не хадзіў, мы-б насеклі дроў, завезлі-б у мястэчка і прадалі-б.

— Не! Я не буду хадзіць у школу,—рашыў я.

І страх, учарашні страх, зноў усяліўся ў маё цела, скаваў мае мазгі, затуманіў свядомасць. Мне здавалася, як толькі пераступлю парог, Курылка зноў накінецца на мяне, пачне біць і крычаць.

Але разам з гэтым, узнікла пытанне: а куды-ж мне ісці? Вярнуцца дамоў? Немагчыма! Расказаць шчыра бацьку—той наўрад ці пашкадуе. Пайсці да Мацвея? Усёроўна ўведаюць. Куды-ж мне дзецца?

Я вышаў з школы, прытуліўся да сцяны і доўга стаяў у задуменні, паглядаючы ў чорную далячынь... Вецер сварыўся пад страхой, недзе ляпаў адарванымі дошкамі.

Раптам у школе затрашчэў званок. Гэта на перапынак. Я скочыў з месца і пабег сцежкай па снягу да кузні.

Кузня была на замку. Я сеў на мялінне, прытуліўшыся плячамі да сцяны. Доўга і без мэты я ўглядаўся ў цёмны небасхіл. Потым выняў з торбы кніжку, паклаў яе на калені і пачаў чытаць. Па снежнай корцы сцелецца пыл. У небе плывуць чорныя воблакі. Вецер шчыпле за рукі, за твар, кідае снегам у вочы.

Мне стала холадна Я паставіў каўнер світкі. Але вецер, здавалася, заходзіў з другога боку, забіраўся пад світку, пад сарочку, як іголкамі калоў маё цела.

Я далей залазіў у світку і плакаў. Услед за тым мне захацелася спаць. Па целе пабегла нейкая млявасць. Стала цёпла. Сыпучы снег мітусіцца перад вачмі, віхрам падымаецца ўгору, сіпіць, паўзе ўсё бліжай і бліжай да мяне, закрываючы ногі. Але мне не хочацца крануцца. І скрозь сон я бачу, як у віхры, разам з снегам, кружыцца Курылка, ён танцуе, усміхаецца, ківае пальцам, пагражае. Але я не баюся. Мне прыемна.

— Ты пісаў! Ты пісаў!—сіпіць настаўнік, як снег.—Ты адкуль спісаў?

— Я не спісаў. Не спісаў я!—крычу.—Сам шмат думаў. Сам шмат працаваў. Рад быў... Быў рад, што напісаў...

І яшчэ горш заліваюся слязмі. Яны, светлыя і цёплыя, коцяцца па твары, пападаюць у рот. Я не страсаю іх. Мне прыемна,—салодкая млявасць разлілася ў целе. А на сэрцы радасць і спакой.

Раптам, я бачу, Курылка спыніўся. Віхры снегу завылі каля ног. А Курылка ўсё бліжай і бліжай плыве да мяне.

— Хадзем! Хадзем у школу! Ты добра вучыўся... Старанны...

Мне прыемна ад гэтага, я больш плачу і крычу...

— Не пайду! Не пайду... яяя... сам напісаў.

Мне хочацца адпомсціць настаўніку..

Прачнуўся я ўжо дома. Ля мяне стаяў каваль Іцка і матка. Твар гарэў агнём. Балюча стукала ў вісках. Ногі і рукі закручаны ў анучы. Яны тоўстыя, як бярозавыя калоды, і баляць. Матка кажа:

— А мае дзетачкі! Што гэта такое з табой?

— Не чапайце яго!—Кажа Іцка.—Не чапайце! Змёрз трохі... Хлопец змёрз.... Хай паспіць.

Назаўтра ў мяне гарэла ўсё цела. Ламала рукі і ногі. Галава, здавалася, была наліта волавам. Нацягнута абручамі. Матка давала нешта цёплае піць. Яно было горкае і жоўтае. Бацька злаваў і лаяўся.

— Каўзель! Каўзель усё гэта! І—іх! Лапцей не набрацца.

— Я рашыў маўчаць да канца.

Увечары зноў прышоў Іцка.

— Ну, як малы?—спытаў у бацькі.

Умяшалася матка.

— От, дзякаваць добраму чалавеку. Прынёс хлопца на руках, выратаваў. А мой ты Іцачка! А мае вы дзетачкі!

Далей Іцка расказваў:

— Іду гэта ў кузню, бачу,—сядзіць хлопец, кніжку чытае. Думаю: што-б гэта значыла. Падыходжу:—„Ты што"?—кажу. Маўчыць і не шавяльнуўся. „Што такое". Падыходжу бліжэй, рукі на кніжцы і белыя, нейкія, нібы косткі; на твары—ручаечкамі замерзлі слёзы. Тармаснуў, рукі аж звіняць! А сэрца, чую, яшчэ трапечыцца. Тармаснуў другі раз.—„Не пайду. Не пайду. Я пісаў"...—крычыць. Ды так неразборчыва, нібы праз слёзы, што я сам ледзь не заплакаў.—„Эээ! Справа кепская!" Я за яго, ды праз агароды, нацянькі. Бягу і баюся:—хаця-б хутчэй! А тут ужо матка, вось яно як...

Іцка падумаў і дадаў:

— Кепскі пан настаўнік. Ах, які кепскі...

Бацька замаргаў вачамі.

Я хварэў аж да вясны.

## Чорныя крумкачы

Курылка ўвесь час рыхтаваўся паступаць вучыцца далей. Увесну ён паехаў у Вільню. У вёсцы казалі: „Пашоў наш настаўнік у афіцэры“. На самай-жа справе, як потым — казала настаўніца, ён паступіў у юнкеры.

Настаўніца прыехала позна. Гэта была маладая, але ўжо худаватая, нібы пажылая, жанчына.

З першага-ж дня яна загадала называць яе не іначай, як Вера Аляксандраўна. Апрача таго, вывела з школы жарству, як метад выхавання, і менш білася лінейкай. Усё-ж білася.

Праўда, каб баяліся і добра вучыліся, яна праз дзень пасылала Колю, сына млынара, на балота па розгі. Пучок гнуткіх лазовых пруцікаў заўсёды ляжаў у яе на стале.

Але ўсё-ж было вальней, чым пры Курылцы. Што датычыць да пруцікаў, дык мы іх, як выходзіла настаўніца з класу, хавалі ці проста кідалі ў печ. Усё-ж вучыліся лепш, чым раней, і некалькі вучняў, у тым ліку і я, у гэтым годзе рыхтаваліся да экзаменаў.

Апрача заняткаў з дзецьмі, Вера Аляксандраўна імкнулася наладзіць нейкую працу і з дарослымі, з бацькамі вучняў.

Аднаго разу, неяк увечары, яна сабрала ў школу нас і бацькоў і чытала нейкую кніжку,—здаецца—„Вечера на хуторе близь Диканьки“— Гогаля.

Мужчыны, мусіць, не разумелі і дрэнна слухалі. Настаўніца сказала:

— Вось, вы не слухаеце, а жывеце, як свінні. Вучыцеся жыць. Жыць трэба лепш!

Бацькі крануліся. Пасыпаліся пытанні. Школа загула.

— Як лепш жыць?

— Навучы!

— Гаворка!..

Адзін нават сказаў:

— Лепш жыць?! Зямля наша ў пана. Скажы нам, парай, як зямлю адабраць?

Настаўніца спалохалася. І „сход“ разагнала.

Як відаць, пра гэта здарэнне пранюхаў поп. У хуткасці ён прыехаў у школу. Пакуль поп злазіў з вазка і ішоў, Вера Аляксандраўна мітусілася па класе.

Поп пачаў экзаменаваць нас па гісторыі. У нашай трэцяй групе ён спытаў:

— Ад чаго на Русі была „смута“.

Усе маўчалі. Кожны баяўся сказаць, каб не памыліцца. Я задумаўся. Мой дзед часта расказваў нам, дзецям, як цяжка жылося пры прыгоне. Расказ дзеда мяне хваляваў. Я ўяўляў малюнкі бунта сялян супроць памешчыкаў і пытаўся ў дзеда:

— А што рабіў цар?

— Цар? Што цару! Ён сам быў памешчык.

— Дык народ быў супроць цара?

— От, які ты!—дзівіўся дзед.—Табе не трэба гэтага ведаць.

Дзед змаўкаў, але расказы яго заставаліся ў памяці. Я рабіў вывад, што памешчыкі душылі сялян, а цар дапамагаў памешчыкам, і народ быў супроць цара. Зараз я ўспомніў пра гэта і зблытаў з тым, што чуў у школе аб смутным часе“. Мяне нібы хто падбухторваў падняць руку.

— Ну!—сказаў поп.

— Ад таго, што народ не хацеў цара...

Поп зморшчыўся, блiснуў чорнымi вачамi на Веру Аляксандраўну i моўчкi паехаў. Вера Аляксандраўна плакала. Я дагадаўся, што вiной гэтаму мой адказ. Мне было шкода настаўнiцы.

Настаўнiцу выклiкалi ў мястэчка праз два днi i больш яна не вярталася. А праз некалькi дней, ад нечага рабiць, я ляжаў на печы з кнiжкай. Раптам у хату ўвайшоў урадкiк. Бацька падняўся насустрач.

— Цябе патрабуюць у мястэчка!—сказаў ураднiк.

— Мяне?!—здзiвiўся бацька.

— Ну, а каго-ж?

Ураднiк зiрнуў на печ, падмiргнуў неяк хiтра мне. У мяне забiлася сэрца. Мне было i страшна i нейкая злосць, якое я не мог перамагчы, брала за сэрца. Бацька апранаў новы кажух.

— За вошта?—спытала матка.

Ураднiк маўчаў, надзьмуўшы чорныя вялiкiя вусы.

Матка пачала плакаць. Як толькi бацька апрануўся i дрыжачымi рукамi пачаў адразаць кавалак хлеба, матка заплакала ўголас.

— Куды?... за што?...

За ёй заплакалi дзецi. Сэрца маё не вытрымала. Я задыхаўся i не мог стрымаць сябе. Схапiўшы качалку, я босы саскочыў з печкi i з плачам i грозным крыкам кiнуўся на ўраднiка. Той адштурхнуў мяне нагой, крыкнуў:

— Шчанё!

Потым узяўся за нагайку. Але бацька ўвесь пачарнеў, суха i каротка папярэдзiў:

— Не чапаць!

У хату ўвайшоў дзед. Дзед мой быў вельмi высокi i здаровы. Ураднiк схаваў нагайку.

Калi вышлi на двор, ураднiк убачыў, што ў каня перарэзаны лейцы.

— Хто нарабiў? Га! Хто?—пытаўся ён гучна.

Бацька пацiскаў плячамi. Лейцы звязалi i паехалi. Пасля гэтага ў хаце было так нудна, нiбы на лаўцы ляжаў нябожчык.

— Сабакi! Крумкачы. Як чорныя крумкачы носяцца...—крычаў бацька ўвечары, калi вярнуўся з мястэчка i нешта пачаў гаварыць матцы. Я хацеў падслухаць, але бацька грозна тупнуў нагой i адагнаў. Яшчэ некалькi разоў бацьку патрабавалi ў мястэчка.

А Мацвей пасля мне прызнаўся, што лейцы перарэзаў ён тады, калi ўраднiк быў у нас у хаце.

— На вошта?—спытаў я.

— А так.

Пасля гэтага мы зноў не вучылiся тыднi тры. Колю i Нiну тады-ж аддалi вучыцца ў горад. Куды iм з намi! Потым, якраз к новаму году, зноў прыслалi настаўнiцу.

### Хто не ведае лiтары яць...

Зноў пачалiся занятки. Да экзамена новая настаўнiца рыхтавала нас траiх, больш паспяваючых, мяне, Нiчыпара i сiрату Алёшу.

Уся ўвага была адведзена нам. Мы даганялi прапушчанае за тры тыднi. У школе мы займалiся цэлы дзень. Потым занятки канчалiся, вучнi iшлi да хаты, а мы зноў прыходзiлi ўвечары.

Мы рашалi задачы, пiсалi пад дыктоўку, займалiся гiсторыяй, малявалi.

Настаўнiца дамагалася, каб у нашым пiсаннi не было нi адной памылкi. Але гэта нiяк не ўдавалася. Лiтара яць заразала нас. Тады настаўнiца садзiла нас у кружок каля лямпы i загадвала вучыць усе,

так званыя, карэнныя словы на памяць. Мы хорам паўтаралі: „звёзды, сёдлы, гнёзды“... А пісалі іх праз яць; „звезды, седлы, гнезды“. Нам здавалася гэта дзікім.

Была блытаніна і з напісаннем літары „ы“ пасля „р“. Гэты склад у некаторых словах выгаварваўся цвёрда, а пісаць трэба яго мякка, праз „і“. Мы ніяк не маглі запамятаць гэтага правіла, і настаўніца таксама загадвала вывучаць на памяць словы: пры... вры.. жры...

Я яшчэ не паправіўся, як след, ад хвароб і з набліжэннем экзамена слабеў і слабеў. Урэшце зусім страціў сілы. Бывала, вучні гуляюць на перапынку, а я з класа зусім не вылажу. Думкі аб яць не выходзілі з галавы. Гэта літара, здавалася, усюды са мной. Яна точыць маё сэрца і, як балячка, раз'ядае цела, кручкамі разрывае мазгі.

Перад самай вясной я зусім захварэў. Часта ў класе страшэнна кружылася галава. З вачэй сыпаліся іскры і плылі кругі: зеленаватыя, сінія, агнявыя. Я зрабіўся маўклівым. На ўроках часцяком не мог адказаць таго, што добра ведаў.

Была пераменка. Дзеці з крыкам, як галкі, насіліся па двары, а я схіліў галаву на парту і сядзеў нерухома. Падыйшла настаўніца.

— А ты чаго не гуляеш?

Я ўзняў галаву і мусіць дзіка глянуў на настаўніцу. Праз мінуту яна паклікала вучняў і загадала:

— Выцягніце яго ды добра адкамячыце!

Вучні падхапілі мяне і, як мурашкі трутня, пацягнулі на двор. Я не спрачаўся.

— Растармасіце яго! Дайце! Дайце!

Дзеці рады.

Яны камечаць снежкі, б'юць імі мяне. Я ляжу на снягу і плачу. Сам не ведаю, чаго плачу.

Пасля гэтага я некалькі дзён зноў не хадзіў у школу. Але і тут не пакідала літара яць. Яна стаяла перад вачамі, нібы крывілася, усміхалася, пагражала мне сваімі рожкамі...

## Як-бы ўцячы

Вось і вясна на дварэ. Буслы ў чырвоных ботах мераюць поле. На загонах цягнуцца худыя коні. Рыпіць саха.

— Нooo! Каб цябе!—чуюцца крыкі на палосах.

Нас пачалі адрываць ад заняткаў усё часцей і часцей. Настаўніца злавала. Урэшце Алёша зусім кінуў вучыцца. Я зайздросціў яму.

Заўтра экзамен. На дварэ мажуць колы павозкі. Бегае настаўніца то да нас, то ў школу. Дзед мой, які павязе нас на экзамен, накладае ў торбу харчы. Матка дала мне чыстую адзежу. А як-жа? Ого! Хлапец едзе на экзамен, да чужых людзей, за трыццаць вёрст ад свае вёскі,—трэба-ж хлопца прыбраць!

Вось мы і выехалі. Бацька нешта шапнуў дзеду і грозна папярэдзіў мяне...

— Глядзі-ж! А то... шкуру здзяру.

У Выдрыцу, дзе павінен адбыцца экзамен, мы прыехалі рана. Пастух выганяў у поле кароў. Ля кожнай хаты ён спыняўся, падымаў трубу ўгару і трубіў. Труба аблівалася ўзыходзячым сонцам і ярка блішчэла.

— Хутка экзамен,—падумаў я.—Як-бы так уцячы?!

Мы заехалі ў маленькі дворык. Усю ноч ліў дождж. Мы былі мокрыя. Старая бабулька, гаспадыня тае хаты, мне і Нічыпару сказала:

— Лезьце на печ, паспіце! Яшчэ рана!

Мы палезлі. Дзед мой павёў пасвіць коні. Настаўніца некуды знікла. Я быў зморany і хутка заснуў.

У дарозе настаўніца нам расказвала, хто будзе на экзамене, як будуць пытацца і як трэба адказваць. Я ўжо ведаў, што ў камісіі будуць папы, земскі начальнік, прыстаў і яшчэ нейкія страшныя людзі. Ужо тады я прыдумваў прычыну для ўцёкаў.

Пасля сна ў галаве пасвятлела. Я надумаў такі план: прабадзяцца дзе-небудзь гадзіны тры, нібы незнарок, нібы заблудзіўшыся, з такім разлікам, каб прыйсці ўжо ў канцы экзамена. Такім чынам я спадзяваўся „выратаваць сваю шкуру і ад бацькі“.

Я нікому нічога не сказаў, вышаў на двор, пералез цераз плот, узлез на нейкі нізенькі хлеўчык і азірнуўся навокал. Лес быў далёка. Але тут-жа, за вёскай, сярэбранай істужкай круцілася, па залітым сонцам зялёным лугу, рачушка. Дзе ні дзе, схіліўшы галовы, над ёй стаялі вербы. Я рашыў схавацца пад гэтымі дрэвамі.

Я сядзеў пад вярбой і глядзеў на свой цень у люстэрцы вады. Па твары каціліся кроплі слёз. Яны пападалі ў рот, мачылі вочы, і мне неяк рабілася прыемна. Тут-жа, на лузе, пасвіліся коні. Барабанілі званкі ля іх шыяў. Між імі хадзіў спутаны наш белагрывы і Нічыпараў гняды.

— От я сяду на каня і паеду дамоў,—падумаў я.

Раптам на вуліцы пачуўся крык. Услед за тым на луг выбег Нічыпар, за ім дзед, за дзедам, як качка, на высокіх абсацах кавыляла, спатыкаючыся, настаўніца. Я дагадаўся, што шукаюць мяне. Дзе мне дзецца? Уцячы! Ужо позна. Убачаць. Сядзець на месцы? Значыцца выдаць намер. А дзед скажа потым бацьку. А бацька?.. Ой і бацька! Я рашыў выдаць свае сховы, нагнуўся над рэчкай і стаў мыцца. Крышталёвая вада змыла слезы з твару. Мяне ўбачылі.

— Што ты робіш тут?

— Чаго ты ўцёк?

— Дзе ты быў?

Усе пыталіся разам. Я сказаў:

— Прышоў памыцца.

Дзед зірнуў мне ў твар, але нічога не ўбачыў. Уцячы не ўдалося.

## Экзамен

Мы ішлі ў школу. Сонца схавалася за невялікае воблачка, і на зямлю лёг цень. У мяне балюча сціснуліся грудзі. Цямнела ў вачэу. Настаўніца, як відаць, угадала мой настрой. Яна сказала:

— Ты не бойся! Яны не ўкусяць цябе.

Я падумаў:

— Укусяць, гэта нічога.

А яна навучала:

— Ты ўсё ведаеш. Кажы, што будуць пытацца, вось і ўсё...

— Гэтыя словы яшчэ горш палохалі мяне.

Мы падняліся па ўсходцах на ганак. У карыдоры настаўніца спынілася, прапусціла ўперад Нічыпара, а мяне затрымала. Яна ўзяла аднекуль з кутка белую чашачку і працягнула мне.

— На, выпі! Гэта нічога, салодка.

Я, спачатку, адмаўляўся, потым выпіў. Настаўніца ўсміхнулася. Адразу-ж мне стала нібы весялей. Нешта цёплае і прыемнае цякло па жылах, бадзёрыла сэрца, стукала ў віскі. Стала горача ўнутры.

— Ну, а зараз ідзі,—сказала настаўніца.—Толькі не забудзься, як толькі ўвойдзеш, направа пакланяцца старэйшаму папу з вялікім кры-

жам на грудзях. Я ўвайшоў і адразу ўбачыў папа з крыжам. Я бухнуўся яму ў ногі. Поп не звяртаў на мяне аніякай увагі. А настаўніца не сказала: доўга ляжаць перад папом ці зараз-жа падняцца. І я ляжаў. Настаўніца ўвайшла ўслед за мной і кранула мяне нагой. Я падняўся. Настаўніца ўказала мне месца ля Нічыпара. Потым я ўзнаў, што той, каму я кланяўся, вялікі папоўскі начальнік, і застаўся вельмі давольным маёй увагай да яго.

У класе было каля дваццаці вучняў з розных царкоўна-прыходскіх школ нашай акругі. За сталом, пакрытым зялёным сукном, сядзелі члены камісіі. Той, стары, якому я кланяўся, быў пасярод. Абапал яго два папы, маладзейшыя і па ўзросту і, як відаць, па чыну. Каля іх, з аднаго боку, у чорным касцюме, з вялікімі рыжымі вусамі, якія штомінуты шавяліліся ў бакі, як у сома, сядзеў земскі начальнік. З другога—прыстаў ў залатым пенснэ, з пагонамі, з зяленым шнурам праз грудзі і з шабляй. Ён часта перакладаў нагу на нагу. Звінелі шпоры. Каля яго з чорнымі, страшэнна надзьмутымі вусамі, аблакаціўшыся на стол, сядзеўураднік. Усе здаваліся страшней адзін другога.

Пачаліся экзамены. Спачатку былі закрытыя задачы. Не гледзячы на тое, што ад нечага выпітага ў мяне ўсё больш і больш шумела ў галаве, з задачай я справіўся амаль першым, але вось, услед за задачай, той старэйшы, якому я кланяўся, паклікаў нашу настаўніцу. Я ўвесь аж загарэўся. Мусіць памылку ў задачу ўляпіў?! Што гэта будзе? Але, бачу, настаўніца ўсміхнулася. Поп узяў да сябе паперку, на якой, пасля я ўбачыў, стаялі ўсе прозвішчы вучняў. Потым паклікаў мяне.

— Прапаў!—пранеслася думка ў мазгах.

І, разам з гэтым, сэрца ірванулася, здалося, у бакі. Галава павяла ўправа. Ногі, нібы, раскірэчыліся, не хацелі ісці. Я абапёрся аб парту, вышаў на клас, стаў перад камісіяй. Я адчуваў, як дрыжэлі мае павекі.

Старэйшы запытаў яшчэ раз прозвішча, імя, па бацьку, колькі год і пачаў экзаменаваць. Я адказваў. Ён прасіў гаварыць мацней. Што ён пытаўся, ні тады, ні цяпер я сказаць не магу. Пытанне пападала ў адно вуха, я адказваў, і яно ляцела далей, праз другое. І як я адказваў, таксама не памятаю. Больш за ўсё ў мяне запомніўся твар старога, таго, што пытаўся. І цяпер я помню яго намазаныя нейкай тлустасцю бліскучыя чорныя валасы, рабаватыя тоўстыя шчокі, чорныя бровы і вочы, вялікі, пасінелы на кончыку, нос.

Чым больш стаяў я перад камісіяй, чым больш пыталіся ў мяне, тым больш і больш разбірала выпітае. Тым мацней і мацней кружылася ў мяне галава.

Урэшце падлога, здавалася, кранулася ў мяне пад нагамі, усё загушкалася, закружылася навакол. Стары і ўся камісія перавярнуліся ўверх нагамі і паплылі ў нейкім тумане. Твары іх расплываліся, толькі вочы сачылі за мной. Потым усё змяшалася, здавалася, загуло і паляцела ў нейкую прорву. Я хацеў крыкнуць, але да вушэй, нібы аднекуль здалёку, данеслася.

— Хопіць!

Пакаціліся слёзы. Я выскачыў на двор. У галаве стаяў нейкі чад. Мяне ірвала. Балеў жывот. Гарэла ў грудзях, у роце была кісла і слізка. Але хутка мяне ўзяў у свае абдымкі сон.

Ні мы, ні настаўніца не ведалі, вытрымаў я экзамен ці не.

Бацька неяк сказаў:

— Што-ж, наймайся ганяць у поле жывёлу!

Мы з Мацвеем наняліся пастухамі.

---

МАКАР ПАСЛЯДОВІЧ

# КАНФЛІКТ

Калі і ў сваім апошнім выступленні, ужо на сходзе, Мікола Равінскі рашуча не захацеў прызнаць свае віны, сакратар шырока махнуў рукою.

— Тады я стаўлю на галасаванне рашэнне бюро. Хто за гэтую прапанову?

Ззаду пачуўся звонкі дзявочы голас:

— У мяне ёсць дадаткі...

— Дадаткі пасля. Раней трэба асудзіць пастулак, які недастойны комсамольца. Дык хто за пастанову бюро пра Міколу Равінскага?

Равінскі падняў галаву і глянуў на залу. Якую прыхільнасць выкажа яму сёнешні сход? „За“ ці „супроць“ суровай вымовы ўзніме руку Змітрок Савіцкі? А Пятрусь Неманюк, а Нюра?

Ён нецярпліва чакаў таварыскага прысуду і ўсё яшчэ неяк не даваў сабе веры, што справа ідзе не на жарт. Па ягонаму выходзіла,— іначай і быць не магло, як зрабіў ён. Але-ж вось... падымаючы рукі многія глядзелі на Міколу з лагоднай усмешкай. Было ў гэтай усмешцы: „Мы, браце, знаем цябе, але да чаго даслужыўся, тое і атрымлівай, каб на другі раз не забываўся“.

— Большасць за пастанову бюро. Цяпер, таварышы, давайце дадаткі... Мікола! Пачакай! Ты-ж гэта куды?

— Я на хвіліну,—глуха абазваўся бледны Равінскі, баючыся сказаць што-небудзь вастрэйшае, каб не палічылі гэта за дэманстрацыю супроць ячэйкі. Калі прабіраўся праз залу да выхада, нехта спачувальна лэпнуў яго па плячы, нехта паспрабаваў „ці з добрага сукна штаны“, паспрабаваў так, што пасля доўгі час яшчэ ныла нага. Але Мікола не зважаў. Усё нутро яго бушавала ад крыўды. У калідоры ён з усёй сілы грукнуў дзвярыма і, ступіўшы на вуліцу, вельмі здзівіўся, што на дварэ няма буры і навальніцы. Спакойная і вялікасная была цішыня над вёскай. Невядома для чаго, ён глянуў угору, у бясконцую цёмную далячынь неба. Хітра мільганулі яму з-за шырокага казырка кепкі далёкія зоры. Ён раззлаваўся яшчэ больш і шырокімі крокамі прайшоў па вуліцы.

— Нешта-ж ты рана прыпёрся,—спытала маці, калі Мікола, ступіўшы цераз парог, кінуў шапку на ложак.—Хіба ўжо сход скончыўся?

— Скончыўся,—буркнуў ён і палез у шуфляду, каб дастаць паперу і чарніла.

Стары бацька, уссадзіўшы на нос акуляры, чытаў палітаддзельскую газету „За большэвіцкія калгасы“. Калі пачуў незвычайны для сына злы тон голасу, адклаў газету ўбок. Але пачаў гаворку з другога.

— А чаму Зеня на прышла з табою? Трэба ўжо класціся спаць. Ночы цяпер не зімнія, рана ўставаць трэба.

— Яна засталася на сходзе...

Стары зарагатаў.

— Вось і разбяры! То сход скончыўся, то „яна на сходзе засталася“. Ці не кальнулі там цябе за вартаванне тваё якою шпількай? Нешта ты нос звесіў. То задзіраў яго вышэй сілоснай вежы, а то...

— Сціхніце ўжо!

— Я то сціхну,—адказаў бацька.—Табе толькі аднаму няма ніякага ўгамавання. Як чорт той кручаны. Хочаш скочыць вышэй свайго пупа, дык бакі і зад б‘еш.

Ён паклаў газету на шафу і, падышоўшы да запека, пачаў раздзявацца. Маці моўчкі мыла пасуду, плёхала вадою ў цагане. Са сцяны, што насупроць дзвярэй, з вялікага партрэта сурова глядзеў на Міколу Ленін. А ён, Мікола, ярасна і нэрвова скрыпеў пяром, выкладаючы на паперу сваю крыўду. Тады ўклаў паперу ў шэры канверт і напісаў буйнымі літарамі адрас: „У палітаддзел, т. Некрашу“.

„Укіну ў паштовую скрынку заўтра“—падумаў і пачаў хадзіць па хаце з кута ў кут. Спаць яшчэ не хацелася, як ужо не хацелася варочацца на сход ячэйкі. Падышоў да шафы, дастаў зверху „Брускі“ Панфёрава. На якой гэта старонцы ён спыніўся? Але пакінутая старонка ніяк не прыходзіла да памяці, бо з таго часу мінула больш, як тыдзень. Ён паспрабаваў прагледзець падзеі, апісаныя ў кніжцы, але нічога не зразумеў: у галаву назойна палезла з‘ява сёнешняга дня... А Нюра? Нешта ў другі бок пачало хіліць яе пачуцці. А можа яму толькі здаецца? Ну, і ліха з ёю! Ці мала прыгожых дзяўчат на свеце. Можа яму ад настрою якой адной хвіліны здалося, а потым увайшло ў прызвычайнасць, што Нюра—гэта адна яго душа і сонца. Цікава яшчэ ведаць, што ў яе быў за дадатак да прапановы бюро? Можа гэтыя дадаткі тычыліся яго, і ў іх можа было што больш суровае, чым суровая вымова! Гэта называецца даслужыўся! Два з паловаю гады быў хлопец у комсамоле, ні на ногаць да сёнешняга вечара не знаў праступкаў, першым выходзіў на работу, добра рабіў, апошнім ішоў на адпачынак, і вось—выйшла!

Ён перастаў хадзіць па хаце, расчыніў акно. У распалены думкамі лоб дыхнуў халаднаваты спакой ветру. Зіхацелі ў цемені асветленыя вокны хаты-чытальні, чуваць была грыцішаная адлегласцю гаворка, павабны дзявочы смех. На мосце цераз рэчку Пціч гулка загрукалі колы, важка клеіў капыты да насцілу конь. Нехта спешна ішоў вуліцаю пад хату-чытальню. Як далёкія зарніцы, з‘яўляўся і знікаў агонь папяросы.

— Дык даўно адкрыўся сход?—пачуў Равінскі гаворку.

— Не вельмі. Яшчэ заспеем.

— Невядома, што за пастанова будзе? Хлопец то ён важнецкі, можа толькі пагарачыўся.

— Адкуль-жа ён мог ведаць?—узрушана запярэчыў другі голас.— Гэта-ж не ўдзень было. Няма ў яго воўчых вачэй, каб пранікаць поглядам праз цемень...

Далей Равінскі ўжо нічога не чуў, бо людзі адышлі. Ён здагадаўся, што гаворка гэта была пра яго. Выходзіць, учынак Равінскага хваляваў усё насельніцтва калгаса! Тут выйшла нейкая блытаная і складаная справа. Спосабы, якія ўжыў ён на рабоце, не прызналі за законныя, ды яшчэ вытлумачылі прычыну гэтых дзеянняў не грамадскімі інтарэсамі, а асабістымі. „Цвярозы розум,—сказаў сакратар ячэйкі Сцяпан Луцэвіч,—быў прыглушаны і зачэрнены дробненькімі ўласніцкімі пачуццямі...“

Равінскі адхінуўся ад акна і горна ўсміхнуўся. Людзі спяшаліся на сход, таго не ведаючы, што там Равінскага ўжо няма, што яго

справа ўжо вырашана! Сядзіць ён, хрышчэнік недысцыплінаваны, у сваёй хаце, душачы ў сабе вострую крыўду.

У хаце было душна, як у цесным паграбе. Здавалася, ніколі не было так душна. У хаце было сумна. Бацькі ляглі і, стомленыя работай за дзень, хутка паснулі. Санліва поўзалі і мухі на сталі. Адна з іх сарвалася і, як дурная, закруцілася каля лямпы. Мікола з хвіліну глядзеў на яе санлівыя рухі. Яна дражніла яго настрой, ускручвала новую бурную хвалю крыўды.

„Два з паловаю гады не было ніякай заўвагі, а тут раптам—суровая вымова!..“

Ён схапіў ліст са стала і рынуўся з хаты. На вуліцы ўспомніў, што нават шапкі не адзеў. Чорт з ёю, добра што на плячах галава! А з такою галавою ён дойдзе справядлівасці. Прыедзе таварыш Некраш і ва ўсім разбярэцца. А не—тады ён, Равінскі, напіша ліст у Менск, у Маскву...

Нейкая постаць загарадзіла яму дарогу.

— Ты, Мікола?

Ён не абазваўся, счуўшы Нюрын голас. Хацеў абыйсці моўчкі. Але яе гарачая рука схапіла яго. І голас у Нюры быў ужо пакрыўджаны.

— Чаму не абзавешся? Па кроках пазнала, што ты. Эх, які мамчын пястун, гонару таго ў цябе...

Ён вырваў руку. Адскочыў ад Нюры ў бок.

— Ідзі з тым пагавары, у каго ніякага гонару няма, з кім супроць мяне руку падымала. З Неманюком пагавары.

— Гэта твая памылка... Чуеш, Коля, ты зрабіў няправільна.

— Разбярэмся пасля, хто быў правы, а хто крывы.

— Потым—дэманстрацыйны выбрык.

— Загаварвай зубы!—з'едліва крыкнуў ён і бегам падаўся да чытальні, дзе вісела паштовая скрынка.

— Ну і чорт з табою!—пачуўся яму ўслед Нюрын смех.

Равінскі не дабег і да ганка, як насустрач яму загрукалі дзверы, сыпанула жвавая гаворка. Сход скончыўся. Узбуджаная моладзь вынесла на спакойную вуліцу вясёлы гоман і смех. Цёплы і глыбокі Зміτрака Савіцкага голас узняўся ўгору, шырока махнуў у бакі. Звінеў і трапятаў задорна:

— По долинам, по загорьям
Шла дивизия вперед...

І раптам у бурным подыху калектыўнай песні патанула бязладная гаворка. Віхурылі над вёскай магутныя гукі.

Чтобы с бою взять приморье,
Белой армии оплот.

Бурная грамада кінула яго, прытоенага ў цемені са сваімі думкамі. Песня аддалялася, слабела. Ледзь улоўнае, пачуццё адарванасці хваравітага поркання ў самім сабе ўпершыню заварушылася ў ім. Каб ён не пакінуў сходу, дабыў на ім да канца і, цяпер вось, каб ускалыхнуў разам з хлопцамі, з дзяўчатамі патрывожаны настрой—было-б лягчэй. Чарвяк нейкае адзіноты ўжо настойліва і нахабна пачаў выкручвацца ўнутры, смоктаючы цела бязвольнасцю і зморай.

Забыўшыся на ліст, ён ляніва і бяздумна патупаў дарогаю. Апамятаўся толькі тады, калі гулка загрукалі пад яго нагамі дошкі на масце. Ён спыніўся разгублена і потым цяжка ўспёрся локцямі на парэнчы. Было відаць адсюль: адзін за адным згасалі ў хатах агні, змаўкаў рыплівы рогат варот, людская гаворка. Хутка спакойная

веліч летняе начы задрамала над вёскаю. Толькі над высокім пясчаным берагам у цьмяным доўгім будынку кароўніка не патухала святло. Яно будзе іскрыцца праз шматлікія вокны да самае раніцы.

Равінскі глянуў на раку. Чорнае і доўгае чэрава яе было стыкана вострымі светлымі шастамі зор. Няспынна і ледзь прыметна цякла між іх вада. Недалёка ад маста, ля густога плішчаю плёхнуў шчупак. Ля таго месца пакрывіліся і загойдаліся светлыя зорныя шасты. Цёплым нутраным кракТаннем абазвалася ў плішчаі качка...

Патроху ўсё спакайнела ў Міколавай галаве. Яму ўжо не верылася, што ён збіў Неманюка...

...такою спакойнай, як і гэта, была тая ноч. Нішто не трывожыла яе глыбокай раздумы. Толькі недалёка на Бярськох, дзе быў папар, пісажыў цемень яркімі электрычнымі ліхтарамі свайго трактара Змітрок Савіцкі. Млоснай і салодкай знямогай па буйным насенні жыта ўздыхала зямля, жыла і мякка варушылася ў прасторы.

Мікола вартаваў тады свіран са збожжам. Дваццаць тон жыта было нарыхтавана для адпраўкі заўтра раніцою на чыгуначную станцыю. Свіран быў яшчэ новы, недабудаваны. Не забіты з аднаго боку зашчытак, не пакладзена столь. Калі праваронісць, дык мог які падрыўшчык пажывіцца калгасным дабром.

Ён толькі што абышоў будынак і сеў на сходках, напружана ловячы слыхам начныя шолахі. Вось гучна шавяльнулася трэска. Мікола глянуў у змрок. Нейкі сабака маўкліва мышкаваў ля непрыбранага яшчэ бярвення і дошак.

І раптам Мікола згледзеў чалаваечую постаць... Ішла яна проста і адкрыта на яго. Тады Равінскаму прыйшло ў галаву змоўчаць, стаіцца, каб прасачыць, хто і чаго тут вандруе. І вось цень, наблізіўшыся крокі на два, стала, нагнула да вартаўніка галаву. Мікола не зварухнуся, стараючыся адначасова разгадаць, што гэта за чалавек.

Чалавек, мусіць, падумаў, што Равінскі заснуў, прыткнуўшыся плячыма да падпоры падстрэшша. Асцярожна ступаючы, падаўся пад канец будынка. Мікола пачуў, як дрэпаўся ён там па сцяне, лез у сярэдзіну свірна...

Дык ён і засціг гэтага начнога наведальніка! Спушчаў той на пастронку невялікі мех з жытам. Тады асцярожна злез сам. Аглянуўся, узваліў мяшок на плечы, ступіў крокі два і... паляцеў старчма на зямлю ад моцнага ўдара кулаком у рэбры. Мікола скочыў наўздагон следам за ім, сустрэўся, як той сіліўся ўстаць, нешта памыкаўся гаварыць. Мікола аблажыў яго зноў на зямлю і, увесь раз'юшаны, біў кулакамі, як траплялася. Потым схапіў за каршэнь і ўскруціў угору. Луснулі коратка і суха гузікі ў жакетцы.

— Хадзем... Мацы—грымнуў лаянкай.—Але не, павяду цябе ў праўленне, дык другі шкоднік сюды падкоціць...

Пацягнуў чалавека да сцяны, дзе прыставіў стрэльбу, схапіў яе адною рукою. Яркі даўгі сноп агню, загрымеўшы громам, вырваў з цемені злодзея.

— Неманюк!?

Непакойліва забрахалі сабакі. Недзе рыпнулі вароты, ад аборы, гойдаючыся ў бакі, спешна падаваўся да свірна ліхтар.

— Неманюк?—збянтэжана паўтарыў Мікола і раптам адчуў, як нявымерная злосць скамячыла правую далонь зноў у кулак.—У зладзеі палез? На сходах за калгас, за рэвалюцыю, а пад начы—каб урваць? Не на таго, сволач, натрапіў.

Трохі ачуняў толькі тады, калі нехта схапіў яго за руку. Трывожны дзявочы голас горача дыхнуў у твар.

— Звар'яцеў ты ці што? Гэта-ж Неманюк! Свой. Разам са мною...

— Дык і ты яму памагала?—глуха бухнуў ён, выпростваючыся. Сінія і зялёныя кругі загойдаліся ў ваччу. Усё закруцілася ў галаве, як праз сон чуў Нюрын голас.

— Гэта-ж рэйд. Праверка, як ахоўваецца маёмасць. Мы думалі, што ты заснуў... Табе трэба было абазвацца, папярэдзіць, што не спіш.

— А вы мяне папярэдзілі?

Мікола, стоячы вось цяпер пасля перажытага на мосце, не ўпэўнены, што яшчэ лаяўся і пасля гэтага, не верыў ніводнаму іх слову, крычаў узрушаным вісклівым голасам. Як праз сон памятае: прыйшоў з ліхтаром стары Адам Зялёнка. Неманюк захінаў голыя грудзі падранай рубашкай. Потым Зялёнка схадзіў па сакратара ячэйкі Сцяпана Луцэвіча, па старшыню калгаса Майсея Шульмана. Пакуль тыя прыйшлі, Равінскі прымусіў Неманюка ўцягнуць мяшок зноў на сцяну і паставіць у свірне на тое самае месца, адкуль узяў...

І за гэтыя дзеянні ён атрымаў сёння суровую вымову! Неманюк яшчэ пастараўся давесці, што Равінскі яго не збіў-бы, каб ён пайшоў у рэйд без Нюры. Зайздрасць больш, чым свядомасць, кіравала Равінскага ўчынкам. Так сказаў на паседжанні бюро і на сходзе. Равінскі ўзгарэўся, абазваў за гэта Неманюка дурнем, які хутчэй сам зайздросціць...

Ён стаяў на мосце зморaны, безуважна глядзеў уніз, дзе цякла, нячутна струменілася густая вада. Паласкала ў ёй свой дыямэнтавы коўш Вялікая Мядзведзіца. Жнівеньскае неба атрасала багаты зорны ўраджай. Зоры імкліва ўздымаліся з цёмнай глыбіні вады і, недасягнуўшы паверхні, гаслі. Так згасалі ў Равінскага ў галаве зялёныя нявыспеленыя іскры крыўды. Ляная бяздумная стома слабіла цела, цяжарам цягнула ўніз павекі вачэй. Дрымоты кінулі галаву тварам на парэнчы...

Калі ад болю як іголкамі закалола ў носе, ён хуценька падняў галаву. Павекі разамкнуліся ў момант. Першае, што кінулася яму на вочы—гэта ледзь прыметная агнёвая нітка на чорным палатне небасхіла. Была гэтая з'ява падобна на тое, як махае ў цемені папяросай курэц. Ён утаропіў вочы ў той бок і згледзеў ледзь улоўныя светлыя пісягі. Яны былі хуткія, як думкі, частыя, як рой агнёвых пчол. Яны ўскручваліся настарчака ўгору, імчаліся па небасхілу. Адчуванне Равінскага абвastралася гэтай нечакай гульнёй начы аж да болю. Яму здалося, што бачыць ужо і цяжкія, чарнейшыя за цёмную ноч, валы хмар. Маўкліва і няўхільна насоўваюцца яны, набухаючы, і шырока займаюць небасхіл, прагна глытаюць трапяткі і трывожны бляск зор...

Ён скочыў ад парэнчаў і, ледзь-разлічаючы дарогу, спешна пабег у вёску. Новая і глыбокая ўзрушанасць авалодала ім. Бясследна знікла з галавы ранейшая прыкрасць.

Прамінуў, засопшыся, бацькаў двор і спыніўся ля старшынёвай хаты. Глянуў на ўскрай неба. Можа на мосце наверзлі дрымоты дарэмную трывогу? Можа не варта будзіць Шульмана? Але не! Як і тады, імкліва ўскручваліся і знікалі ў далёкай цемені агнёвыя пчолы.

Равінскі асцярожна грукнуў разы са два ў акно. Пачакаў. Ніхто не абазваўся і не зварухнуўся ў хаце. Тады пачаў барабаніць пальцамі па шкле часта і настойліва.

— Што такое?—пачуў санлівы старшынёў голас.—Хто?

— Я, таварыш Шульман, Равінскі. Хутчэй адчыні.

Сказаў і прыплюшчыў вочы: старшыня чыркануў запалкай, аджыла, затрапятала ў лямпе калючае святло. Нізенькі прысадзісты Шульман стаяў ля стала ў споднян бялізне з расхрыстанай сарочкай, злёгку скроб правай рукою шырокія калматыя грудзі, глядзеў на гадзіннік.

Таксама плюшчыў вочы ад раптоўнага святла. Пасля павярнуўся і пайшоў адчыняць дзверы.

— Заходзь. Спешная справа?

— Мяняецца надвор'е...—пачаў Равінскі, ступаючы цераз парог. Санлівасць як халоднай вадою змылася з Шульманавага твара.

— На дождж?

— На дождж.

Падцягваючы шырокія штаны, старшыня матнуўся на двор. Равінскі сеў ля стала. Стол быў закіданы старымі і новымі газетамі. Адна была ўсунута ў кніжку І. Сталіна „Пытанні ленінізма". Шульман мусіць чытаў яе ўвечары, захінуў на тых балонках, дзе была пакладзена газета. Равінскі зглёдзеў на краі стала пачак папярос „Блюмінг", дастаў адну і закурыў. Успомніў, што запрошаны на бюро, як прымацаваны ад парт'ячэйкі, Шульман частаваў такімі-ж самымі папяросамі комсамольцаў. Працягнуў пачак Равінскаму. А хвілін праз пяць бязлітасна біў яго за нявытрыманасць і партызанскі ўчынак...

З падушкі падняла галаву Соня, старшынёва жонка. Ля яе заварушыўся, нешта замармытаў малы Муня.

— Якая там гадзіна?—Спытала ў Равінскага Соня.

— Дзесяць хвілін на другую,—адказаў, глянуўшы на „ходзікі", Мікола.—Хутка забушуе навальніца. Трэба ратаваць авёс.

— Майсей казаў, што авёс добра прасох.

— Прасох,—пацвердзіў Равінскі, услухоўваючыся ў начныя шолахі заваконня. Злавіў чулым вухам таропкія Майсеевы крокі ля хаты. Бразнулі дзверы.

— Мікола! На адной назе да праўлення. Грымі, каб аж іскры сыпаліся з рэйкі. Калі Луцэвіч прыбяжыць раней за мяне—скажы, каб неадкладна арганізоўваў падводы. Соня, уставай...

Шульман гаварыў і спешна ўсцягваў адзенне, галоступкам адзяваў боты. Рухі ў старшыні былі разлічаныя, як у чырвонаармейца, што збіраецца ў нечаканае выступленне па сігналу „трывога".

Першы Равінскага ўдар у рэйку загрымеў громам. Гулка ўскруцілася, пасыпалася жалезным шротам між будынкаў рэха. Цемень зажыла, затрэслася, усё больш і больш набракаючы густою трывогаю. Адна за аднэю прачыналіся хаты, усхватвалася на пыльнай вуліцы святло ад вокан. Збянтэжана брахалі сабакі, раз-по-разу то ў адным, то ў другім канцы вёскі рыпелі вароты, хлопалі форткі. Замітусіліся ліхтары, імклівa плылі, гойдаючыся, як на хвалях, да Равінскага.

— Хто барабаніць?—пачуў Равінскі ў жалезным гуле слабы, як шэпт, Луцэвічаў голас. Чыркнула запалка. Завалюгаўся на ёй маленькі трапяткі язык агню.—А-а, гэта ты...

Равінскі адступіў ад рэйкі. Яна яшчэ гудзела доўгі час, мерна і цяжка хістаючыся на подвязі. Луцэвічава запалка згасла.

— Глядзі, вунь навальніца насоўваецца. Шульман казаў, каб ты арганізаваў падводы. Бяжы на канюшню.

— Так на канюшню! Запрагайце там парныя, адзіночкі,—закрычаў ля іх Шульман.—Мужчын усіх на поле, а жанчыны будуць складаць падвезены авёс у гумнах. Хватайце збожжа з бліжэйшага ўчастка.

Па аднаму групамі збягаліся да праўлення калгаснікі. Трывожнае святло ліхтароў поўзала па сценах будынкаў, ускручвалася на гонтавы дах, адскаквала ад вялікіх шыбаў вокан. Напружанне нарастала ўзрушанымі выкрыкамі.

— Чаго гэта званілі?

— Дзе той пажар?

— У мяне аж усё пахаладзела ў сярэдзіне.

Аглядаліся, нервова адыходзілі ў бок, натыкаліся адзін на аднаго за ледзь улоўнаю, няўстойліваю мяжою святла, падалі. Раптам ля кароўніка пачуўся раз'юшаны голас старога вартаўніка Адама Зялёнкі.

— Чаго вас тут д'ябал носіць? Кажу, што ўсё спакойна... Да праўлення ідзіце. Яшчэ і ваду, як дурань дзверы, за сабою цягаюць...

Хутка з таго боку, бразгаючы жалезнымі вёдрамі, прыбегла чалавек дзесяць мужчын. Дапытліва гледзячы поверх натоўпу ў бок свірна, загаварыў здаравенны Віктар Сенька, брыгадзір будаўнічай брыгады. Няёмка захінаў за спіну вядро.

— Я апасаўся, каб кароўнік... Другія да свірна пабеглі...

— Таварышы!

Старшынёў голас пакрыў паасобныя бязладныя выкрыкі. Як магнэсам, самкнуў у шчыльны круг людзей. Нехта бязуважліва ступіў Равінскаму на нагу. Ён упёрся ў шырокую спіну, чалавек саступіў, але наваліўся ўсім цяжарам цела на другую, дзе быў мазоль... Нехта горача дыхаў у патыліцу...

— Гаворка кароткая. Гэтая трывога, якую падаў комсамолец Равінскі, тая, што і на пажар. Находзіць навальніца, дождж, а ў нас дваццаць гектараў аўса „залатога дажджу" непрыбраных. Калі зараз-жа не выратуем—згніе, згарыць. Дзве з паловаю тысячы пудоў.

— Па якой гэта ты барометры апрадзяліў, што будзе дождж?—пачуўся нейчы санлівы голас.

— Па-комсамольскаму.

— А-а-а... Г-гы-гы... Го-го-го—зарагаталі, захадзілі ля Равінскага калгаснікі.—Лоўка пажартаваў!

— Міколава вока, як і рука, не схібіць.

— Верна. Падкрадаецца пад авёс навальніца.

Равінскі адчуў: вялізная сцяна будынка, якою ён спешна адгараджваў сябе ў лісце да пампаліта Некраша ад незаслужанай суровай вымовы ячэйкі, асядае і траціць устойлівасць. Паўзе з-пад рыхлай цэглы слоў вадкая гліна абгрунтаванняў... Ён нервова лэпнуў па кішэні. Дык няўжо ўкінуў гэты ліст у паштовую скрынку? Не. Ліст быў з ім.

Калі людзі рушылі да канюшні, ён скочыў на фурманку, што грымела за Сцяпанам Луцэвічам. Коні, выехаўшы на дарогу, імкліва рванулі да моста. Па-ранейшаму ляніва струменіла між зорных шастоў густая, як дзёгаць, вада. Купала свой дыяментавы коўш Вялікая Мядзведзіца. Толькі ўжо Равінскі не адчуваў больш адзінотнай скрухі і крыўды. Вакол яго грымела жыццё: цокалі на жалезных восях калёсы, звінелі цуглі на аброцях, чулася клопатная гаворка. Па пыльнай дарозе, па мосце, па траве імкліва цякло ад канюшні на поле яркае святло ліхтароў. І ўсё гэта ён, Равінскі, узняў на ногі!

— З кім гэта я авёс буду вазіць?—падсунуўся ён да чалавека, што кіраваў коньмі.

— Раз сеў на мой воз, дык са мною...

— А-а-а...—зацягнуў Равінскі, збянтэжаны і здзіўлены спакойным, без усякай злосці, Неманюковым голасам.—Гэта ты, аказваецца.

І закрычаў раптам:

— Чаго размусоліўся? Думаеш стану вось на калені і перапрашаць буду? Прызнаваць, як кажуць, памылку? Чакай Пятрук Пятра!

Гаварыў і, скоса азіраючыся на Неманюка, як бы той мог падгледзець у цемені, дастаў з кішэні ліст, у якім быў занатаваны вялікі канфлікт. Сарваў яго на дробнае шмаццё і сыпануў ад сябе.

— Хутчэй паганяй! Каб увесь авёс да дажджу звезці.

АНДРЭИ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ШЧАСЛІВАЯ ДАРОГА*)

## ТУРЭЦКАЯ ТРУБКА

Дзе ні станеш,
Дзе ні глянеш,
Вырастаюць рыштаванні.

Вось гатовы
Пабудовай
Новы дом шматпавярховы.
Ў гэтым доме—камбінат:
Тут і сад для акцябрат,
Тут і школа,
З імі—тут
І тэхнічны інстытут.

А на тым баку дарогі
Велікан-завод гудзіць.
І спакойна, без трывогі,
Пад штандарам перамогі
Мы жывём і будзем жыць!

Толькі рань зайграе зычна,
Як дудой, гудком фабрычным,
Выйдуць з хат адным заходам
І бацькі, і дзетвара.
І зліецца гул завода
З гулам школьнага двара.

Праца там, і праца тут,
Там і тут адзін маршрут,
Шлях адзін, адны імкненні
Трох вялікіх пакаленняў:
Горда, смела і няспынна
Будаваць сваю краіну!

Вораг вочы хітра жмурыць,
Злую ён рыхтуе буру,
Падрыхтоўвае напад.
Ён штодня шалёна гэтак
Шчэрыць зубы на Советы
На совецкі грозны лад.

---

*) Канец гл. „Полымя рэв." № 3—1934 г.

Мы сябе спакойна чуем,
Край будуем,
Моц гартуем,
Бо ў мароз і ў навальніцу
Большэвіцкія граніцы
Злым набегам стан варожы
У расплох застаць не зможа.
А спрабуюць—будзем біцца,
Ой, завые пан жалобай!..

Хай жыве спакой граніцы
І спакойная вучоба!

— Дзе-ж ён, Грышка светлабровы?—
У мяне спытаць гатовы,
Адкажу абавязкова:
— Светлабровы хлопец Грышка
Стаў найлепшым другам кніжкі.
Ён змяніўся, як ніколі.
Лепшым вучнем стаў у школе,
Нават сінь яго вачэй
Заіскрылася ярчэй.

А зіма ўжо наступала,
Горад снегам засцілала,
Бушавала дзетвара.
Завіруха не сціхала,
І, на славу, вырастала
Беласнежная гара.

Ажывіўся двор ля школы
Працай дружнай і вясёлай.
З снега мучацца, майструюць,
Лепяць чучала буржуя.
І раскатам злых насмешак,
Як гранаты, свішчуць снежкі.
Адлятае нос і вуха,
Бараду загналі ў бруха,
Грышка метка, стаўшы з боку,
Збіў цыліндр і манокль.
Раскрышылі, расстралялі,
Перацёрлі на пясок.

Грышка рад, бо ўсе прызналі,
Што найлепшы ён стралок.

Час праходзіў скора, скора...
Грышка ў школе быў бадзёрым,

Дзіч сваю перамагаў.
Толькі горад, любы горад,
Рух яго, яго прасторы—
Грышка штось не ўпадабаў.

Горад Грышку быў нязвыклым
'Шчэ да гэтых нават пор.
І аўто,

І матацыклы,
І трамвай,
І светафор,
І паток людзей руплівых,
І нястрымна-быстры ход—
Грышку робяць палахлівым,
Хоць другіх наадварот.

Аж да вечара ад ранку,
Як пальба з гарматных дул,
У яго—бесперастанку
У вушах ракоча гул.
З дому выйсці ён баіцца,
Ён баіцца нават зліцца
Ў баявы людскі паток.
Горад шумны, горад гулкі,—
Плошчы, вуліцы, завулкі,
Можна зблытацца, зблудзіцца.
А падумаюць, што ўцёк.

І яшчэ не змог адкінуць
Злосных дум пра дысцыпліну.
— Усё,—казаў ён,—роўна, гладка,
Па званку—на фіззарадку,
Па званку на медагляд,
Па званку—і на заняткі,
Па званку—і ў інтэрнат.
Хочаш так, а будзе гэтак,
Зробіш гэтак, будзе так—
Што падхопіць сценгазета
— І надоўга дасца ў знак.

Дні ішлі. Ішла вучоба.
Грышка ўжо тлумачыў глобус.
Паказаў мерыдыяны,
Расказаў пра акіяны,
Пра буруны і самум,
Расказаў пра Кара-Кум.
Як спыталі пра Карпаты,
Выйшла штось неякавата,—
Ён зблудзіў, замест Карпат
Пальцам ткнуў на Арарат.

Больш за ўсё любіў задачы,
Тут заўсёды меў удачы:
Есці Грышку не давай,
А задачы задавай.

Раз на лекцыі выкладчык
Даў наступную задачу:
Жыў на хутары кулак,
У яго служыў батрак.
10 месяцаў гарбеў,
2 рублі за месяц меў,
А кулак на развітанне
За начлег і харчаванне

Два чырвонцы адлічыў.
Што тут выйшла, падлічы:
Колькі грошы ўзяў батрак,
І што выгадаў кулак?
— Атрымаў батрак за працу
2 на 10 мінус 20,
А кулак...
І... тут—адразу,
Грышка змоўк, не даў адказу.
У яго перад вачыма,
Выплывае з нетраў дымных—
Злой тугой і крыўдай лютай,
Бацька, Лось, сястра і хутар.

Грышку сум праняў наскрозь,
— Бедны Лось, харошы Лось!
Як жывеш, ці ўспамінаеш,
З кім цяпер ты байкі баеш?
Падрасту, цябе з нягоды
Забяру я назаўсёды...
І ў мурожныя даліны
Беглі думкі-успаміны,
Завіваліся ў вянок,
Беглі лётам сакаліным,
Аж пакуль на перапынак
Не пазваў дзяцей званок.

Грышка ўздрыгнуў... Звонкі выбух,
Аж дрыжаць у вокнах шыбы,
Карты гойсаюць на сценках,
Гэта значыць—
Пераменка!
Гэта значыць—звонкай бурай
Непакорнай і шчаслівай
Ускрыляла весялосць.
Толькі Грышка сумны, хмуры.
Ён трымаўся сіратліва,
І бурчэў сабе нудліва:
— Бедны Лось, харошы Лось!
Раптам трубку ён убачыў
(На стале забыў выкладчык)
Трубка дзіўная такая,
Ззяе, быццам залатая.
— Ўзяць такую трубку ў рот
Саладзей за пчолін мёд.

Прыляцела злая думка,
Чорным зманам стала крумкаць:
— Не пужайся, смела, брат,—
Будзь рашучым, раз... і ў сумку,
Будзе Лосю падарункам,
Лось да смерці будзе рад.
Грышка доўга не ўтрымаўся,
Зману чорнаму паддаўся.
Баязліва, крок за крокам
Падыйшоў, зладзейскім вокам,

Азірнуўся, бокам стаў—
Цап—за трубку,
трубку ўзяў
І за пазуху схаваў.

Як прышоў у клас выкладчык,
Трубкі ў класе не знайшоў.
— Як-жа так? Што гэта значыць?
Цішыня шуршыць, як шоўк...
І пытаецца выкладчык:
— Хто маю тут трубку бачыў?
Мне-ж яе падаравалі,
З дальняй Турцыі прыслалі.
Як-жа так? Няўжо выходзіць,
Што з'явіўся ў класе злодзей?
Ўсе плячыма пацiскалі:
— Не, не бачылі, не бралі.
Страх у Грышкавых вачах,
Ён не рад свайму пастулку.
— Трубка,
Трубка,
Трубка,
Трубка—
Сэрца стукала ў грудзях!

## ВЫСТРАЛ НА ГРАНІЦЫ

Палахліва, ніжай, ніжай,
На зямлю садзіўся змрок.
На канькі, на санкі, лыжы
Зваў фанфарамі каток.

Ледзяною стройнай сцежкай
Вецер з венікам прабег—
І на радасць канькабежцам
Вецер віхрам вымеў снег.

Гул бадзёры, вечар звонкі,
Маладзёжны карнавал.
І спаборніцтва, і гонкі,
І закалка, і запал.

І ракеты, як маланкі,
І, як зніч, пражэктары.
Тут і санкі, як лядзянкі,
Самі коцяцца з гары.

Рэжуць лыжныя палозы
Срэбрам выкатаны шлях.
Не пужае хруст мароза,
Кроў гарачая ў грудзях!

Фейерверк шматкаляровы
Абуджае стынь высот.
Нават месяц сівабровы
Водзіць зорны харавод.

Праз сваё вакно я глянуў
На аснежаны прастор—
Там мяцеліца маланак
Карусель агністых зор.
І так хочацца ўпрыпрыжку
Бегчы, бегчы на каток...

А чаму-ж у хаце Грышка,
Як запёрты на замок?
І канькоў свіх не точыць,
І жаданняў не відно...
Грышка злосны, ён не хоча
Нават глянуць у акно.
Грышка злосны, і не дзіва—
У вочы глянуць сарамліва,
Кожны знае, кожны кпіць:
— Грышка, дай, брат, закурыць!

— От, падаўся зману, блазан,—
Грышка сам сябе даймаў.
Тую-ж трубку ён адразу
Сам выкладчыку аддаў.
Думаў сойдзе справа проста,
Ды й былі пазвалі ў зал,
Там сабраўся сход фарпоста,
Таварыскі трыбунал.
Сход гарачы, бурны, колкі.
Кожным словам, як іголкай,
Грышку сэрца лютай боллю
Свідравалі і калолі.

Вось чаму не быў на гонках,
Вось чаму адзін заўжды,
Хоць мінула пяцідзёнка
І прабегла шмат вады.

Праўда, быў-бы на ігрышчы
Разам з іншымі і Грышка,
Ды й дзеткораўскай рукой
Сапсавалі ўвесь настрой.
Ёсць у школе сценгазета,
(Хто-ж не ведае пра гэта?)
Ну, і Грышка, зразумела,
Пад дзеткораўскім абстрэлам.
Перадоўка баявая
Грышку б'е і навучае,
Што ў савецкай нашай школе
Нельга быць такім ніколі!
А за тым нарысаваны
На шырокіх двух лістах
Пад турэцкага султана
Грышка з трубкаю ў зубах.

Грышку гэта прапрацоўка
Грудзі точыць, як чарвяк.
Непрыемна і нялоўка
І дасадліва, аднак—

Зрыў бывае, як сумысна,
І балючым і карысным.

Ён адзін. Халодны гоман,
За вакном драты гудуць...
Грышка думаў:
— Зручны момант...
Быццам, канула ў ваду...
— А чаму яна сарвана?..
— Разбяры яго аллах!
І не будзе больш... султана
З жоўтай трубкаю ў зубах.
Падышоў ён да газеты,
Ужо кранаецца рукой,
Раптам чуе голас Нэтты:
— Грышка, стой!
Не можна, стой!
— Знаеш,—Нэтта гаварыла,—
Што было-б, каб ты сарваў?...
... Нэтта з Грышкам падружыла
Грышка з Нэттай сябраваў...

Хутка першае паўгоддзе,
Час іспытаў надыходзе.
Добра вытрымаць іспыты
Гонар кожнаму, таму—
Хто за кнігу, хто за сшытак
Гуртам і па аднаму.

Да вакацый
Многа працы,
Многа трэба рыхтавацца,
А як скончаць працу, зноў—
На граніцу, да бацькоў.

З бацькам хочацца спаткацца
З добрым поспехам у працы.
Усе ў рабоце, сціхлі крыкі,
Заліковая пара!
Кожны хоча здаць залікі
Здаць на Д. О. Б. Р. А.
Ля трохкутніка, таксама
Грышка зудзіць—a, b, c.
І калоцісца праграма
У зачарніленай руцэ.
Ён упартасцю нязломнай
Працаваў адзін, аднак—
Што для Грышкі аксіома,
Для другіх пытальны знак.
Вучнем першым выйсці хоча,
Лепшым быць імкнецца ён.
Нават сніцца Грышку ўночы
Кроў рабочых і Гапон.
У сваіх жаданнях гэтых
Ён зайздросны і скупы.
Хай памылку зробіць Нэтта,

Грышка, быццам, як сляпы.
Не паправіць, не паможа,
Нават ёй—з кім сябраваў.
Што рабіць так непрыгожа
Грышка як-бы і не знаў.
Хоць малы, а ўжо скалечан,
Цяжка быць яму ў страю,—
— Грышка, дай канспект на вечар,—
— Гэта мой, я не даю!...
Грозны час не за гарамі,
Кожны свой спакой сцярог.
Так міналі дні за днямі,
Дні работы і трывог.

Стаў блакіт зарой займацца,
Сонцаясны дзень прышоў...
Едуць, едуць (час вакацый!)
На граніцу да бацькоў.

Серабрыстай пуцявінай
Мчыцца грузны аўтабус.
Пераможан чорны мінус,
Кожны вёз здабыты плюс.

Гул матора, посвіст ветра,
Трэск марожаных галін.
Сорак восем кіламетраў—
Сто чатырнаццаць хвілін.

Да бацькоў, на пагранічча
Насцеж ім адкрыты шлях.
Колькі сілы навальнічай,
Колькі радасці ў грудзях!

З імі ў госці Грышка едзе,
У машыне ён не ўседзіць.
Шустрай птушкай вочы скачуць,
Шмат знаёмага ён бачыць,
Гадаваўся-ж тут і рос.
Стромкі лес белагаловы
Пахмурнеў, яго сурова
Скуў уздыблены мароз.
Зацярушыў снег паляны,
Елкі, глянеш, як курганы,
А курган—нібы шацёр.
Стынуць лозы, стынуць вербы,
Выйсці з лыжамі цяпер-бы
У замураваны прастор!

— А найлепш у лесе летам,
Колькі ягад і грыбоў,—
Грышка кінуў зрок на Нэтту,
З Нэттай гутарку завёў...

А прыехалі, на дзіва
Хутка дзень вірлівы бег.

Колькі гутарак шчаслівых!
Колькі матчыных уцех!

Нават повар у сталовай
Для гасцей, для дарагіх
З захапленнем падрыхтоўваў
Гусі, каву, пірагі.

Шмат навінаў, шмат расказаў,
Вабіць ласкі цеплата.
Грышка быў з сябрамі разам
І адзін, як сірата.

Да начальніка-ж заставы,
Як да бацькі, ён ідзе.
Кроў гудзіць бунтоўнай лавай:

— Добры дзень вам!
— Добры дзень!
— Я прыехаў...
— Малайчына!
І сустрэча ў іх была
І прыветнай, і гасціннай...
Радасць Грышкава расла.
І начальнік рад сустрэчы,
Ветла Грышку трос за плечы,
Грышка слухаў, як стары,
Што начальнік гаварыў.
А начальнік гаварыў—
Каб сабе дарогу рыў
У жыццё—у глыб і шыр:
— Чалавекам-будаўнічым
Станеш ты на пагранічны.
Будзь-жа ўпартым, ваяўнічым!
— Ёсць, таварыш камандзір!
Дружна ў Ленкутку гулялі
Грыша з Нэттаю ў пінг-понг.
Метка мяч удвух кідалі.
Залівауся патэфон.
Раптам выстрал. Бліскавіцай
Вочы бліснулі.
— Ўста-авай!
Выстрал чуеш на граніцы—
На граніцу выбягай!
Выбег Грышка, Нэтта ўслед:
— Што такое?
— У чым сакрэт?
Гоман бег,
                Снег трашчаў.
— Дзе стралялі?
                — Хто страляў?
А выпадак быў такі:
У дазоры два стралкі
Раптам бачаць,—ля крыніцы
Ўжо ля самае граніцы,
У кустах густой асіны

Прытаілася жанчына.
А павінен, хто ў дазоры,
Даць каманду:
— Рукі ўгору!
— Стой!
... Яна ўцякаць...
За ёй—
Куля выбегла стралой.
Як пачула рэха стрэла,
Дык і села, абамлела.
Вунь ідуць яны...
І шустра
Дзетвара бяжыць насустрач:
— Малацы-байцы, шпіонку
Падлавілі!..
Радасць звонка
Льецца водгуллем—„ура"
Бушавала дзетвара.
Сэрца Грышкава ў прыбоях,
Грышка здзіўлен:—што такое?
— Маладзіца-Палавіца
Уцякала за граніцу?
Што? Яна?
Яна! Сястра!
Як зрабіць? маўчаць? азвацца?
Мабыць, лепш не прызнавацца!
Страх праняў, стаў калаціцца,
— Як ступіць, за што ўчапіцца?
І стаяў, як укапаны.
Стынуць вочы, рукі вянуць,
А ў грудзях, што ў горле косць,
Гнеў, трывога, страх і злосць.

Шумам поўніцца застава.
Ён адзін, лясы гудуць...
Думкі ўюцца, як праявы,
У вачах імжыцца муць.
Вые ў лесе вецер люты,
Стогне, як падбіты звер.
Як успомніў Грышка хутар,
Тут успомніўся і клер.
— Дзе-ж ён, клер? Дзе-ж ён цяпер
Выкшталцоны кавалер?
І аблаяў згарача
Тога клера-паніча.
І, як хто пад ногі кінуў
Агняжгучую лучыну—
Грышка ўздрогнуў і ў заставу
Паляцеў праз пераправу.

А ў заставе, як заўсёды,
Цішыня, хоць шмат народу,
Там спакойна, без пагроз,
Адбываецца дапрос.
І ля печкі, у заставе,

Прытаіўшыся на лаве,
Грышка скурчаны сядзеў,
Слухаў як дапрос ідзе.
— Як завешся?
— Кацярына!
— А па прозвішчу?
— Трыгор.
— Хто бацькі?
— Я сіраціна,
Бацька мой даўно памёр.
Быў бядняк...

І плакаць стала,
Злосць у Грышкі грудзі рвала.
Ён затроссяя, як асіна,
Цёмна стала ў галаве:
— Зваць цябе не Кацярына,
Бацька наш яшчэ жыве!
Што ты круціш, Палавіца!

І здалося, навальніцай,
Бушаваў не Грышка гэта,
Хоць і голас Грышкі быў.

Як сястра, падбегла Нэтта,
Нэтту Грышка прытуліў.

## ШЧАСЛІВЫ ПУЦЬ

Той, хто чулым сэрцам чуе
Цішыню лясоў начную,
Подых ветра, ўзлёт савы,
Шэлест шоўкавай травы:
Той, хто ў цемры таямнічай
Бачыць вокам вартаўнічым,
Што дрыжыць трывогай ліст,
Што змяінай пуцявінай
Лезе ў нашую краіну
Шпік, а з ім кантрабандзіст,—
І абодвых ваяўніча
Затрымае, даўшы бой—
Той—сапраўды пагранічнік,
Бальшэвіцкіх спраў герой!

Наша дзіўная краіна
Смела можа і павінна
Расцвітаць і ганарыцца
Вартаўнічымі граніцы,

І—далёка—
Ад Заслаўя
Да агнёў Владзівастока,
Бо—граніцы вартаўнік—
Ён—герой і болшэвік!

Будзь спакойным, будаўнічы:
Мурам скута пагранічча
І на варце пільны зрок.
Хай раз'юшаныя хлынуць—
Узарвуць іх нашы міны,
Ператруць на парашок.

Веем сонечнай зарніцы
Дзень прыходзіць на граніцу.
Пачынаецца спачатку
Фізкультурная зарадка.
А за тым палітхвіліна
Пра апошнія навіны,
Што змянілася, што стала
У краінах капітала.
А навін за ноч і дзень—
Цэльны сшытак-бюлетэнь.
Слова ў слова, кожны гук,
Што расказваў палітрук,
Слухаў Грышка.
Грышка смела
Што было незразумелым,
Падыходзіў і пытаў.
І з ахвотаю, спачатку
Палітрук палітзарадку
Зноў для Грышкі пачынаў.

Стаў ён родным, стаў ён блізкім,
Быццам тут ён ад калыскі.
Ён здружыўся, стаў, як брат,
Ён здаволены, ён рад—
Тут яму раскрылі вочы,
Тут былы кулацкі хлопчык
У віры людскім, віхрыстым—
У агні байцоў-чэкістаў,
Перакоўваўся, як сталь.

Для яго пагранзастава
Стала дзіўнай пераправай
З свету змана і тугі
Ў свет вялікі, ў свет другі.
Ў свет—дзе шчасцем сонца рэе,
Дзе крылатых песень звон,
Дзе зарой зямля рунее,
Дзе красуе працы плён.
Грышка ведаў, што адвеку
Два шляхі на свеце ўтканы:
Шлях тугі, праклёнаў, здзекаў
І шчаслівы шлях, вясняны.
І што быў яшчэ дагэтуль
Пад страхой старога свету.
І што ён цяпер другі
І другія берагі,
І зусім другі народ!

Як канчаўся час канікул,
Апынуўся, як на стыку.
Сэрца білася балюча,—
Ён журбой разлукі скручан.
Рваўся ён, хацеў прасіцца,
Каб астацца на граніцы.
Як іржа, лягла дасада—
— Як тут быць? Хто дасць параду?

Кожнай жылкай сэрца зросся
Ён з байцамі пагранічча.
Чуе—кроў гудзіць нязвычна:
Выязджаць яму прышлося.
У гэты дзень і шчырым гэтак
Быў надзіва Грышка з Нэттай.
Ён казаў—расказваў ёй
Пра жыццёвы скрутак свой.
Ён не мог не расказаць
Кім ён быў, кім хоча стаць.
Нэтта Грышку спачувала.
Грышку снегам закідала,
Па вяршынях сосен бег
Нэтты звонкакрылы смех.
— Досыць плесці лапці з лыка,
Страсаніся, досыць хныкаць!
Нас наперадзе чакае
Барацьба і працы шмат.
Едзем, едзем—нас спаткаюць—
Горад, школа, інтэрнат.

А над імі лётным колам
Віўся птушак строй вясёлы,
Птушкі кружацца, гудуць:
— У добры час!
Шчаслівы пуць!

1930—1934. Менск

**ВЛАД. ГЛАЗЫРЫН**

# ФРОНТ

(Урыўкі з п'есы)

## АКТ І

### КАРЦІНА ДРУГАЯ

1919 год. Усходні фронт. Штаб Пуцілаўскага стралковага палка ў вясковай хаце. Карта, тэлефоны. Камандзір палка Мульташоў гаворыць па тэлефоне з начдзівам. Збоку за картамі палкавы ад'ютант.

Мульташоў (*у тэлефон*) ...затрымаліся на рубяжы вёсак: Свінкіна—Davidчанка—Федарата... Умацоўваемся... Акапаліся. Страты вялікія. Што?.. Умацоўваемся. Супраціўнік спрабаваў збіць нас з гэтага ўчастка. Двукратная атака адбіта. Што?.. да раніцы... да раніцы пратрымаемся. Патрэбна падмацаванне. Людзі стомлены двухдзённым боем і адыходам. Гарачай стравы не бачылі два дні. Таварыш начдзів, я лічу, што полк трэба вывесці на два-тры дні ў рэзерв. Адпачыць. Зразумела. Чакаць змены заўтра раніцай. Слухаюся. Таварыш начдзів, дазвольце далажыць: загінуў у баі камісар. Камісар палка Бронаў. Бачылі на левым флангу, як ён упаў. Вынесці было немагчыма. У гэты час адыходзілі. Левы фланг літаральна паліваўся кулямётным агнём. Таварыш Бронаў увесь час быў на ўчастку левага фланга, як найбольш небяспечным. На левы фланг супраціўнік сканцэнтраваў свае галоўныя сілы і наносіў сакрушальныя ўдары. Што?.. Не. Я думаю, што ён забіты. Зразумела (*Кладзе трубку, звяртаецца да ад'ютанта*). Выкліч палітрука пятай роты Гняздзіліна. Пашлі па яго коннага з завадным канём. Няхай прыедзе ў штаб. Напішы яму запіску, што ён па загаду камісара дывізіі Калніна назначаецца камісарам палка. Дзе ў нас пятая рота, у рэзерве? Ды дзе там начальнік другой кулямётнай каманды? Гадзіны дзве таму назад выклікаў.

Ад'ютант. Зразумела. Зараз пашлю. Пятая рота ў рэзерве. У вёсцы Кастры. (*Выходзіць*).

Мульташоў Так... заўтра зменяць. Байцам патрэбен адпачынак. Шкода Глеба. Шчыра быў адданы рэвалюцыі. Загінуў, як бальшэвік. Сярод байцоў. Пад кулямі. Пад агнём. Моцны бальшэвік. Добры таварыш. Эх, Глеб, Глеб, казаў я табе, нашто было лезці туды, наперад, пад кулі! Стрымліваў, прасіў, даводзіў, што ён патрэбен палку больш тут, чым там, а ён проста, смяючыся адказаў: „Маё месца там, дзе ствараецца непасрэдная пагроза цэламу фронту. Будзе злачынствам, калі не ўтрымаемся на гэтым участку, што скажуць у рэўваенсавеце?“. Загінуў. Па-геройску,

загінуў. На адпачынку, бывала, гутарым за чаем, марыў: „скончыцца вайна, прагонім усіх гэтых Калчакоў, Дзянікінаў, паеду ў Петраград, скончу ў палітэхнічным адукацыю"... Скончыў...

Увайшоў Лазавой, сакратар партарганізацыі палка.

Лазавой. Забілі Бронава...

Мульташоў. Так, Бронаў загінуў...

Лазавой Так... ну што-ж, з кожным гэта можа быць... Шкада таварыша. Комуніста... Ды словамі тут не паможаш. Якія, Мульташоў, распараджэнні ад начдзіва?

Мульташоў. Замацавацца на ўчастку. Фронт замацоўваецца па ўсёй лініі. Назад ні кроку. Пратрымацца, што-б там ні было да раніцы. Здаецца, і супраціўнік, стомлены двухдзённымі баямі, прыціх. Раніцаю змена. У рэзерв. На адпачынак. Так, адпачыць нам трэба. Падкарміцца. Вымыцца. Адстояцца.

Лазавой. Вестка аб пагібелі камісара абляцела ўвесь полк. Любілі камісара байцы. Шкадуюць. Смерць Бронава ў чырвонаармейцаў стварыла нейкі асаблівы ўздым. Я чуў гутарку сярод байцоў: „Адпомсціць за смерць камісара! Ісці ў атаку! Заняць старое становішча".

Мульташоў. Так. Любілі байцы, любіў полк Бронава. Яго храбрасць натхняла ўвесь полк. Нездарма з такім камісарам мы рабілі гэтакія справы. Аж страшна. З раздзетымі, босымі не заўсёды пад'еўшымі...

Уваходзіць ад'ютант і начальнік другой кулямётнай каманды.

Начкаманды. Прыбыў.

Мульташоў. Суткамі ці што чакаць цябе?

Нач. каманды. Нельга было выехаць.

Мульташоў. Я ведаю, можна ці не. Раз выклікаюць, значыць зараз-жа трэба явіцца. Ізноў два кулямёты не працуюць. Чорт вас узяў-бы! Калі гэта скончыцца?

Нач. каманды. Таварыш кампалка, толькі з рамонту, ствалы зменьвалі...

Мульташоў. Ствалы зменьвалі. У вас, як на адпачынку, дык усё ў парадку, як у бой—вам ствалы зьменьваць. На ліха возім вас з кулямётамі? Дзеля ўкрасы ці што? Ты паглядзі на першую кулямётную каманду. Там ніводзін кулямёт у баі не адмаўляў. Рабі, што хочаш. Рамантуй, як хочаш. Звяртайся да загадчыка зброяй. Мне каб кулямёты працавалі. Зразумела? У мяне гутарка кароткая. Абрыдла мне з вамі цацкацца. Распусціліся. Зразумеў? Гутарка кароткая. Ідзі!

Начальнік каманды выходзіць. Звоніць тэлефон. Мульташоў бярэ трубку.

Мульташоў (*у тэлефон*). Адкуль? Першы батальён? Каго? Пры тэлефоне камандзір палка Мульташоў. Што?.. Пачынае абстрэл?.. Вы лічыце, што гэта падрыхтоўка да начной атакі. Трымацца да раніцы. Перадайце байцам—раніцаю змена. Утрымацца да раніцы што-б там ні было. (*Звоніць другі тэлефон. Бярэ трубку другога тэлефона*). Так, так, я. Мульташоў. Супраціўнік адкрыў агонь у фланг? Чорт! (*пра сябе*). Так. Відаць супраціўнік, адпачыўшы некалькі гадзін, думае развіваць свой поспех актыўным начным наступам (*у тэлефон*). Я вышлю, Салаўёў, табе пятую роту з рэзерва. Сканцэнтруй яе на флангу. Трымайся, што-б там ні

было, да раніцы. Раніцай зменяць. (*Ад'ютанту*). Аддай загад пятай роце—адправіцца зараз-жа ў распараджэнне камандзіра другога батальёна. Перадай камандзіру першага батальёна: пры развіцці актыўных дзеянняў белагвардзейцамі супроць батальёна, камбату на сваю адказнасць рушыць у контратаку. Пасля контратакі адкаціцца назад на сваю пазіцыю. Фронт займае цвёрдае ўстойлівае становішча. Пра адпачынак і гутаркі быць не можа.

Увайшоў Гняздзілін.

Гняздзілін. Таварыш камандзір палка, прыбыў па вашаму загаду.

Мульташоў. Здароў, таварыш Гняздзілін. Ты чуў? Бронаў загінуў. Камісар дзівізіі назначае цябе камісарам палка. Прыступай да абавязкаў. Я зараз еду на пазіцыю. Думаю, і ты не адмовішся скласці мне кампанію. (*Чуваць стральба*). М-м... чорт!.. Гэта ў Салаўёва. Супраціўнік пачынае актыўна прачынацца.

Уваходзіць загадчык гаспадаркі.

Мульташоў. А, палкавы інтэндант. Што гэта вас, галубчыкаў, не відаць? Як бой—вас з сабакамі не знайсці? Ніводнай павозкі. Ні кухні. Як мятлою вас вымеце. Што-ж вы думаеце, мы ў баі самі кашу ў кацялках варыць ці што будзем? А? Чым вы думаеце?

Заггас. Таварыш камандзір палка...

Мульташоў. Я ведаю, што я таварыш камандзір палка. Вы мне патурбуйцеся мае загады выконваць дакладна. Байцы цэлы дзень не елі сёння. Чые гэта клопаты?. Раскасірую я вашы абозы да д'ябла. Пазаменьваю людзей. Вячэра ёсць.?

Заггас. Так точна, на ўвесь полк.

Мульташоў. Трэба было на поўпалка, вы ўсё можаце... Заўтра ў рэзерв. Бялізну трэба падрыхтаваць. Абмундзіраванне, што ёсць у абозе, падлічыць, раздаць па ротах. На адпачынак пойдзем. Зразумела?

Заггас. Так точна.

Мульташоў. Ну, пайшлі. Ад'ютант, ты застанешся тут. Загадай чаю загатаваць. Ды пажраць чаго-небудзь. Мы праз гадзіну будзем.

Уваходзіць Пяўніцкая.

Мульташоў (*пра сябе*). Вось яшчэ. Ну, ужо жанчын суцяшаць я не майстар. Скажы ёй што-небудзь, Лазавой.

Лазавой. Таварыш Пяўніцкая... Менефа Яўгеньеўна... Мы ўсе кожную хвіліну знаходзімся пад пагрозай смерці... Смерць Глеба не з'яўляецца... але перажываючы такую цяжкую страту...

Мульташоў (*пра сябе*). Замітынгаваў...

Лазавой. Страту з нашага тварыскага асяроддзя, асяроддзя байцоў за рэволюцыю... мы выказваем наша шчырае...

Ад'ютант (*у бок*).. І з пашанаю нізкі паклон.

Пяўніцкая. Лазавой, не трэба суцяшэнняў. Глеб загінуў. Загінуў, як сумленны комуніст. Я не шукаю суцяшэнняў, і не прышла сюды па іх. Смерць Глеба—факт... Вядома, мне цяжка, страта таварыша і блізкага чалавека... Але не будзем гаварыць аб гэтым. Мне цяжка. Я не магу заставацца адна і я прыйшла сюды да вас. Я хачу быць з вамі, і гэта не дазволіць мне аддавацца смутку, шкоднаму ў такіх цяжкіх абставінах. Вы кудысьці сабраліся?

Мульташоў. На пазіцыю.

Пяўніцкая. Я з вамі...

Мульташоў. Менефа Яўгеньеўна, я прашу вас,—аставайцеся тут. Я не дазваляю вам ехаць з намі.

Пяўніцкая. Не, я паеду з вамі...
Мульташоў. Але...
Пяўніцкая. Прашу вас, Мульташоў, дзеля Глеба...
Мульташоў. Мы...
Пяўніцкая. Прашу вас...
Мульташоў. Пайшлі.

Уваходзіць чырвонаармеец коннай разведкі Батыроў з данясеннем.

Батыроў. Так шыто, таварыша камандыр палка, мая твая данясенне ад начальнык конны развідка прывёз.
Мульташоў. Давай... Што ён там піша. (*Чытае*).
Батыроў (*Пяўніцкай*). Не будзь сумнай, мадам. Конешна, шкода камісар. Другі чалавек найдзеш... Другі будзе камісар...
Лазавой. Што ты мелеш, Батыроў?
Батыроў. Шкода камісар, і таварыш мадам шкода. Не будзь сумнай, гавару! Помстыць будзем. Конны развідка помстыць будзе. Конны развідка бой хоча.
Мульташоў. Вось яшчэ дзівакі!
Лазавой. Што там?
Мульташоў. Слухайце. Піша начальнік коннай разведкі Брызгаленка. (*Чытае*). „Байцы—конныя разведчыкі, з начальнікам сваім чырвоным камандзірам, таварышам Брызгаленка, у адказ белым наймітам міжнароднай контры на смерць слаўнага нашага і незабыўнага камісара, чырвонага героя, таварыша Бронава ірвуцца ў бой. Помста белым бандытам. Мы ўсе, як адзін, аднагалосна патрабуем ад камандзіра палка весці полк у бой. Наперадзе пойдзем мы, чырвоныя разведчыкі. Смерць паразітам совецкай улады! Смерць ворагам сусветнага пролетарыята! Чакаем загаду на баявыя дзеянні. Па даручэнні байцоў разведчыкаў слаўнага Пуцілаўскага палка, чырвоны камандзір, начальнік разведкі таварыш Брызгаленка і палітком Маслоў Фёдар“. Перадай Брызгаленку, Батыроў,—заўтра сам буду ў вас раніцай. Зразумеў?
Батыроў. Зразумеў, таварыша камандыр. Можна ехаць? Мадам, калы ласка, не плач. Помстыць будзем. Белагвардзейскі біць будзем. Ваяваць будзем. А шкода мне цябе, мадам-барышна. Не будзь сумнай. Шкода.
Пяўніцкая. Дзякуй, Батыроў. Я зусім не сумую. Няма калі сумаваць. Вайна, Батыроў.

Выходзяць. Застаецца ад'ютант і Батыроў.

Батыроў. Уй, які харабры баба. Комуніст баба, таму і харабры. Харабры жанчына. Ваенны жанчына. Муж забіваў, а яна ваяваць хоча. Выгляд не падае. А ўсётакі сумнай.
Ад'ютант. Нічога. Пасумуе, ды пакіне. Другога знойдзе. Бабка во! А жанішкоў у нас хапае. От, скажам, я. Чым дрэнны? Прапаршчык старой арміі. Выпраўка, як след. А бабка нішто сабе — варта падзаняцца. І ёй сум разагнаць і сабе...
Батыроў. Эх, ты, а яшчэ палкавая ад'ютанта! Сорамна табе так гаварыць. Муж забілі. Вайна. Добры жанчына. Комуніст баба. За совецкі ўлада ваюе. (*Перадражнівае*) „Жанішкоў хопіць“! Садовы твой галава. Ты тут садыш, бой мала бачыш. Табе бабы ў галаве. Муж забілі. Гора ў яе, а ты ўжо думаеш сам муж стаць. Сорамна.
Ад'ютант. Ты-ж сам мужа знайсці хацеў.
Батыроў. Я суцяшаў, шкода жанчына. Забілі камісар Бронаў. Ваяваць будзем. Помстыць будзем. Біць белагвардзейскі будзем.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Вечар. Бронаў ляжыць у полі ў канаве, без памяці. Ён цяжка ранены. Стогне, гаворыць у трызненні.

Б р о н а ў (*у трызненні*). Таварышы, таварыш Фрунзе загадаў умацавацца ўнь на тым участку... Мы з боем... з боем... павінны адыйсці... Камандзір роты... Зараз зрабіце контратаку... Так, контратаку... Атаку... контр... а потым прыкрываючыся контр... прыкрываючыся кулямётамі... мы адкоцімся на новую лінію... лінію... нію... і зоймем моцную абарону. Але трэба ўтаміць супраціўніка, аслабіць яго контратакай... Іначай нам цяжка будзе ўтрымацца на новай пазіцыі... Менефа... Налі мне чаю.. Не плач, Менефа. Мне так добра... Хутка скончыцца вайна... Я паеду вучыцца... Ты скончыш асвету... Таварышы, наперад! . У атаку!.. Таварышы!.. Баліць... Не выцярпець... Баліць... Якое яркае святло!.. Што гэта?.. Пражэктары?.. Але чаму яны гараць у дзень?.. Які не выцерпны прамень, як ён паліць мяне!.. Паліць!.. у плячо... Паліць у плячо!.. (*Прачнуўся*). Дзе я? Які шалёны боль! Піць. Хачу піць! Адзін глыток вады! (*Аглядваецца, павярнуўшы галаву*). Я ў полі. Адзін. (*Паварочваецца, боль у плячы адкідае яго назад*). М-м-м... (*Стогне*). Ранены... Не магу... Я знаходжуся, відаць, там, дзе была контратака. Але дзе нашы? Баліць...

По полі ідуць два белагвардзейцы: унтэр-афіцэр і салдат з вінтоўкамі—марадзёры.

У н т э р - а ф і ц э р. І дарэмна ты мяне клікаў, Малафееў, у гэтых лапцюжнікаў, апрача лахманоў на брудным целе, нічога няма, не гаворачы аб каштоўных рэчах альбо грашах. Дарэмна прашляемся, ды і непрыемнасць выйсці можа ад начальства.

С а л д а т. Тады назад давайце вернемся, гаспадзін унтэр-афіцэр. Мне надоечы Няфедаў расказваў,—у трох забітых з кішэняў золата на семдзесят пяць рублёў дасталі. Апроч таго гадзіннік і партсігар сярэбраны.

У н т э р - а ф і ц э р. Расказваў... дурань! Пашлі назад! З гэтымі забітымі толькі вошай набярэшся. (*Чуваць стогн Бронава. Прыслухоўваюцца*). Пастой! Нехта стогне. (*Прыслухоўваюцца ізноў і ідуць на стогн, бачаць Бронава. Углядаюцца*). Большэвік. Комуніст, у скураным увесь... Камісар... ранены. (*Набліжаюцца да Бронава*).

Б р о н а ў. (*Перамагаючы боль, з натугаю прыпадымаецца, наводзіць рэвольвер на унтэр-афіцэра і салдата, якія да яго падыходзяць. Рэвольвер ходзіць ў руках*). Не падыходзь! Заб'ю! (*Страляе*).

Унтэр-афіцэр і салдат кідаюцца на Бронава, душаць, б'юць. Бронаў упадае ў няпрытомнасць.

У н т э р - а ф і ц э р. Стой, чорт! Дарваўся... Задушыш... Камісар, мабыць, важны—апранен добра... З зоркаю і ордэн на грудзях. Даставіць у штаб трэба... Дакуманты прагледзець трэба... (*Абшуквае, дастае пасведчанне, чытае*). „Ваенны камісар Пуцілаўскага рабочага стралковага палка Бронаў Глеб Сяргеевіч"... Ага... Камісар... Папаўся, галубчык!.. За такога пленнічка і нагароду атрымаць можна.

С а л д а т. Чаго тут з ім цацкацца,—раздзець і прыкончыць...

У н т э р - а ф і ц э р. Дурань!.. Раздзець і прыкончыць... Тупая ты хара! Ты разумееш, што ты гаворыш, балда? Ды за камісара мы ў два разы больш атрымаем ад камандзіра палка, ці ад штаба дывізіі,

чым ад усёй ягонай адзежы з абуткам. Давядзецца нам несці яго. Я буду паказваць, што калі мы бралі яго ў плен, ён супраціўляўся і ўзят намі сілаю зброі. Зразумеў? Папытаюць у цябе дурня, таксама адказвай.

Салдат. Так точна. Зразумеў,

Унтэр-афіцэр. Давядзецца на сабе цягнуць. Для такога выпадка... хе-хе-хе... і папрацаваць не грэх. Бярыся! Пашлі! (*Забіраюць, як папала, і нясуць*).

## КАРЦІНА ЧАЦВЕРТАЯ

Габінет намесніка начальніка контрразведкі, штаб-ротмістра Брэдыса. Брэдыс дапрашвае Бронава. Левая рука ў Бронава на перавязі. Галава забінтована.

Брэдыс. Ваша прозвішча, імя і па бацьку.

Бронаў. Вам, здаецца, гэта дакладна вядома. Навошта лішнія фармальнасці! Я Бронаў Глеб Сяргеевіч, камісар чырвонаармейскага палка. Камуністычны камісар, як называеце вы.

Брэдыс. Гэта ваша сапраўднае імя ці...?

Бронаў. Вы хочаце сказаць, што ў дакумантах я абазначаны пад псеўдонімам...

Брэдыс. Большэвікі практыкуюць такі спосаб у мэтах...

Бронаў. Я прасіў бы хутчэй закончыць допыт. Вы не мала мяне дапытвалі і, відаць, допытаў яшчэ шмат будзе ўперадзе. Кажу ізноў, гаспадзін штаб-ротмістр, што яны будуць бескарысны.

Брэдыс. Вы ў гэтым упэўнены?

Бронаў. У чым?

Брэдыс. У бескарыснасці.

Бронаў. Так. Сапраўдныя комуністы рэволюцыі і не прадаюць і не здраджваюць.

Брэдыс. Гаспадзін Бронаў. Ваша запальчывасць не да месца і шкодзіць для вас. Вы бачыце, мы досыць далікатна да вас ставімся. Для прабывання ў „плене“ вам створаны больш-менш нядрэнныя ўмовы. Мы лічымся з інтэлігентнымі людзьмі нават з таго лагера. Вы...

Бронаў (*перабіваючы*). Пасля таго, як два тыдні вы трымалі мяне ў сырым сутарэнні, білі і катавалі, каб выпытаць у мяне весткі аб Чырвонай арміі. Падобныя катаванні памерлі ў сярэднія вякі.

Брэдыс. Цяжка адразу пазнаць чырвонаармейскага камісара—хто ён. Каб мы ведалі, што вы...

Бронаў. Вы, не лічачыся з станам майго здароўя фізічна, здзекаваліся з мяне. Але фізічныя ўздзеянні не мелі поспеха. Камісар трапіўся моцны. У камісара хапіла мужнасці...

Брэдыс. Кажу ізноў: калі-б мы ведалі, што вы інтэлігент, чалавек з вышэйшага грамадства, даю вам слова гонару...

Бронаў. Слова контрразведчыка.

Брэдыс. Я разумею ваша становішча. Але вы не абразіце мяне. Вы бачыце, не гледзячы на вашы дзерзкасці, у мяне хапае вытрымкі з вамі гаварыць, гаспадзін Бронаў...

Бронаў. У сутарэнні нічога не вышла. Вы ўзялі другі метад. Метад маральнага ўздзеяння. Вы стварылі для мяне абставіны такога існавання, якое можна цярпець. Вы хочаце гэтай добрачыннасцю зрабіць на мяне інтэлектуальнае ўздзеянне. Хочаце, каб я даў вам звесткі аб Чырвонай арміі. Не, вы памыліліся. Ваша філантропія не будзе мець поспеху.

Брэдыс. Ваша лішняя запальчывасць перашкаджае мне з вамі гаварыць. Прашу вас супакоіцца і гаварыць спакойна. Вы ведаеце, што вас чакае?

Бронаў. Расстрэл.

Брэдыс. Слухайце, студэнт Бронаў. Смешна-ж паміраць, калі хочацца жыць і можна жыць.

Бронаў. Закон белага тэрора няўмольны. Няўмольны, як гільятына, якая мае адно прызначэнне—здымаць галовы. Па вашых законах я павінен быць фізічна знішчаны.

Брэдыс. Хто вам сказаў? Зусім не. Права на жыццё ў вашых руках. (*Бронаў маўчыць*). Вы маўчыце. Слухайце, камісар, смешна нават гаварыць—камісар! Эх вы, камісар, камісар! Вы паходзіце з інтэлігентнай сям'і. Ваш бацька быў дырэктарам гімназіі ў вялікім губернскім горадзе. Вы выхоўваліся ў сапраўднай грамадзе, самі вы без пяці хвілін інжынер. Інтэлігент. Сапраўдны рускі інтэлігент. Няўжо-ж вы гэтак нераздумна захоплены гэтымі комуністычнымі утапічнымі ідэямі, крах якіх гэтак блізка і ўвесь гэты комунізм цераз два-тры месяцы, самае большае цераз паўгода, будзе здавацца цяжкім перажытым кашмарам. Я сам студэнт тэхнолаг, і мне, як калегу, шкода вас. Вы памыляецеся.

Бронаў. Так.

Брэдыс (*захапляючыся*). Няўжо вы, студэнт Бронаў Глеб, не любіце жыццё? Жыццё-ж гэтакае прыгожае. Жыццё мае так шмат цудоўнага. Вы малады. Разумны. З сілаю волі. Перад вамі прыгожая будучыня. А галоўнае-жыццё. Жыццё кожнаму чалавеку, як разумнай жывой біялагічнай істоце, даражэй за ўсё. Што можа быць больш змрочнае за сырую, халодную, сяк-так выкапаную магілу ў параўнанні з жыццём. Жыццё—гэта святло і сонца. Шчасце і радасць. Я таксама партыец. Я—эсэр. Я спачатку быў згодзен на ўзаемную работу нашай партыі з большэвікамі. Але пасля большэвіцкая дэмагогія, узурпатарства, славутая дыктатура ў руках адной партыі. дыктатура, якая прынесла сляпы бязлітасны тэрар, тэрар і разруху—адштурхнулі мяне. І вось я тут. Тут сапраўдная дэмакратыя, народнае кіраўніцтва...

Бронаў. А Калчак, а ваша контрразведка?

Брэдыс. Гэта з'ява часовая... Вы Петраградскага палітэхнічнага?

Бронаў. Так.

Брэдыс. М-ма... Я ведаў у горным, на Мойцы, аднаго студэнта трэцякурсніка, Бронава Мікалая.

Бронаў. Гэта мой стрэчны брат.

Брэдыс. Такі высокі, стройны, брунет. Я з ім быў знаёмы... Слухайце, Бронаў, яшчэ раз кажу вам, вы памыляецеся. Мне шкода, шчыра шкода вас. Жыць-жа вам хочацца?

Бронаў. Так. Жыць я хачу...

Брэдыс. І павінны жыць. Вам будзе ўсё даравана...

Бронаў. Так?

Брэдыс. Так. Будзе забыта мінулае. Даю вам слова гонару інтэлігентнага чалавека і афіцэра. Ну...

Бронаў. Усё будзе даравана?..

Брэдыс. Так, так. Справа за вамі.

Бронаў. Ітак. Чаго вы хочаце?

Брэдыс. Таго, пра што мы гаварылі з вамі мінулы раз?

Бронаў. М-м-м...

Брэдыс. Ну вось вам папера, чарніла, стол... Я вас пакіну аднаго...

Бронаў. Звесткі аб складзе совецкай арміі ўсходняга фронта?

Брэдыс. Так. Па вашай памяці. Ну і спіскі камандвання. Каго вы ведаеце. Тылы.
Бронаў. І тылы? Вятка, Казань.
Брэдыс. Так. Усё, што вы ведаеце.
Бронаў. Усё, што я ведаю?
Брэдыс. Прашу сесці сюды. Вам будзе цяжка трымаць левую руку і пісаць... Я зараз выклічу...
Бронаў. Нікога не трэба, пісаць я не магу.
Брэдыс. Ну тады дыктуйце. Я буду запісваць.
Бронаў. Вы будзеце запісваць?
Брэдыс. Так, калі ласка.
Бронаў. Пішыце. Пленны камісар Чырвонай арміі Бронаў Глеб...
Брэдыс. Гэтага не трэба. Проста...
Бронаў. Пішыце!.. Пішыце!... Камісар Бронаў Глеб за сваё жыццё рэволюцыі не прадасць. Пішыце, гаспадзін контрразведчык. Пішыце студэнт-тэхнолаг, эсэр! Эх, вы, дэмакраты! Канчайце хутчэй допыты!
Брэдыс. Будзьце разумны (*Бронаў маўчыць*). Ну што-ж, вы мяне прымушаеце выбраць другі спосаб уздзеяння, гаспадзін камісар. Доўга я буду яшчэ з вамі тарокацца? А? Хутка я кончу ўсю гэту гісторыю?
Бронаў. Гэта ваша справа.
Брэдыс. Не, і ваша. Вы ў мяне загаворыце іначай. Вы ў мяне загаворыце! Вы ў мяне, чорт вазьмі, загаворыце іначай, калі не разумееце добрых да вас адносін! Вы мне дасце тое, што трэба, гаспадзін большэвік!
Бронаў. Не, гаспадзін эсэр з контрразведкі. Вы ад мяне не даб'ецеся нічога.
Брэдыс. Але-ж жыццё, жыццё. Вы не будзеце жыць, чорт вас вазьмі! Апошні раз стаўлю вам пытанне: хочаце вы жыць?
Бронаў. Хачу...
Брэдыс. Звесткі...
Бронаў. Я вам сказаў.
Брэдыс. Ды што я з табою ў бірулькі гуляю, ці што? Што вы здзеквацца ці што надумалі нада мною?
Бронаў. Гэту ролю вы ўзялі на сябе.
Брэдыс. Маўчаць! Ты ў мяне загаворыш! М-м-м-... камісар! (*Дастае рэвольвер*). Садзіся зараз-жа і пішы звесткі аб савецкай арміі ўсходняга фронта, чорт вазьмі. За адказ—расправа кароткая. Чуеш? Чуеш! Садзіся зараз і пішы, іначай тры металёвыя кавалачкі, апраўленыя ў мельхіор... Вы напэўне помніце мельхіор, пасуда, сервізы ў доме вашага бацькі...
Бронаў. Маўчыце!..
Брэдыс. ...апраўленыя ў мельхіор, якія называюць кулямі, будуць у вашай галаве.
Бронаў. Страляй! У! гады!
Брэдыс. Ты яшчэ разважаць. А? Два тыдні б'юся над табою. Атрымаеш, чорт вазьмі, калі не хочаш так, за сваю работу грошы. Атрымаеш грошы, чорт вазьмі, у дадатак да жыцця і свабоды.
Бронаў. Жандармы, канчайце допыт!
Брэдыс. Ты ў мяне загаворыш! Ты ў мяне будзеш шаўковы! Ты ў мяне загаворыш, чорт вазьмі! Ну! (*Бронаў маўчыць*). Ну, не хочаш! Не хочаш! А? Не хочаш!
Бронаў. Падлюгі!
Брэдыс. А-а-а! (*у істэрыцы*). Ты ў мяне загаворыш! Вырадак! Хам! Пачвара! Ты ў мяне загаворыш, большэвіцкая морда! (*Дастае кастэт з стала, збівае Бронава. Бронаў няпрытомнее*).

## АКТ II

### КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Парк МТС—майстэрні. Слесары каля трактараў за рамонтам. Трактарыст Батыроў працірае свой трактар.

Батыроў (*спявае, працуючы*).

Ільга башбул вак куяш бул.
Шта дыня Шуалатыб!
Ао, кудынды алга умтыл
Кара бурандар ўйнатыб!

Казубкін (*працуючы з ключом*). Ты ўсё, Батыр, спяваеш. Ты калі спіш, таксама, напэўна, спяваеш. Вясёлы ты чалавек, Батыр.

Батыроў. Чыго не пець? Язык сам спявае. Ваяваў на фронт—песня співаў. Чырвона армія песня співаў, і я співаў. Галадаў дваццаць першы год—таксама песня співаў, галодны песня. А зараз, бачка, не співаць песня нельга.

Шырынкін (*убягаючы*). Здарова майстры рамонта-трактарныя! Батыру Батыравічу маё шанаванне! Сялям Алейкім.

Батыроў. Хуш—кілды! Здароў, Вася Пятровіч!

Казубкін. Замінаць прышоў. Байкі расказваць...

Шырынкін. Байку не байку, а вось навіну скажу.

Казубкін. Ведаем мы твае навіны. Працаваць перашкаджаеш.

Батыраў. Якія, Вася, навіны?

Шырынкін. Прыехаў камісар з Чырвонай арміі. Аддзел палітычны будзе арганізоўваць. А з ім тры памочнікі. А дзянёк сёння харошы. Араць ды араць. Зямля да сябе просіць. Эх, і добра сёння ў полі!.. Ды вось з такімі майстрамі рамонтна-трактарнай справы ходзіш без работы...

Казубкін. Што гэта за палітычны аддзел? З чым яго ядуць? Палітычны аддзел? У нас? Гэта што? Накшталт Гапау ці што альбо што іншае? Напрыклад сказаць, што яны рабіць будуць?

Шырынкін. Лодыраў падкручваць.

Казубкін. Ты гэта пра каго?

Шырынкін. Вядома, не пра вас, Кузьма Ерамеіч.

Казубкін. То-та. Ты ў мяне, Вася, глядзі! Не люблю я, калі дарэмна трэплюцца.

Шырынкін. Ужо вы вельмі, Кузьма Ерамеіч, крыўдлівы. Мы з вамі ў лодырах хадзіць не можам. Мы з вамі рабочы клас. Вы з завода, а я батрак.

Казубкін. У цябе, Вась, курыва ёсць?

Шырынкін. Як-жа...

Казубкін. Давай, закурым. (*Закурваюць. Падыходзяць і закурваюць Батыроў і іншыя*).

Батыроў. Палітычны аддзел. Ведаю. На вайна наша кашырынскі дывізія была палітычны аддзел. Ваяваць памагаў. Работа праводзіў. Партыйны работа вёў. Агітацыйна работа вёў.

Шыўкін. Культурней і культурней жыць пачынаем. Я даўно ў газетах чытаў, што пры машынных нашых трактарных станцыях будуць арганізаваны палітаддзелы. Для правядзення, я думаю, палітычнай асветнай работы. Гэта добра. Культура ідзе. Папрацуем. Люблю я палітычных людзей. Люблю палітычную работу.

Шырынкін. Яны табе палітработу пакажуць.

Казубкін. А Гапау ты не любіш?

Шыўкін. І заўсёды вы мяне крыўдзіце. Ну пры чым тут, дарагія таварышы, я... калі...

Казубкін. Маўчы ўжо.. Люблю палітычную работу... Любіш.
Шыўкін. Пры чым-жа я тут, калі мой бацька ў мінулым кулак. Ды я на заводзе працаваў, сувязі з :м не меў...
Шырынкін. Сувязі не меў. Скажыце, якая палітычная свядомасць...
Батыроў. Вася, чаму стралковы гурток апошнія два разы не быў?
Шырынкін. Гэта праўда, не быў. Я наганю, Батыр, ей пра...

Убягае Маруся.

Маруся. Бач ты! Яны тут раскуры разводзяць, а я без работы хаджу. Трактар тры дні ў рамонце. Лодыры! Ударнікі!
Шырынкін. Мар'і Мікалаеўне наша вам!
Маруся. Не дуры, Васька, не час зубы табе скаліць, плакаць трэба. Бадай, трэцяя частка машын без работы гуляе, а сам ведаеш, які час... Сяўба запазніцца можа...
Казубкін. І запознімся... І палавіна трактароў будзе стаяць хутка...
Маруся. Гэта чаму так? Ты што-ж гэта шкоднік які ці што? Ды як ты смееш так гаварыць!.. Ды ты кандыдат партыі ці не?.. Ды ты што, Кузьма Ерамеіч?
Казубкін. Цыц, не трашчы, сарока. Не перашкаджай працаваць. Разумныя ўсе.
Маруся. Не, ты скажы, чаму? Не, ты скажы... Што за прычына?
Шырынкін. Так яго, Мар'я Мікалаеўна, вазьмі яго!
Казубкін. А ну, не перашкаджай, кажу. Ну вас да д'ябла!

Уваходзіць брыгадзір па рамонту Саловушкін.

Саловушкін (*да Казубкіна*). Ну як, Ерамеіч, хутка свайго фардзона, у рот табе капусты, закончыш?
Казубкін. Калі закончым—скажам.
Саловушкін. Прыслалі запасных частак, а вось падшыпнічкаў і не прыслалі. Чым там думаюць, у рот ім капусты.
Маруся. Чым вы думаеце, калі запасныя часткі патрабуеце?..
Саловушкін. А ты што мне за інструктар? Справаздачы я вам, наймілейшая, даваць не збіраюся.
Казубкін. А вось можа быць і інструхтар, і ўсе мы інструхтары. Падшыпнікаў няма от. Свае кулакі ці што ў машыну ўстаўляць?
Саловушкін. Я тут, у рот табе капусты, Ерамеіч, пры чым? Ты ў тэхкіраўніка папытай. Да рэчы, ён вось ідзе.

Увайшоў тэхкіраўнік Крапачоў.

Крапачоў. Што за мітынг?
Казубкін. На бягучую тэму.
Саловушкін. Вось Ерамеіч наконт падшыпнікаў клапоціцца, наконт запасной часткі, якой у нас няма.
Крапачоў. Няма, значыць няма. Не прыслалі—значыць на заводзе няма.
Казубкін. Вы знойдзеце прычыны.
Крапачоў. Мы, большэвікі, не павінны спыняцца перад цяжкасцямі, нас ведаюць, хто мы.
Казубкін. Ведаюць, ды не вельмі.
Маруся. Ведаюць, ды не зусім.
Крапачоў. І ў райкоме ведаюць, што запасных частак няма. Я дакладваў там аб ходзе рамонта. Вось што, майстры, гэта нас спыняць не павінна. Тэмпы. Тэмпы вырашаюць усё. Хутчэй рамантаваць машыны! Павялічыць прапускную здольнасць майстэрні.
Шыўкін. Правільна гаворыць таварыш тэхкіраўнік...

Казубкін. Ты памаўчаў бы... І так павялічылі прапускную здольнасць...

Уваходзіць Бронаў і Падшыбаеў. Іх ніхто не заўважае.

Казубкін (*гаворыць далей*)... павялічылі... Хутка ўвесь трактарны парк выйдзе з строя...

Маруся. Так. Хутка пяцьдзесят процантаў трактароў...

Казубкін. Ты памаўчы, сарока... Тэхкіраўнікі... Вашу мм... (*Хоча вылаяцца, але стрымліваецца*). Злосць бярэ. Дабро губім совецкае.

Крапачоў. Чым-жа гэта мы дабро псуем?.. Падумаеш!..Я ў райкоме...

Казубкін. І мы ў райком дарогу ведаем... Ды хіба гэта рамонт? Сяк-так. Раз-раз і гатова. Дробязь ходавую рамантуем, а асноўныя часткі і не глядзім. Дзень-два машына пахадзіла і зноў у рамонт. Ды так мы ўвесь парк запусцім...

Шырынкін. Вось гэта так...

Казубкін. За сур'ёзны рамонт мы і не браліся... Тэхнічных лістоў да машыны не складаем. Фармуляры ў канцылярыі валяюцца. Я хоць і не тэхнік, але сёе-тое кумекаю. І гавару табе, таварыш тэхкіраўнік, гэта не рамонт, а тфу... Шкодніцтва нейкае.

Крапачоў. Таварыш Казубкін, некалі нам з гэтым. У райкоме ведаюць. Тэмпы. Сяўба.

Казубкін. Будуць вам тэмпы... без трактароў. У райкоме ведаюць... Дрэнна ведаюць, напэўна. Тэхнікі!..

Бронаў (*Падшыбаеву*). Вось тут у чым справа. А ты мне не так тлумачыў, Падшыбаіч. Не так тлумачыў. Зараз мне зразумела, дзе сабака закопана.

Падшыбаеў. Чорт яго... Тэхкіраўнік у нас, здаецца, нішто, у жывот яму бервяно, мы гэтымі днямі ў райкоме дакладвалі.

Бронаў. Добры дзень, таварышы!

Усе адказваюць на прывітанне, асабліва ласкава, прыветліва вылучаецца голас Шыўкіна. Казубкін заняўся работаю і на прывітанне не адказаў.

Бронаў (*да Казубкіна, які працуе не звяртаючы на Бронава ўвагі*). Вось я, таварыш, чуў, як вы гаварылі. Яно, бадай, праўда. Ды не бадай, а такі і праўда,

Казубкін. А ты хто такі?

Бронаў (*рассмяяўшыся*). Я ваш палітычны началььнік. Начальнік палітаддзела нашай МТС.

Казубкін (*ухмыляючыся, выцер руку аб фартух, падаючы першы руку Бронаву*). Ну тады, здароў!

Бронаў. Дык кажаш, рамантуем раз-раз і—гатова? Капітальнага рамонту няма? Хутка ўсе машыны выйдуць? У рамонце шмат машын гуляе. А хіба ў вас суцэльнага рамонта перад сяўбою не было?

Казубкін. Не было. Тэхкіраўнік на курортах быў, ядры яго...

Крапачоў. Ды што ён разумее, таварыш начальнік. Тут тэмпы. Вось ужо скончым сяўбу...

Бронаў. А скончыце вы з гэтакімі трактарамі?

Крапачоў. Скончым, вядома.

Шыўкін. Само сабой разумеецца. Тут тэмпы.

Казубкін. І не скончыш.

Маруся. І не скончым.

Шырынкін. Па тры дні гуляем.

Крапачоў. Ды што вы, ударнікі! У райкоме...

Бронаў. Э-э, пастойце... У райкоме. Тут горш, чым я думаў. Райком... Тут трэба справу абмазгаваць...

Падшыбаеў. Дык ты што-ж, Крапачоў, мне гаварыў, калі я прыехаў, месяц таму назад, што азімае ворыва мы забяспечым трактарнаю цягай?

Крапачоў. І забяспечым. У райкоме...

Бронаў. Пастойце... Тут справа сур'ёзная. (*Звяртаючыся да Казубкіна*). Таварыш, калі мы паставім на капітальны рамонт пяцьдзесят процантаў парка. Сёння зараз. Колькі гэта працягнецца?

Казубкін. Паднатужыцца—два тыдні.

Бронаў. А калі слесароў дадаць чалавек дзесяць-пятнаццаць?

Казубкін. За тыдзень.

Бронаў. А запасныя часткі ўсе ёсць?

Казубкін. Ні чорта няма.

Бронаў (*да Крапачова*). А вы пасылалі на завод па запасныя часткі?

Крапачоў. Не... не дазваляецца. Па развёрстцы яны самі высылаюць. Накладныя выдаткі на аплату камандыровачных, трата лішніх сродкаў...

Бронаў. Так... Правернем... Пашлем на завод па запасныя часткі, сёння-ж. (*Да Казубкіна*). Ты мне, таварыш, занатуй, што нам трэба. А ў горад я пашлю да дырэктара аднаго завода. Хаця не... сам з'езджу. Даб'юся, каб вылучылі брыгаду слесароў чалавек дзесяць-пятнаццаць.

Казубкін. Вось гэта так! А ну, Вась, дай закурыць, а то я бачу, тут (*падміргнуўшы на Марусю*) шарыкі круціш.

Бронаў (*Крапачову*). А з вамі прыдзецца асобна пагаварыць. Вы запусцілі парк. Не сур'ёзна паставіліся. Ашуквалі райком. Панашаму, па-ваеннаму, гэта называецца „очковтирательством".

Падшыбаеў. Моцна! Вывад.

Шыўкін. Вось гэта правільна. Так сказаць, вырашэнне палітычнага пытання на месцы.

Саловушкін. Скажы ты а, у рот табе капусты.. А мы сядзелі тут... А, не дагадаліся.

Падшыбаеў. Сядзеў Саловушкін, бервяном табе ў пуза, а галоўнага не бачу. Брыгадзір, эх-ты, бервяном табе ў жывот!

Саловушкін. Так, Падшыбаў, у рот табе капусты... М-м...

Батыроў з часу прыхода Бронава ўсё глядзіць на яго, робячы намаганні штосьці прыгадаць.

Батыроў. Скажы, калі ласка, таварыш камісар ваенны, як твой прозвішча?

Бронаў. Прозвішча? Прозвішча—Бронаў.

Батыроў. Бронаў, кажаш?

Бронаў. Так.

Батыроў. Ты камісар Пуцілаўскі стралковы палка ні быў у дзевятнаццаты год?

Бронаў. Быў.

Батыроў. Цябе белагвардзейскі забіваў?

Бронаў. Забіваў...

Батыроў. Пад вёскай... вёскай...

Бронаў. Другчанка...

Батыроў. Дыручанка... Дыручанка... Як-жа ты жыў?

Бронаў. Біў белагвардзеец, ды не забіў. Жывы застаўся. Пастой, пастой. Як тваё прозвішча?

Батыроў. Батыр Батыроў Салархан...

Бронаў. Батыроў. М-м... Пастой. Ты... у Брызгаленкі быў у...
Батыроў. Конны разведка...

Спачатку цiснуць адзiн другому рукi, пасля цалуюцца. Хваляванне ахоплiвае прысутных.

Казубкiн (*кiдаючы работу*). Вось гэта так. Бач, ты, сустрэлiся!
Шыўкiн. Героi грамадзянскай вайны.
Саловушкiн. Скажы ты, у рот табе капусты!
Падшыбаеў. Вось гэта геаметрыя!

## АКТ III

### КАРЦIНА ДВАНАЦЦАТАЯ

У МТС. Драгiлеўская ў адведзенай ёй кватэры сядзiць i чытае кнiгу. Убягае з дарожным чамаданам Чудноўская.

Чудноўская. Менефа! Мiлая! Родная! Насiлу цябе знайшла. Абхадзiла ўвесь ваш соўгас. Нават папала ў нейкую майстэрню. Якая ў вас тут гразь!.. (*Глядзiць на туфлi*).
Драгiлеўская. Вера, адкуль?
Чудноўская. Менефа! Мiлая! (*Абнiмае*). Як гэта цiкава! Ах як цiкава! Раман! Сапраўдны раман! Увесь горад гаворыць толькi аб табе i Бронаве. Ну Бронаў проста герой. Якая гразь! Я нiколi не была ў соўгасах.
Драгiлеўская. Не соўгас, Вера, а МТС.
Чудноўская. МТС? Усё адно. Соўгас, МТС, калгас. I ты таксама. Не, гэтага нельга даравацъ. Выехала. Прайшло два тыднi i нi гуку. Я зусiм выпадкова даведалася аб тваiм рамантычным месцапрабываннi. Ах, як гэта цiкава!
Драгiлеўская. Рамантычным? Чаму рамантычным?
Чудноўская. Ах не супярэч! Гаворыць увесь горад. Рамантыка! Рамантыка! Ах як-бы я хацела быць на тваiм месцы! Герой! Гераiня! Уцяканне. Iнтрыга. Iнтрыга, якая цягнулася шаснаццаць год. Развязка. Чаму мой муж не быў у грамадзянскую вайну на фронце? Чаму ён не быў у палоне ў белых? У якога-небудзь вядомага афiцэра, якi-б яго дапытваў i прысудзiў бы да расстрэла. Уцяканне. ...А я-б вышла...
Драгiлеўская. ...Замуж за гэтага белагвардзейца i пасля сустрэлася-б з мужам. Ах, Вера, Вера! Ты не ведаеш, чаго каштуюць гэтыя перажываннi. Ты бачыш толькi мiшуру, бляск.
Чудноўская. Ах, не гавары мне так сур'ёзна. Я не хачу слухаць. Сустрэча. Муж з ордэнам чырвонага сцягу. Пра мяне гаварылыбы цэлы горад. Увесь край. Нават увесь Саюз.
Драгiлеўская. Ты памыешся з дарогi?
Чудноўская. Так i пераадзенуся. Дарэчы, ён хутка прыдзе?
Драгiлеўская. Хто?
Чудноўская. Хто? Вядома, не качагар чумазы, якi так паглядзеў на мяне, так паглядзеў, што я спалохалася. Я выпадкова зайшла ў нейкую майстэрню, шукаючы твае кватэры—папытала цябе, а нейкi качагар з малатком на маё ветлiвае пытанне адказаў: „Тут такiх няма, ступай у кантору".—I дадаў: „Бегаюць тут, чорт бы iх узяў",—так i сказаў: „Чорт бы iх узяў—працаваць толькi перашкаджаюць".
Драгiлеўская. Качагар? Слесар можа?
Чудноўская. Можа i слесар. Аб прафесii я ў яго не пытала. (*Выходзiць пераадзявацца*).

Драгілеўская. Кожны па свойму разглядае факты і падзеі. Пазнаму перажывае асабовае гора. Дурная і смешная.

Чудноўская (*з-за шырмы*). Менефа, а дзе рэчы Бронава? Хіба...

Драгілеўская. Ён жыве ў сваёй кватэры. А тут часова пасялілася я.

Чудноўская (*на хаду зашпільвае сукенку*). Як, хіба, вы не?..

Драгілеўская. Не, Вера, не.

Чудноўская. Ах, вось як. А я думала... Але ўсётакі хутка, хутка ён прыдзе, ён-жа бывае, бывае ў цябе?

Драгілеўская Увесь вольны час ён аддае мне...

Чудноўская. У цябе, вядома, ёсць яго фатаграфія?

Драгілеўская. Ты прыехала мяне, ці...

Чудноўская. Менефа! Мілая! Праўду сказаць,—і тое, і другое.

Драгілеўская. Добра, што ты адкрытая. Эх, Вярусік, Вярусік. Ты дурная, твая галоўка набіта аднымі сантыментамі. Але ты добрая, чулая.

Чудноўская. Менефа! Мілая! Як я рада за цябе! Так рада, калі-б ты ведала, што гавораць у горадзе... Дарэчы, ведаеш, у мяне завязаўся раман... з Сокалавым... Ты яго ведаеш... Такі сур'ёзны, пануры, але цікавы. І вось калі дайшло да самага цікавага, ён...

Драгілеўская. Паехаў?

Чудноўская. Не. Да яго прыехала жонка з цёшчай і трое дзяцей. Я яму зрабіла такі скандал...

Драгілеўская. За тое, што ён мае жонку і дзяцей?

Драгілеўская. Так...

Дагілеўская Але-ж ты напэўна, ведала, што ён жанаты?

Чудноўская Бачыш ты, самое галоўнае, што аб гэтым у яго я ніколі не пытала.. Ты ведаеш, якую я сабе купіла брош? Не, ты паглядзі, якая цудоўная. А ты ведаеш, якое я купіла зімняе манто ў Маскве! Мы ездзілі ў Маскву. У нашым горадзе ў тэатры ідзе „Дзяўчаты нашай краіны". Цікава. Аперэта яшчэ не прыехала.

Драгілеўская. Сталы білет у аперэту ты ўжо маеш?

Чудноўская. Які сталы білет? Ах, так. Яшчэ няма. Ах, я і забылася—дай мне фатаграфію Бронава.

Менефа шукае на стале і падае ёй фатаграфію.

Чудноўская. Ах, які цікавы, бландын! Светлыя вочы. Глыбокі позірк. Ах, як яму ідзе вайсковая форма! Тры простакутнікі, Камісар. Ордэн Чырвонага сцягу. Як-бы я хацела, каб мой муж меў адкрыты смелы позірк. Адчуваецца сіла волі, як у сапраўднага мужчыны, героя. Мілы, слаўны... (*Употайкі цалуе*). Ах, як я табе зайздрошчу...

Драгілеўская. Ты-ж зайздросціла і такому мужу, як Драгілеўскі.

Чудноўская. М-м... А хутка ён прыдзе?

Драгілеўская. Не ведаю.

Чудноўская. Як не ведаеш?

Драгілеўская. Ён заняты з раніцы да позняй ночы. Ён ніколі не заходзіць да мяне цэлымі днямі.

Чудноўская. І гэта пасля шаснаццацігадовай разлукі. Пасля такой сустрчэы! Даруй мне, Менефа, я-б гэтага не перажыла. Я-б зрабіла яму такі скандал! Не, гэта немагчыма. Так нельга. Нельга! Нельга!

**Драгілеўская.** Ён на вельмі адказнай рабоце. Цяпер пара асенняй сяўбы. Тут быў такі развал. Я-ж таксама працую.

**Чудноўская** Працуеш? Ты працуеш? Дзе?

**Драгілеўская.** Я не зацверджаны загадчык бібліятэкі клуба МТС.

**Чудноўская.** Ну як-жа я яго ўбачу?

**Драгілеўская.** Вера. Я думала, ты мне сама раскажаш аб маёй дачцэ. Ты яе бачыла?

**Чудноўская.** Ах, я зусім забыла. Я наведваю яе кожны дзень. Яна такая гарэзлівая. Я бачыла яе ўчора перад ад'ездам. Я забылася цябе за яе пацалаваць. (*Цалуе некалькі раз*).

**Драгілеўская.** Здаецца, Глеб ідзе...

**Чудноўская.** Яго завуць Глеб? Ідзе. Ах! (*Пачынае пудрыцца, фарбаваць губы, папраўляць туалет. Уваходзіць Бронаў*).

**Бронаў.** Ты не сумуеш, Менефа? Ты прабач мне. Я так заняты. Работы па горла. Цяпер еду з райкома. На хвілінку заскочыў праведаць цябе.

**Чудноўская.** Ах, які цікавы!.. Героі бываюць толькі цікавыя.

**Драгілеўская.** Глеб, ты адпачыў бы. Ты гэтак стамляешся.

**Бронаў.** Што ты! Адпачыць? Няма калі... Э, ды ў цябе госці.

**Драгілеўская.** Ага. Пазнаёмся, гэта мая таварышка, Вера Сямёнаўна Чудноўская.

**Шырынкін** (*убягаючы*). Таварыш Бронаў! Вас патрабуюць. Прыехала ГПУ. Арыштавалі Крапачова. Яшчэ хтосьці прыехаў. Яны ўсе ў палітаддзеле.

Вера застаецца з працягнутай рукой.

**Бронаў.** Я так і думаў. Пашлі, Шырынкін!

## КАРЦІНА ТРЫНАЦЦАТАЯ

Майстэрня МТС. Ідзе ўзмоцнены рамонт трактароў у парку. На сцэнах лозунгі: „ДАТЭРМІНОВА ЛІКВІДАВАЦЬ ПРАРЫЎ У РАМОНЦЕ ПАРКА“; „УДАРНІЦТВАМ І СОЦСПАБОРНІЦТВАМ ДАЦЬ ТЭМПЫ І ЯКАСЦЬ РАМОНТУ ТРАКТАРОЎ“. СЦЕНГАЗЕТА „ЗА ЗДАРОВЫ ТРАКТАР“. Працуюць паркавая і заводская брыгады.

**Казубкін.** Ух, так! Так! Ух, даеш! Так! Упарыўся, Вася? Гэта табе не за трактарам у полі сядзець. Тут сіла, Вася, сіла патрэбна...

**Шырынкін.** А ну, паддавай, Ерамеіч, паглядзім, хто стаміўся (*заўзята працуюць*).

**Казубкін.** Стой, стой! Тфу, чорт, запарыў...

**Шырынкін.** Ну што, Казубыч, здаўся?

Уваходзіць Саловушкін і свішча ў свісток. Усе кідаюць працу.

**Саловушкін.** Перакур.

**Казубкін.** Вельмі часта, нешта перакур.

**Саловушкін.** Таварышы, навіна!

**Казубкін.** Што там за навіна?

**Саловушкін.** Тэхкіраўніка нашага Крапачова нядаўна арыштавалі.

**Казубкін.** Гапау ці што?

**Саловушкін.** Гапау з раёна.

**Казубкін.** Даўно пара.

**Саловушкін.** Так.

**Першы рабочы заводскай брыгады.** Каго, каго арыштавалі?

**Саловушкін.** Тэхкіраўніка нашага, Крапачова.

**Другі рабочы.** Якія прычыны?

Саловушкін. Нам пра гэта не расказвалі.

Казубкін. Пытанне яснае. Шкодны чалавек. Парк запусціў... Шкоднік. Ясна.

Трэці рабочы. Вядома, шкоднік. Ды хіба можна было так запусціць трактары? Ды ці бачыў хто такую справу? Які рамонт вёў!

Чацверты рабочы. Догляду за машынамі не было. Гэта праўда. Глыбіня машыны не праглядалася. А так усё гэта зверху, зверху, валі, валі, тэмпы. А якасць? Машына яна без слоў, а не даглядзі яе, выразна загаворыць.

Казубкін. Ну мы тут раскалякаліся, ладна. Арыштован, і да д'ябла. Ядры яго...

Шырынкін. А ты ведаеш што, Ерамеіч, думаю кінуць на трактары ездзіць ды ў рамонтныя перайсці. Ужо-ж вельмі мне падабаецца гэта справа.

Казубкін. Гэта ты, Вася, правільна... Гэта ты верна... Валі падручным да мяне.

Першы рабочы заводскай брыгады. І колькі гэтых шкоднікаў развялося.

Казубкін. Гапау, яно не спіць. Вылавіць. А ну, хлопцы, пашлі па мясцах.

Маруся (*ўбягаючы*). Бач ты, яны ізноў кураць... Ды што гэта такое.

Казубкін. А табе што? Ізноў, сарока, стракатаць прыбегла. Ты што пасаду тэхкіраўніка ці што заняла?

Першы рабочы. Бач ты камандзірша ў вас якая! Да нас на завод бы такую.

Казубкін. А ну, Маруся, пашла адгэтуль!

Маруся. Ды я, як камісія па праверцы соцпаборніцтва.

Казубкін. Ну тады давай, давай.

Маруся. Я абвясціць вынікі прышла.

Галасы. А ну даеш! Цікава. Давай хутчэй!

Казубкін. Увага, таварышы! Слова мае Мар'я Мікалаеўна, член камісіі соцпаборніцтва

Маруся (*адным залпам выпальвае*). Камісія праверыла соцпаборніцтва паміж рамонтнай брыгадай завода „Чырвоны Профінтэрн“ і брыгадай парка па рамонту трактароў першай партыі і знайшла: заводскія па тэмпах і якасці занялі першае месца. Паркаўская брыгада МТС з улікам стану трактароў перад работай сто працантаў, а заводская сто чатыры працанты.

Казубкін. Зразумела. Ну ваша слова кончана. Можаце сабе ісці. Мая брыгада—па мясцах! У другой партыі чатыры працанты дагнаць ды чытыры наперад даць. Пашоў...

Маруся. Ды я не кончыла...

Казубкін. Мы самі скончым. Дуй адгэтуль!

Пашла работа. Уваходзяць Бронаў і Падшыбаеў.

Бронаў. Таварышы! Таварышы! На адну хвілінку адарву. (*Усе кідаюць работу, за выключэннем Казубкіна і Шырынкіна*). Васілій Ерамеіч, ты што-ж начальства не слухаеш?

Казубкін. Няма калі, дзмі, Вася, чорт, дуй!

Падшыбаеў. Ды ты што, Казубкін, бервяном табе ў пуза? Спыні работу.

Казубкін. Ды ты мне не штокай. Чатыры працанты. Дуй, Вася! Крой, хлопцы!

Бронаў. Ты што-ж, таварыш Казубкін, мяне не паважаеш, ці што?

Казубкін (*кідае працу*). Цябе? Не, як-жа, я цябе паважаю (*добрадушна ўсміхаецца*). Цябе, чорт цябе вазьмі, не паважаць нельга.

Бронаў. Таварышы, наша ўдарная работа па метаду соцыялістычнага спаборніцтва дала высокія вынікі...

Казубкін. Высокія, ды не вельмі.

Бронаў. Што?

Казубкін. Высокія, кажу, ды не вельмі Мы адсталі ад заводскіх хлопцаў на чатыры проценты.

Бронаў. Затое, усе сто вамі выкананы.

Казубкін (*нездаволена*). Выкананы...

Бронаў. У другой чарзе мы дадзім гэтакія-ж вынікі і па якасці і па тэрмінах. Праўда, таварышы?

Казубкін. Не згодзен.

Бронаў. Не згодзен?

Казубкін. Не згодзен. Тэмпы нам, паркавым, трэба павысіць. Тэмпы павысіць і каб якасць...

Першы рабочы. Мы, таварыш начальнік, заводскай брыгадай, улічваючы становішча, у сілу неабходнасці, з сёнешняга дня будзём працаваць замест дванаццаці чатырнаццаць гадзін. Згодны, таварышы?

Галасы: Чаго там! Вядома! Згодны, згодны!

Казубкін. А мы... паркавая брыгада, шаснаццаць гадзін у суткі. Як таварышы?

Галасы. Даёш! Згодны:

Бронаў. А можа ты дваццаць чатыры гадзіны будзеш працаваць са сваёй брыгадай?

Падшыбаеў. Бервяном табе ў пуза.

Казубкін. Мы ў даўгу. Не магу я іначэй. Адставаць. Ды я сам заводскі.

Бронаў. Ну што-ж, таварышы, справа важная. Задачы вялікія. Сяўба. Што-ж мне застаецца. Згадзіцца?

Казубкін. А ну, закурвай, і на работу. Саловушкін, перакуры цераз дзве гадзіны. Зразумеў?

Саловушкін. Ты што—камандзір тут які, ці што?

Казубкін. Раз гавару, значыць камандзір.

Шыўкін. Вось гэта сапраўды ўдарніцтва.

Казубкін (*паглядзеў так на Шыўкіна, што той скурчыўся*). А ты маўчы... А ну, бярыся. Па мясцах!

Саловушкін. Висёлейшае жыццё, у рот табе капусты, пашло.

---

Я. СКРЫГАН

# НА ВЫСЕЛКАХ

## I

Леўка варочаўся дахаты.

Палявая дарога выкручвалася па загонах. На ёй вілны былі нядаўна павысыханыя пасля дажджу і непазгладжваныя яшчэ сляды калёс. Леўка ішоў, грукаючы абсацамі. Шырокія халявы ягоных ботаў біліся па тонкіх старэчых галёнках. Ён курыў люльку і, пыхкаючы дымком, сяды-тады сунімаўся і глядзеў на загоны.

Сяуба была зроблена добра, як мае быць. Ён нагінаўся і мацаў рукамі. Набутлыя зёрны прарываліся праз шалупайкі і прыліпалі нядужымі яшчэ парасткамі да грудак зямлі. Леўка варочаў пальцамі гэтыя грудкі, расціраў іх у далоні і нюхаў чорную сытую вільгаць. І толькі ўжо, калі замлявалі ногі, падымаўся і ішоў далей.

Часамі ён задумляўся, нібы што прыгадваючы. А потым ажыўляўся, і ў барадзе паяўлялася ўсмешка. Ён бачыў сябе гаспадаром усіх гэтых палёў. Ён удыхаў у сябе іхнюю радасць і думаў: „Во, брат Леўка, які ты вялікі начальнік. Над усім калгасам нагляд. Хто-б дзе што ні рабіў, а Леўка—праверыць. А прызнае Леўка, што нядобра,— круці не круці, а перарообіш. У Леўкі, брат, вока спрактыкаванае ад яго нічога не ўтоіш. А знайшоў непарадак—сілу маем і пакараць. От-жа зняў з Мігалені пяць працадзён за тое, што забаранаваў як насмех. І другі раз—не будзе... Во, брат Леўка, якая сіла ў цябе цяпер на старасць. Во да якое ты паверкі дажыў, а? Толькі от маладосць твая—як не твая была, гэта, брат, шкода“.

Успомніўшы пра маладосць, ён уздыхнуў. Але праз хвіліну сплюнуў і думаў ужо зноў пра другое. Перад вачыма стаяў гэты чорнаў Цярэшка. Вышла так, што той ўшчэнт пазамульваў коні. Леўка адабраў іх ад Цярэшкі і перадаў другому. Не ўмееш, моў, абыходзіцца з дабром, дык і не бярыся, або навучыся перш... Цярэшка злаваўся, крычаў, што ён не вінаваты, а што такія папаліся хамуты. Ну, а калі хамут, то хіба яго нельга паправіць? Пасля Цярэшка пачынаў прасіцца не адбіраць ад яго коняй. Цяпер ён ходзіць асунуўшыся, як сірата якая. Сустрэнецца, і дабрыдзень аддасць, але неяк нялоўка, відаць, яму, нават гаворкі не можа знайсці. Леўку рабілася шкода яго. От стаіць у ваччу, як ён, ледзь не плачучы, просіцца не рабіць яму на ўвесь калгас сораму.

У далоні расціснулася забытая грудка зямлі. Леўка выцер аб палітон руку і толькі цяпер заўважыў, што ўжо вечарэе. Ён закрочыў шпарчэй. Люлька пыхкала, пакідаючы за Леўкаваю спіною лёгкі і сіні дымок. Халявы шоргаліся адна аб адну і біліся па галёнках, даганяючы старэчы Леўкаў шаг.

У сяло ён прышоў ужо прыцемкам. Па дарозе завярнуў да Грыбаля і застаў у яго Шкарубу. Шкаруба сядзеў на лаве, успёршыся рукамі на кіёк і палажыўшы на іх сваю рыжую драмучую бараду. Грыбаль чытаў за сталом газету. На адно плячо ў яго быў накінуты шынель. Лямпа звісала над сталом, і ад яе бляшанога кружка на стол клаліся шырокія цені.

— Дык як-жа будзе?—запытаўся Шкаруба, не знімаючы з кійка барады.

Грыбаль перагарнуў газету, і адсунуў яе ўбок.

— Так і будзе, Шкаруба. Не можам... Ну, што добрага, дзядзька Леўка?

— Табе штодня ды ўсё каб што-небудзь добрае. Ты пытай пра благое, каб яго ўпору ўбачыць.

Грыбаль зарагатаў. Леўка знайшоў і падсунуў да стала ўслончык.

— Гэта праўда... А што ты от, дзядзька Леўка, скажаш пра Шкарубу?

— А што?

— Ды ён от...

— Я табе кажу, Рыгор, што не мудрую я,—перабіў Шкаруба, падымаючыся з лавы і адстаўляючы перад сабою кій.—Думаеш я гэта з бухты-барахты? Я, брат, пападумаў ужо колькі над гэтым. Можа я начамі не спаў перад тым, як прыйсці сюды. Ну, а што было раней, то сам ведаеш—нярозум мой быў на гэта. Ды і калі гэта было? А што я за апошнія гады зрабіў ці сказаў дзе?.. У калгас прасіцца прышоў,—паясніў ён Леўку і павярнуўся да яго.

Леўка паглядзеў на Шкарубу доўга і ўпорчыва. Шкаруба сумеўся. Яму толькі здалося, што ў Леўкі былі занадта цяжкія бровы.

— Як ты што скажаш, дзядзька Леўка, на гэта?—запытаўся Грыбаль.

Лямпа вісела над самым сталом і адкідала на хату пачварна шырокія цені. На канцы стала ляжала пакамечаная газета. За акном вырысоўваўся высокі сілуэт бярэзіны. Леўка палез у кішэню па люльку.

— Нельга,—спакойна і халодна сказаў ён.—Каб хто другі, а Шкарубы нельга. Шкарубу кожны ведае—колькі год ваяваў з намі. Што мо' няпраўду кажу? —звярнуўся ён да Шкарубы.—От бач. Калгас, гэта табе не Мікола чудатворац, што ты яму свечку паставіў і скажаш, што адмаліўся... Не чалавек ты нам, от што, і не паверу я, што ты прышоў на сумленне гаварыць, гэта я кажу табе ў вочы...

— Леўка!..— Шкаруба ступіў да стала.—Вы от не верыце, мужчыны. Але ж, я кажу, што можа я начамі не спаў, пакуль адважыўся пераступіць гэты парог. Не насмех-жа я прышоў да вас. Што было, таго ўжо даўно няма. Чым хоць бажуся, што я.. ну як тут сказаць? Ат, усёадно-ж не паверыце,—махнуў ён рукою. Пасля раптам сутула і неяк нязграбна павярнуўся і, цягнучы за сабою кій, таропка вышаў з хаты.

## II

Шкаруба жыў на водшыбе, каля лесу. Цяпер у яго быў там хутар. Праўда, хутарам яго нельга было і назваць, так сабе—хаткадрындушка. Раней ён жыў на сяле, разам з усімі, і на гэтыя выселкі пашоў не з вялікае ахвоты. Пачалося гэта гады чатыры ці больш назад, і ніхто нават не мог і падумаць, што Шкаруба паверне на такую дарогу.

Жыў ён некалі так, што ледзь ставала ў гаспадарцы зводзіць канцы з канцамі. Да вайны больш хадзіў па людзях—батрачыў.

За вальнадумства на сяле яго звалі „дамакратам“, і ў старасты ён лічыўся за „лядайкага“ чалавека. Пасля ён пайшоў у салдаты і вярнуўся ўжо толькі пасля рэвалюцыі ў адным пашарпаным шынеліку, падпяразаным шырокаю папругаю з царскім арлом на блясе, і ў сівой каракулевай папасе. Левы бот быў да таго разбіты і скрыўлены, што з яго вылазіла чырвоная, яшчэ патрэсканая пята.

На сяле ён стаў адразу прыкметны. Без яго цяпер не абыходзіўся ніводзін мітынг. Усюды, дзе-б ні было якое зборышча—відна была яго знакамітая сівая папаха. Ён быў і камбедам, і ў дэпутатах; яго наўкруга баяліся ўсе самагоншчыкі і дэзертыры.

Прышоўшы з салдат, ён застаў гаспадарку разбуранаю і запушчанаю. Ён кінуўся да сваякоў, да знаёмых, просячы памагчы, хто чым можа. Памаглі—хто канём, хто насеннем. Першыя часы Шкаруба не вылазіў з даўгоў ды з адработкаў. Але год за годам гаспадарка пачала папраўляцца. Памочніцаю падростала дачка. Жонка, праўда, часта нядужала, але сваю долю гаспадаркі цягнула. І асабліва пачаў папраўляцца Шкаруба, калі далі прырэзку. Ён набыў ужо і карову, і каня і самашто станавіўся на ногі, як у сяле ўзяліся арганізоўваць калгас. Гэтая папраўка распаліла прагнасць „выйсці ў людзі“, стаць гаспадаром не горш за другіх. І от Шкаруба ў калгас не пайшоў, а разрагатаўся. Хто гэта выдумаў такую праяву—калгасы?—гаварыў ён.—Як-жа гэта можна будзе ў чарадзе гаспадарыць? Не, брат, я яшчэ не здурнеў, каб пайсці на такую штуку“. Ён хадзіў па сяле і пацяшаўся, як не ўмеючы, і часта яшчэ нясмела, бедната зносіла хамуты, звозіла сані, бароны ды плугі на двор новага праўлення, і наспех будавала з гумнаў агульныя стайні.

Рагатаў і пацяшаўся Шкаруба з год. Але з кожным разам ягоны рогат слабеў і рабіўся трывожным. Бедната ішла ў калгас. Разбіты кулак прытаіўся, сам стараючыся пралезці разам з беднатою. Шкаруба пачаў адзіночаць. Яго забірала злосць. Ён бачыў, што тыя-ж самыя суседзі, з якімі ён некалі разам галетнічаў, цяпер у калгасе яго далёка абагналі. Цяпер пасміхаліся ўжо з Шкарубы яны. Але ўпартасць не давала пайсці і далучыцца да іх. Ад злосці і на людзей і на самога сябе ён захацеў выбрацца з сяла, каб нават і не быць разам з імі. На ўзлеску стаяў недавеяны вятрамі хутарэц Есіпа Бенькі. Шкаруба надумаў прасіць памяняцца сядзібамі. Хутарэц быў, як порхаўка. Абмен быў не вельмі выгадны, але Шкабура спадзяваўся яго паправіць хоць з проігрышам, абы толькі збыць гэтую людскую назолу. Бенька з ахвотай згадзіўся, нават падрадзіўшыся сплаціць барыш, і Шкаруба пайшоў на выселкі.

От тут і пачалося тое, пра што нават не думаў Шкаруба. Перш, здавалася, з ахвотаю ён узяўся папраўляць сваё новае седала. Але паволі ўсё больш і больш пачынала заядаць гэтая страшэнная адзінота. Ён пачаў прыглядацца і разбіраць акалічнасці. Ён пачаў упершыню доўга і сур'ёзна над усім гэтым думаць. Ён перадумаў усё сваё жыццё, пачынаючы ад батрацтва і канчаючы „хутаранствам“. Ён пачаў шукаць у ім тае памылкі, на якой ён пакаўзнуўся. Ён прагнуў стаць чалавекам. І от тады, калі ён, здавалася, ужо намацаў дарогу, ён з разгону пусціўся па ёй, не заўважыўшы, што яна-ж сама пачала апускаць яго ўніз. Людзі пайшлі па другой і цяпер былі далёка ад яго. Ён астаўся адзін, ад яго цяпер адвярнуліся нават суседзі. І па сутнасці заслужона, бо хіба мала ён хадзіў і ад зайздрасці, што праўда была на іх старане, паклёпнічаў. Шкаруба думаў цяпер над усім гэтым доўга і ўпарта.

Яго пачала страшыць адзінота. Да яго цяпер ніхто не заходзіў. Сустракацца з сваімі даўнейшымі сябрамі па рогату ён сам не хацеў, нават неяк баяўся іх і ненавідзеў. А добры чалавек не заглядаў да яго на двор, нібы на ім ляжала нейкая нязмыўная пляма. Звычайна ў такія часіны людзі шукаюць уцехі ў сям'і. Але з некаторага часу Шкаруба заўважыў, што і сям'і гэтае ў яго цяпер няма. Яна распадалася, як дрэнна злепленыя цагліны на ветры, не маю ы нейкага агульнага цэнтру. Кожны жыў сам на сабе, сваімі інтарэсамі, як пустэльнік. Жонка стагнала і ішла на работу, не гледзячы, пад сілу яна ёй ці не. У гады ўвабралася дачка. Яе плечы круглелі і вылузваліся з тонкае кашулі. Шкаруба знаў, што ў жанчыны свой лёс і яго нічым не перамудрэеш А самой-жа да хлопцаў не пойдзеш. А хутар наўкруга быў забыты. Ні з сяго ні з таго пачыналіся сваркі. Ганна нападла тады на бацьку, што ён намудраваў на сваю галаву. Хіба нельга было і ім жыць разам з людзьмі, па-чалавечы і маці-б не разрывалася на кавалкі, а стала-б дзе на лягчэйшай рабоце, як людскія—даглядаць свіней, ці на кароўнік.

— Дык-жа не прымуць,—звычайна глуха і безнадзейна адказваў Шкаруба.

— Дзіва што не прымуць, калі вы перш сябе абгнюсілі.

Шкаруба змаўкаў. Ён выходзіў на двор і браўся за якую работу. Але, дзіўная рэч: некалі ён прападаў дзень і ноч ля гаспадаркі, а цяпер усё гэта выпадала з рук, як чужое. Ён садзіўся ў дрывотні і гадзінамі глядзеў, уставіўшыся ў паломанае калясо, што валялася сярод двара. Па дарозе паўз лес ехалі фурманкі. Ён чуў іхныя галасы і адрывісты лоскат калёс. Ён зайздросціў, што ў іх ёсць шырокае гаманлівае жыццё, свае інтарэсы і гэта нескончаная гаворка, каторае хопіць на ўсю дарогу. Па небе плылі воблакі. За дарогаю пачыналася калгаснае поле. Ішла сяўба. Людзі паказваліся то тут, то там, кожны заняты сваёю работаю. У гэтай дзелавітай стараннасці была вялікая любоў і дбайнасць. А добра дбаць, калі гэтая дбайнасць усім на ўцеху, і ганарыцца, што там ёсць хоць кавалачак тваё работы. І нават па тым, як звінелі там жаўранкі і пераклікаліся галасы, Шкаруба бачыў там радасць. Яму хацелася ўстаць і пайсці да іх, каб хоць нейкім крайком даткнуцца да гэтае радасці.

І гэтак, сам таго не заўважаючы, Шкаруба пачынаў жыць чужым жыццём. Свая гаспадарка яго не цягла. Ён глядзеў на калгаснае поле, і ў ім шавялілася і набракала спрадвечная патрэба дзейнае рупнасці і гаспадарскіх клапотаў. Вечарамі тайком ён праходзіў на гэтае поле і падоўгу прастойваў, любуючыся і цешачыся так, нібы гэтыя загоны засяваў сваімі рукамі. А калі варочаўся дахаты—зноў была пустата і звярыная адзінота. Хацелася некуды пайсці. Было такое адчуванне, што ён на хвілін колькі зайшоў да некага па дарозе, і яму карціць скарэй вярнуцца дахаты. Перад вачыма недаступна стаяла сяло. Мысленна ён бачыў сябе там, сярод мужчын. Яны сабраліся ў хату і талкуюць пра брыгады, пра трактар, пра працадні, перасыпаючы гэта жартамі або якімі здарэннямі, каторых да поўначы хопіць у Мірона.

Шкаруба скучаў без людзей і яму прагна хацелася ўліцца ў іхны гурт, стаць роўнапраўным і сваім семянінам. Яму хацелася вярнуцца ў сяло. Разы колькі ўжо ён памыкаўся пайсці і расказаць пра гэта Грыбалю, але не адважваўся—не павераць, або засмяюць. Але аднойчы такі не вытрываў. Дачакаўшыся вечара, вышаў нясмела з двара і пакрочыў па сцежцы. Калацілася сэрца, нібы ішоў на прысуд. І невядома чаму, вярнуўся, выбраў у дрывотні спадручнейшы кій, і тады ўжо пайшоў смела і цвёрда.

III

Да чаго прыгожая гэта вясновая раніца! У паветры яшчэ сыра. На лістах вішняка вісяць буйныя кроплі начных туманоў. На платах і на стрэхах ляжыць яшчэ вільгаць. За сялом густа і тучна зеляніцца поле. Загоны перасякаюцца то тонкімі, то шырокімі ізвілінамі дарог. На пагорку стаіць і яшчэ дрэмле вятрак, але здаецца ён ужо сіліцца ўзмахнуць паднятымі крыламі. Узыходзіць сонца. Яно нетаропка і баязліва паказваецца з-за гарызонта, і першыя праменні яго кладуцца шырока—густым і нібы цягучым золатам. Над стрэхамі хат вываюцца лёгкія празрыстыя дымкі. За імі на небе такая-ж самая лёгкая ружаватая балачынка. Здаецца, што ёй нудна быць невялічкай, адной на гэтай галубовай бясконцасці неба, але запрапасціўся недзе гэты чортаў свавольнік вецер, і яна не можа скрануцца. За сялом паказваюцца і рыкаюць каровы, падымаючы на дарозе за ноч пахаладалы і злежаны пыл. Неспакойна ў гурце снуецца бык. Сонца падымаецца над лесам. Яно слізгае па вершалінах дрэў і западае ў прагаліны. Лес пачынае дыміцца густымі пахамі. Бесклапотна цвыркаюць птушкі. Яны то, гойдаючыся, пырхаюць з дрэва на дрэва, то вылятаюць у поле, дзе, падняўшыся ў неба, сваім танюткім і нескончоным звонам заліваюцца жаўранкі... Чорт на цябе, якая слаўная ты, сёлавая, вечна маладая і вечна пявучая раніца!

Леўка ішоў і ўдыхаў гэтую неўгамонную веснавую радасць. Ён рабіў сваю ранішнюю праходку па полі. Хоць усюды сяўба была ім даўно ўжо праверана, але яму хацелася бачыць, як падымаецца рунь. Такія праходкі рабіў ён штодня. Для яго было невыказнаю ўцехаю бачыць, як зеленеюць і ўбіраюцца ў сілу загоны. Ён нагінаўся і выпростваў пакурчаныя каліўцы, гладзіў далоняю і гаварыў з імі, нібы няньчыў дзіця, і з поля заўсёды варочаўся ажыўлены і памаладзелы.

Праходзячы каля дзялянкі, на якой на днях засеялі пшаніцу, Леўка суняўся. На твары ў яго выразілася здзіўленне. Ён нават выняў з зубоў люльку і патрымаў яе колькі часу ў руках. На дзялянцы матляліся пастаўленыя пудалы. На поплаве за дарожкаю каркала цэлая чарада варон. На Шкарубавым двары цвыркацелі, грэбаючыся ў конскім гнаі, вераб'і. Пудалы на загонах стаяць, коса паўтыкаўшыся ў зямлю, і звісаюць сваімі пустымі рукавамі. Здаецца, яны зараз пачнуць матляць імі і прытанцоўваць, перакрыўляючы адзін аднаго, як блазны. У крайняга прыстроены над пахаю венік. На адным надзета зімовая шапка, з якое праз прарэхі павылазіла вата. А ў таго крайняга і касабокага толькі адзін рукаў звісае да самае зямлі. Леўка глядзіць і дзівіцца.

— От гэта дык мне ўжо не падабаецца,—гаворыць ён сам сабе.— Гэта ўжо, брат Леўка, нікуды не варта. Які ж ты ў чорта гаспадар, калі сам не прыдумаў пастаўляць гэтых пудалаў. Што-ж цябе за інспектар, калі і не дагадаўся, што птушкі зерне выклёўваюць. Але хто-ж бы гэта мог пастаўляць? Во малайчына!

Леўка падумаў, што Шкаруба, жывучы тут пад бокам, павінен быў бачыць. Ён застаў яго на двары. Шкаруба зачэсваў клінкі і заганяў у парасшалёстваныя зубы бараны. Леўкаў прыход ажно перапалохаў Шкарубу. Пачуўшы чужыя шагі, ён зірнуў з-пад рукі і пазнаў Леўкавы богы. Тады ён скарэй адвёў вочы, баючыся, каб не сустрэцца ў твар. У сярэдзіне нешта тарганулася і заныла. „Чаго-б яму спатрэбілася зайсці?“—падумаў Шкаруба. Ён пачуў, як яму стала горача ў шчокі, і пад сякераю крутнуўся і зламаўся клінок.

— Гаспадарыш, Ігнат? Добры дзень.

— Добры дзень... А от папраўляю. Бо яшчэ-ж думаю... грэчкі хачу кавалак засеяць. Дык от барана рассохлася.

У Шкарубы быў абабіты палец; болька на ім запяклася і закарэла, а твар зарос драмучаю шчацінiстаю барадою і, здавалася, таксама быў закарэлы і адзічэлы. Ён палез у кішэню і дастаў кавалачак замурзанае газеціны, выдзіраючы больш цэлы край на папіросу. Нічога не гаворачы, Леўка дастаў свайго тытуну.

— Сей-сей.—Тытун з Леўкавых пальцаў высыпаўся за паперку і цярусіўся на дол. Пад нагамі ляжалі свежыя, пахучыя трэскі.—Сей-сей, я так уважаю, што сёлета грэчка добрая парасце. Увесь ураджай сёлета будзе багаты... Чо-ж гэта вулей у цябе пад сцяною валяецца,—няхай-бы пчол развёў.

— Ат, дзе там,—махнуў рукою Шкаруба.

Абое намаўчалі. На бярэзіну шумна прыляцеў бусел. Ён паклаў на гняздо прынесеную ў дзюбе разгачынку і заклекатаў. Сонца трапятала і гушкалася ў ягоных прыўзнятых крылах.

— Ты тут часам, Ігнат, не бачыў, хто гэта на нашай пшаніцы пастаўляў пудалы?—запытаўся Леўка.

— Не,—Шкаруба глядзеў на свой закарэлы палец.—Я бачыў раніцаю, як яны ўжо стаялі, а хто іх стаўляў, то не ведаю.

Дым засланіў Шкарубаў твар, і Леўка не бачыў, як ягоныя вочы шукалі на чым-бы суняцца. Яны суняліся на пальцы, і тады Шкаруба выцер яго аб зашмальцованы край сарочкі, хоць на ім не было ніякае ні макраты, ні крыві.

— А я думаў, што ты тут прымячаў. Добра, што нехта дадумаўся, а то ў мяне і з галавы выпала, што тут гэтулькі птушак... Дык я думаў, што ты можа і бачыў.

— Не, не бачыў,— коратка паўтарыў Шкаруба і пачаў шукаць сякеры.

Леўка ішоў і ламаў у руках паднятую ў Шкарубы трэску. Над сялом радзелі дымкі. У полі і на дарогах паявіліся людзі. За вятрак пад гору паехала пару фурманак. Балачынка на небе расплылася і знікла. Кругом ужо было адно толькі сонца. Зямля пагрылася пад ім і прагла, а паветра напружвалася і пачынала трымцець. Наперадзе, падымаючы пыл, затрабашчалі калёсы і неўзабаве параўналіся з Леўкам. Выцягнуўшыся ў возе ляжаў і намармытваў песню крамнік.

— У Слуцак?—запытаўся Леўка.

— Тпру. У Слуцак.

— Па тавары?

— Але. Учора ўсіх не забраў.

Мужчыны колькі хвілін пагаварылі, і Леўка не прамінуў запытацца пра чучалы.

— Дзе? Ля хутара?—даведаўся крамнік.

— Але.

— Дык гэта-ж Шкаруба.

— Як?—не паверыў Леўка.

— Шкаруба, я-ж сам бачыў. Учора зусім ужо прыцемкам я ехаў з горада, дык ён іх стаўляў. То я думаў, што яго папрасілі, ды толькі здзівіўся, чаму гэта ён поўначы, як вядзьмак, поркаецца.

Леўка павярнуў у сяло і пайшоў байчэйшым шагам. Ён раптам нібы нешта ўспомніў і заспяшаўся, хочучы зараз-жа гэта зрабіць. Яму здавалася, што ён толькі што нешта вельмі важнае разгадаў, над чым увесь час дакучліва думаў. Перад ім стаяў з закарэлым

пальцам Шкаруба. Толькі цяпер ён прыпомніў, што той увесь час хаваў свой твар. Пасля ён паяўляўся перад ім у праўленні, калі, махнуўшы рукою і згорбіўшыся, выбягаў у той вечар з хаты.

Леўка ўсміхаўся і самаздаволена чухаў патыліцу. Быў знойдзены чалавек. Была разгадана пад адзічэлым аблiччам балючая, ад усіх затоеная новая чалавечая вера. Леўка знайшоў Грыбаля і расказаў яму пра Шкарубу.

Быў знойдзены чалавек. Неўзабаве яны абодва сядзелі ў праўленні і пісалі позву, дзе прасілі Шкарубу з'явіцца ў калгас па кроўнай і вельмі важнай для яго справе.

Леўка набіваў сваю новую люльку, і тытун рассыпаўся з таропкіх ягоных пальцаў і цярусіўся на падлогу.

Менск.
1933-1934

---

БАРЫС МІКУЛІЧ

# ДУЖАСЦЬ

## ЧАСТКА ЧАЦВЕРТАЯ*)

Ён яшчэ не страціў здольнасці арыентавацца ў звілістых жыццёвых дарогах, у яго быў ясны скептычны розум, розум, які кіраваў лоўка і спрытна ягонымі ўчынкамі. Нельга сказаць, што ўсё тое, што ён рабіў, было прадыктавана на першых парах няўхільнай сціплай логікай. У ім загаварыў трывалы інстынкт самазахавання, магутны інстынкт звера, які адчуў, як сцягваецца ўсё тужэй і тужэй пятля.

Куля прасвістала над вухам. Ён інстынктыўна ўзняў руку, нібы гэтым хацеў адвесці немінучую сваю пагібель. І тады зноў прагрымеў стрэл, і куля трапіла якраз у руку. З перакрыўленым ад болю тварам ён падаўся ў бок, прыціснуў параненую руку да грудзей і, увабраўшы галаву ў плечы, пабег праз поле. Ён бег доўга. Ён чуў, як нехта бяжыць па яго слядах, што гэты „нехта“ зусім блізка—не выратавацца, не схавацца ад пагоні. Ён са злосцю кінуў свой кольт—патронаў не было, і ён толькі замінаў. Мозаг працаваў няспынна і да адчаю ясна. Пагібель паўставала ва ўсёй непрыхаванай сваёй вычварнасці. Ён апошнія сілы сабраў і прыспешыў бег.

Ззаду засталося разбітае аўто, шофер і Юткевіч. Гэта можа затрымаць пагоню на колькі мінут, а гэтыя мінуты—хто ведае!—могуць выратаваць яго. А жыць хочацца, да вар'яцтва хочацца жыць!

Ён прыслухаўся. Ён нават прыцішыў бег. І вецер данёс да яго гул ворагавых крокаў. Можа гэта яму і здалося, але бегчы далей—усёадно не было сілы. Ён у адчаі кінуўся на зямлю, распластаўшы рукі. Сіламоць сцішыў дыханне і застыў на зямлі. Усёадно. Пагібель.

Сонца зайшло. Мяккае неўтрапеннае змярканне ахутвала неабдымныя палявыя прасторы. Лёгкія, як пух, плылі па небу афарбаваныя ў ружовы колер хмурынкі. Яны былі жывымі стварэннямі. Маладая трава шапацела над яго галавой. Яна нібы спачувала яму, ці была ў нейкай патаемнай змове супроць яго. З параненай рукі сачылася кроў. Першы начны матылёк узвіўся над ім. Усё жыло наўкола, усё сцвярджала жыццё. Ён—знясілены—заплюшчыў вочы.

— Саша! Саша!—крычаў над ім Юткевіч трапяткім, устурбаваным і разам з тым радасным шэптам.—Яны засталіся ля машыны! Мы выратаваны, Саша!

Ён раскрыў вочы. Злая грымаса перакрывіла ягоны твар. Ён сеў, абхапіўшы рукамі калены. З прастрэленае рукі сачылася кроў. Ён з нейкай абыякавасцю зірнуў на Юткевіча.

— Гэта ты?

---

*) Працяг. Пачатак гл. „Полымя рэволюцыі“ №№ 11, 12 за 1933 г. і №№ 2, 3 за 1934 год.

— Я выбіўся з сіл, даганяючы. Мне здалося, што ты адрокся мяне. Я не ведаю, што рабіць! Мне страшна, Саша! Ты падумай, смерць! Столькі разоў яна працягвала сваю руку да майго горла. Я не ведаю, што рабіць!

Юткевіч траха што не плакаў. Ён стаяў перад ім на каленях, змучаны, разгублены. Адчай і боль былі на ягоным твары. І ён зразумеў тады, што адно ягонае слова—і гэты бездапаможны інертны чалавек будзе яго сабакам, верным услужлівым сабакам.

— Перавяжы,—сказаў ён і працягнуў да Юткевіча параненую руку.

І покуль Юткевіч, парваўшы сваю кашулю на бінт, перавязваў руку, у яго ўзнік выразны і акрэслены план. Ён разумеў, што аднаму яму было-б лягчэй зноў увайсці ў жыццё, але ў яго ўсё-ж была нейкая прыхільнасць да чалавека, роўнага яму, які страціў сілу, страціў мужнасць. Ён велікадушна працягнуў яму руку падтрымання, каб пры першым-жа выпадку гэтую руку адвесці.

І вось пайшлі дні, адзначаныя самымі нечаканымі справамі, думкамі і сустрэчамі. Успамінаючы іх, ён ніколі не мог аднавіць у сваёй памяці паступовы развой гэтых шэрых і разам з тым каляровых дзён. Натоўпы мяшочнікаў, напоўненыя цягнікі напоўгалоднымі галадранцамі, шырокія сялянскія бароды і ліслівыя фізіяноміі дзялкоў гарадскіх ускраін, чорная біржа і напоўзмрок прытонаў, смурод і водырны пах французскіх духоў, пляск морскіх хваляў, белыя кіцелі і салдаты вялікай Антанты і—

Одесса мама, Одесса град,
Одесса лучше, чем Петроград!—

і дзве разгубленыя постаці на беразе—Станіслава і Райх, і слёзы на твары Паўла Юткевіча, і ветлівыя прабачэнні французскага капітана, і яго рогат, рогат, які паўставаў, здавалася, ва ўсіх каморках ягонага цела,—усё гэта перамяшалася ў памяці ў густую вязкую калаверць. Мора, залітае сонцам, і сіняя дымка гарызонта, і ветразь самотнай рыбацкай фелюгі. Гэты ветразь быў сімвалам свабоды, сімвалам змагання са стыхіямі, стыхіямі ўнутры сябе, стыхіямі расхваляванага бурлівага мора пачуццяў, турбот і парокаў.

Ні разу за ўсе гэтыя гады ён не ўспамінаў пра тое, як кінуў ён Юткевіча ў бруднай заштатнай гасцініцы, як зноў сустрэліся з ім у мітусні одэскай узбярэжнай, як плакаў Юткевічаў бацька—і цяжка было тады зразумець, чаго шкада яму: ці страчанае кар'еры артыста і дыпламата, ці самотнай здэтанаванай сынавай фігуркі на беразе.

Потым успаміны вылучалі на першы план больш познія сустрэчы. Копія апошняга Раманава, генерал без арміі, але з ранейшым апломбам, падагрычны, з накіпам сліны на губах, ён размахваў рукамі і крычаў:

— Нет-с, нам, сударь мой, нужна вся Русь, и Великая, и Малая, и Белая!

А лысы з глобусападобнай галавой, апрануты ў чорны сурдут—ні то метр-д'отэля, ні то дыпламата ў адстаўцы, тонкім фальцэтам сыпаў у адказ:

— Те-те-те! Белую Русь вы мне оставьте, мне, батенька!

Ён адразу тады зразумеў, што патрэбна ў гэтай мітусяніні цвёрдая рука, якая адным узмахам пакажа кожнаму з гэтых палкаводцаў, дзяржаўных дзеячоў, нацыянальных герояў сваё месца.

Папоўніць недахопы ведаў у дакладных навуках яму старанна дапамаглі; лекцыі, якія ён слухаў у горным інстытуце яшчэ да рэвалюцыі, раптам спатрэбіліся, і ён—адзін з першых—з дыпломам салід-

нага нямецкага універсітэта, пахаваўшы на пэўны час у сабе сваё сапраўднае „я“, маючы прыхільнікаў у Расіі, а ў кішэні—сведчанне пра тое, што ён ёсць Берднікаў—прыехаў у Совецкі саюз.

Ён не прэтэндаваў на кіруючую ролю ў той арганізацыі, якая была створана пры яго бліжэйшым удзеле. Знайшоўся больш спрытны, больш хітры чалавек. Апрача таго, ён зразумеў, што дыпламатычныя спрэчкі і чаканне на „лепшыя часы“ прыходу гэтых „лепшых часоў“ не прыспешаць без актыўнай дзейнай работы. І ён—горны інжынер Берднікаў—паехаў у Саюз.

Тут было шмат работы. Трэба было згуртаваць аднадумцаў, сабраць трэскі разбітага карабля, каб з гэтых трэсак зрабіць хоць які, хоць мелкаводны карабельчык. Карабля, праўда, ніяк не выходзіла, але рэю для ветразі за гэты час усё-ж неяк удалося скляпаць. Гэта каштавала багата грошай у рознай валюце, але, калі не за ідэі, дык за грошы чалавекі слухаліся яго.

І тут, дзе за тры гады вырас металаапрацоўчы камбінат, новая адзнака магутнасці вялікай краіны, знайшліся гэтыя чалавекі таксама. Але іх было мала. Берднікаў з адчаем прыходзіў да выніку, што вялікая і пераважная частка вышэйшай тэхнічнай інтэлігенцыі ішла з большэвікамі. Гэта было катастрафічна. Гэта было, як адступленне. Але Берднікаў не адступіў, а, заціснуўшы трывалей у душы сваёй згрызотную нянавісць, паспрабаваў быў выкарыстаць больш тонкія метады змагання. Аднаго тэрора было зусім і зусім мала. Гэта нагадвала эсэраўшчыну, шмат разоў пацярпеўшую поўны і бессэнсоўны правал. Тонка задуманы план выкарыстання новых метадаў змагання быў выкананы ягонымі прыслужнікамі не досыць удала, і тэрор прышлося ўжыць зноў.

Асабіста для яго гэта падабалася больш. З садыстычным задавальненнем ён меў магчымасць назіраць канкрэтную справу сваіх рук. Ён пэўны час лічыў тэрор асноўным метадам змагання.

Весткі, што траплялі ў яго рукі, не былі аптымістычнымі. Калегі па рабоце на электрастанцыях Саюза засыпаліся. Дазорцы дыктатуры дабіраліся да асновы асноў—да цэнтра ў сталіцы. І, нарэшце, аперацыйныя атрады на Украіне і Беларусі катастрафічна праваліліся.

Ён нерваваў. Ён напружыў усе свае сілы, каб хаця не выявіць чым гэтай нервовасці. Яму іншы час нават цяжка было выклікаць на твары ўсмешку, калі смяяцца трэба было. Увесь арганізм яго зрабіўся сейсмографам.

І тут яго чакаў удар.

Чалавек пахіснуўся і адчуў, што калі паваліцца на гэты раз—не ўстаць яму.

Новы метад праваліўся.

„Знайдзі пачатак, і ты зразумееш шмат што“. Гэты афарызм Пруткова не выклікаў нават і цені ўсмешкі. Чалавек гатоў быў рваць валасы.

---

Кацярына Неерзон з цяжкасцямі, але з поспехам ачышчала сваю псіхіку ад усяго таго, што было прадыктавана выхаваннем маткі, што было прадыктавана ўсімі аксесуарамі бытавання іх сям'і ў маленечкім асабняку на ўскраіне Крушняярска. Карэнная ломка псіхікі пачалася, праўда, даўно,—з першага курса ВНУ, але працэс пераробкі яе, працэс рэвізавання сваіх—такіх, здавалася, устойлівых дагэтуль—дактрын светаразумення ішоў няспынна, прагрэсуючы ўсе наступныя гады. Першы ўдар па гэтых, узрошчаных яшчэ ў першыя гады юнацтва, дактрынах нанесла само жыццё адразу-ж пасля таго, як яна вызвалі-

лася з-пад апекі бацькоў. У яркім студэнцкім асяроддзі першых гадоў рэволюцыі адзін за адным праваліліся яе аўтарытэты, яе ідэалы... І ўзаемадачыненні бацькоў і дзяцей, і разуменне шчырасці і дабраты, і пасіўнасць жанчыны ў соцыяльным жыцці грамадства. Выходзячы з выхаваных маткай, дарэволюцыйнай гімназіяй, усім асяроддзем прынцыпаў, яна і прафесію хацела выбраць нейтральную, пазакласавую, ці, прынамсі, агульна-чалавечую. Выбар лагічна выпаў на медыцыну. Але і гэты прынцып рассыпаўся прахам, і вось паступова з наіўнай правінцыяльнай гімназісткі пачаў фармавацца грамадскі тып—не проста ўрач, а ўрач совецкі.

Увайшоўшы ў новае асяроддзе, яна праз доўгі ланцуг супярэчнасцей прыйшла да ўсведамлення таго, што яе работа нямысліма па-за ўсім складаным жыццём краіны, што сябе яна не можа ўявіць у ўтульнай, па-сутнасці мяшчанскай абстаноўцы Крушняярскага асабнячка. У маладой, у яе было багата дапытлівасці і энергіі, і гэтыя якасці яна рашуча аддала пабудове новага грамадства, удзельнікам якога яна сябе адчувала моцна. Уважаючы на гэта, яна пачала спецыялізавацца ў галіне прафесіянальных захворванняў, правяла багата вопытаў па аздараўленню паасобных галін у металургічнай прамысловасці, ёй далі годнасць вучонага спецыяліста, і яна занялася арганізацыяй інстытутаў, аздараўленнем шкодных для чалавечага арганізма відаў работы, па арганізацыі здаровых умоў работы для цяжкіх прафесій.

У першыя-ж гады, калі тут, у пустынным шэрым стэпу, энергія чалавека пачала ўзводзіць рыштаванні магутнай металургічнай базы для ўзрастаючай шпаркімі тэмпамі індустрыі краіны, яна ўзяла на сябе арганізацыю аховы здароўя на камбінаце, арганізавала інстытут, клінікі, больніцы. Яна па-праўдзе рабіла вялікую справу, не толькі несучы непасрэдную практычную работу, але была свайго рода прыкладам для дзесяткаў людзей яе прафесіі, якія пры адной толькі думцы, што ім прыдзецца працаваць на голым месцы, рабілі ўсё магчымае, каб не пакідаць наседжаных месц, каб не траціць набытае папулярнасці і пацыентаў. Ведучы работу па ўстаноўцы вентыляцыі на коксахіме, Кацярына Неерзон, аднак, не пакідала сваёй вузкай, як яна сама казала, спецыяльнасці: акуратна, дзень-у-дзень яна працавала вызначаныя гадзіны ў клініцы за хірурга. Яна прыходзіла туды а палове першай, апранала белы халат і абыходзіла сваіх хворых, якія зусім сур'ёзна сцвярджалі, што яна прыносіць з сабой бадзёрасць і здароўе. Гіпербалы тут было мала: яна і сапраўды была ўцелясненнем энергіі, маладосці і здароўя, і шмат каму здавалася, што прыветны адкрыты яе твар ззяе сонцам.

Аднойчы, калі яна адбывала дзяжурства, у габінет прыбегла санітарка з заклапочаным выразам на твары. Неерзон узнялася з канапы, на якую толькі-толькі апусцілася, каб адпачыць, і, не распытваючы, пайшла за ёю. Прывезлі хворага. Яго прывезла ў аўто некалькі чалавек,—яна пазнала сярод іх начальніка эксплаатацыйнай канторы Далматава, павіталася з ім, загадала, каб хворага перанеслі ў перавязачную. Прычыняючы за сабой дзверы, яна раптам убачыла жанчыну, якая, пытліва пазіраючы на яе,важылася таксама прайсці ў перавязачную. Хвіліну жанчыны моўчкі пазіралі адна на адну, і кожная з іх намагалася ўспомніць дакладна варункі былых сустрэч.

— Пазнала,—з ціхай усмешкай сказала Неерзон.—Вось сустрэліся як. Туды вам нельга ісці. Хто гэта?

— Гэта—Краўчанка, гэта... вы мусіць чулі...—заспяшалася Тася, і Неерзон убачыла ў яе вачах спалох і адчай.

— Пачакайце, потым.

Хворы быў у цяжкім забыцці. Аглядаючы яго, Неерзон зразумела, што адбылося нешта страшнае, што гэты ладны і прыгожы чалавек зрабіўся ахвярай злачынцаў. Толькі выключная сіла і, можа быць, тое, што злачынцы спяшаліся, выратавала гэтага чалавека. Неўзабаве сышліся яе калегі. Робячы сваю справу, яны перакідаліся слоўцамі, і з гэтай адрывістай гутаркі яна зразумела ўсё. Як канчалі перавязку, у пакой увайшоў малады ўрач, які ездзіў аглядаць труп татарына Шалімы, і ціхім голасам спытаўся пра Краўчанку. І ў гэтую самую хвіліну ў пакоі раздаўся цяжкі і прыглушаны стогн хворага.

— А!—радасна сказаў урач, не чакаючы адказу на запытанне.— Цяпер ён наш!

У белым габінеце яны сядзелі і доўга гутарылі аб здарэнні, аб мінулым, аб сумеснай вучобе ў Крушняярскай гімназіі, аб апошняй іхняй сустрэчы тады, калі гэты самы чалавек, гэты-ж самы Барыс Краўчанка быў хворы на тыфус.

— Разумееш,—нервова спяшалася Тася.—Я трэці раз бачу яго на краю пагібелі, трэці раз ён вось-вось здасцца... І можа цяпер?..—яна не скончыла, яна з выразным спалохам глядзела на яе.

— Не!—сказала Неерзон.—Цяпер ён наш! Разумееш?

„Цяпер ён наш!"—радасцю перапоўнілася жанчына, гэтую буйную радасць яна панесла з белага дома, на шасэ, на вуліцы, на прасторы, і паўстаў перад ёю магутны камбінат з незлічоным мноствам гудаў і гулаў, і ў іх, ёй здавалася—яна чуе тры радасныя словы: цяпер ён наш!

Маладосць, здавалася, звярнулася да яе, бесклапотная, шчаслівая маладосць, яна несла яе па зямлі лёгка, яна ўсмешкай перапоўніла твар, яна ўліла пругкасць у цела—цяпер ён наш! наш! наш!

Па дарозе яна сустрэла Аверына. Заклапочанасць была на яго твары. Ён наважыўся запытацца пра Краўчанку, але яна папярэдзіла яго радасным бляскам усмешкі:

— Ён наш, Яша! Ён будзе жыць!

У хаце яе чакала Валька Берзынь. Яна чакала яе доўга. Яна агледзела ўсё і ўбачыла на стале велізарны пук кветак у белым бліскучым гладышы. Вальцы зрабілася ніякавата. Яна ўзяла кветкі і паставіла на акно, каб не так кідаліся ў вочы. І Тася гэта заўважыла адразу, яна са смехам пераставіла кветкі на стол, жартаўліва пагразіла пальцам Берзынь, і раптам, схапіўшыся за рукі, жанчыны пачалі кружыцца па пакоі.

— Ён наш, Валя! Ён будзе жыць!

Потым яны пайшлі ў яго пакой. У вочы кінулася прымятая пасцель, кінутая на крэсла кашуля, недакурак на сподачку, у маўклівай згодзе яны ўзяліся наводзіць парадак. Белай паперай заслалі стол, упарадкавалі на этажэрцы кніжкі, яркую—радасную фіранку павесілі на акно.

— Заўсёды занятая,—нібы вінавата сказала Тася.—А ён ніколі не скажа, так заўсёды.

А тымчасам шукалі сляды злачынцаў. Дапытвалі ўсіх рабочых з барака, дзе жыў Шаліма, але ўсе, як адзін, паказалі, што ў гэты вечар нікога ў бараку не было. І, нарэшце, гэта магло здарыцца зусім не ў бараку. І тут узнікла думка, што напад на Шаліму і Краўчанку трэба паставіць у простую залежнасць са знікненнем Навасільцава, што на тэрыторыі камбіната дзейнічае контррэвалюцыйная арганізацыя, але натрапіць на яе след покуль што нельга.

Велізарны натоўп людзей праводзіў на могілкі прах Ашхуна Шалімы. Тут быў Далматаў, стары бальшэвік, прайшоўшы цяжкую школу падполля. Ен, ідучы за труной, мусіць, думаў пра бессэнсоўнасць Ашхунавай смерці. Тугія ўпартыя жалвакі на ягоным твары дрогка краталіся ў тахт хады. Тут быў Крымковіч, радасны, бадзёры чалевек, спрактыкаваны сталінец, якому мудрасць партыі надавала энергіі, дзейнасці і рашучасці. Ордэн Леніна быў на яго грудзях, найвышэйшая адзнака вялікай краіны. Тут быў майстар Варатыленка, адзін з першых будаўнікоў камбіната, „старажыл", творца тэмпаў высокай напружанасці, знайшоўшы самаго сябе праз партыю, у яе шэрагах. Тут быў старэйшы гарнавы першай домны, таксама ўзнагароджаны ордэнам Леніна, настаўнік дзесяткаў гарнавых, якім ён аддаваў свой вялікі саракагадовы вопыт. Ладнымі калонамі ішлі комсамольцы за труной свайго таварыша. У першай шарэнзе ішоў Яша Аверын, брыгадзір комсамольскай брыгады пракатнага цэха Свішч, стырнавы „Марыона 2" Валенціна Берзынь. З непакрытай галавой ішоў амерыканец Томас, які адмовіўся вяртацца на сваю „вольную" бацькаўшчыну, знайшоўшы другую, сапраўдную, бацькаўшчыну распрыгоненай працы і творчай мыслі. Гэта была маналітная армія старых і юных, спалучэнне пачынальнікаў і завяршальнікаў адной вялікай ідэі, ідэі Леніна.

Тут быў і мазырчанін, які нёс у сабе вялікія супярэчлівыя скрухі. Ён, нібы хворы, ёжыўся ад холаду, у яго дрогка калацілася ніжняя губа, па твары блукаў цень разгубленасці і адчаю. Ён правым локцем адчуваў свайго „корыша", і здавалася мазырчаніну, што гарыць правая яго рука, нібы ўся чыста пакрылася струп'ем.

Труну пранеслі паўз больніцу. Стогн жалобнага маршу ўварваўся ў белую палату, і Краўчанка наважыўся ўзняцца з ложка. Ён агледзеўся. У палаце нікога не было. Ён, трымаючыся за ложак, праз сілу паставіў ногі на падлогу. Ён, хістаючыся, прысунуўся да акна і адно ўбачыў у ім: ветрам падхопленае палотнішча штандара, як полымя, ірвецца над натоўпам. Ён адвёў вочы і ўбачыў, як чырвоныя водбліскі леглі на белыя сцены палаты. Ён сціснуў зубы і прахрыпеў:

— Сволачы!

Ён зноў прабраўся да ложка, апусціўся на яго і закрыў вочы. На твары выступіў пот. Па целу азвалася млявая слабасць. У бяздум'е ціха і непрыкметна ўвайшоў сон. Чалавек спаў, і перад ягонымі вачыма праплывалі чырвоныя водбліскі.

---

У тыя дні камбінат перажываў напружаныя часы. Аднаго разу перад чарговай выплаўкай высветлілася, што ў домны № 1 абгарэў конус, і трэба было тэрмінова яго рамантаваць. Тэхнічна-інжынерная нарада паставіла перад дырэкцыяй пытанне рубам: трэба спыніць домну.

Яшчэ зусім нядаўна камбінат выйшаў з прарыва, домны толькі-толькі пачалі даваць запраектаваную норму чыгуна, і рамонт першай домны азначаў новы катастрафічны па сваіх памерах прастой.

— Месяц рамонту, месяцы два на задуўку, разам тры месяцы,— было заключэнне спецыялістаў.

Гэтае заключэнне каментарыяў не патрабавала, шмат-хто з ім згаджаўся, а некаторыя,—іх была меншасць,—спрабавалі знайсці іншы выхад з катастрофы. Крымковіч выклікаў да сябе старых рабочых домны № 1 і сказаў, што спадзяецца на іх вопыт. Пасівелыя, паважныя, скупыя на словы, яны абмяркоўвалі Крымковічавы словы старанна і доўга. Тут успаміналіся ўсе выпадкі, калі прыходзілася гасіць домны, з памяці выплывалі ўсе здарэнні, падобныя гэтаму, у якіх ім прыхо-

дзілася браць удзел. І ў гэтым саймаванні старых нарадзіўся дзёрскі і малады план: адрамантаваць домну, не гасячы яе. План быў выключны па сваёй смеласці, і некаторыя нават спалохаліся яго, але Крымковіч, лоўка кіруючы нарадай, ухапіўся за гэтую ідэю. Выклікалі Неерзон, і яна, абмеркаваўшы план, сказала, што здзейсніць яго можна толькі пры строгім і поўным захаванні ўсіх патрабаванняў яе інстытута. Яна не адмовілася ад рызыкі—Крымковіч угледзеў у гэтым канчатковае вырашэнне пытання.

Моўчкі ў трывожных разважаннях выходзілі старыя з Крымковічавага габінета.

— Вы распрацуеце, таварыш Неерзон, гэтую штуку да заўтра,— сказаў Крымковіч.

— Добра.

Яна наважылася ісці ўслед за рабочымі, але Крымковіч спыніў яе.

— А вы верыце ў гэтую справу?—спытаўся ён.

Неерзон уважліва зірнула на яго, нібы не разумела, навошта гэткае запытанне. Потым сказала:

— Веру. Толькі трэба будзе, як мага ўважлівей абставіць усё гэта.

— Шмат рызыкі, думаеце?

— Не, там, дзе навука, там рызыкі менш, чым гэта здаецца. Каб толькі людзі слухаліся, і ўсё.

— Людзі...—паўтарыў Крымковіч, утаропіўшы вочы ў паперы, якія густа ўслалі стол.—Вы ў больніцы хіба працуеце?—раптам пераключыўся ён на іншае.

— Калі-б вы былі медыкам, вы-б не задавалі гэткага запытання.

— Спартсменства...—усміхнуўся сакратар.—Ну, а нашага Краўчанку вы вытанцуеце?

— Вытанцоўваем,—таксама ўсміхнулася Неерзон.—І зусім без спартсменства. Чаму вы, уласна, пытаецеся пра гэта?

На сакратаровым твары збегліся зморшчыны, і радасны звычайна твар неяк спахмурнеў.

— Яго-б вось у гэткую справу, першы палез-бы ў домну. З яго арганізатар дужа добры. Малады ён, моцны. Ды гэта да слова. Я чуў, між іншага, што да яго таварышоў не пускаюць, рэжым там у вас.

— Як у кожнай больніцы.

— Ну, а мы сёння кампаніяй да вас завалім. Пусціце?

— Не ведаю.

— Не ведаеце?—пакачаў галавой і ўсміхнуўся зноў.—А мы завалім. Адзін чалавек выбыў з шэрагаў, а адсутнасць яго адчуваецца, ведаеце...

На лятучых сходах абмяркоўваўся план змены конуса. Ніхто не супярэчыў супроць таго, што прастой домны прынясе вялікую страту, але ахвотнікаў рабіць рамонт доўга не знаходзілася, сходы былі кароткія, доўга гаварыць не было часу, і трэба было знайсці чалавека, які першы стане ў шэраг штурмаўшчыкоў. Гэтае слова „штурмаўшчык“ раптам увайшло ў абыход, яно зажыло поўнакроўным жыццём—яно гучэла то з гонарам, то з іроніяй, то з жартам. Усе заводскія газеты выйшлі з зазыўнымі шапкамі—хто герой? І яны знайшліся, гэтыя скромныя героі. Першым выступіў Варатыленка. Ён калісьці працаваў за муляра і цяпер згаджаўся ісці рабіць у пройме домны пляцоўку. Побач з ім стаў комсамолец Свішч. Неўзабаве атрад штурмаўшчыкоў налічваў патрэбную колькасць людзей.

Домна ішла на поўнай нагрузцы.

Неерзон з іншымі работнікамі інстытута аглядалі супроцьгазавыя камбінезоны і маскі. Штурмаўшчыкі апрануліся ў іх, і на падвесных

пляцоўках іх апусцілі ў пройму домны. Яны, ахутаныя газам і гарачынёй, павіслі над расплаўленай шыхтой.

Першую змену праводзілі на домну, як на вайну.

Увечары таго дня, калі пачаўся штурм, таварышы наведалі Краўчанку. Адчуванне ў яго было добрае, ён дужэў, і Крымковіч нават пажартаваў, што гэткаму мацаку сорам адлежвацца.

— Я-б устаў,—апраўдваўся Краўчанка,—ды тут цётачка гэткая строгая, што хоць гвалту крычы.

— Неерзон?

— Але, яна. Нават і газеты цішком прыносяць мне.

— А яна лоўка працуе. Прызнацца, я крытычна глядзеў на іхні інстытут, а цяпер, ведаеш, іншае думкі.

І тут Крымковіч расказаў пра аварыю.

Краўчанка горача распытваў, скардзіўся, што прымушаны ляжаць у гэткі час. І раптам у разгары гутаркі ён спахмурнеў:

— Ты глядзі, каб і тут не нашкодзілі.

— А ты ўспомніў такі. Мы гэта, брат, маем на ўвазе. Ды толькі, мне здаецца, вораг і блізка баіцца падыйсці.

Не злавілі, не кажы.

— Не злавілі, дык зловім, Краўчанка.

... на змену мулярам пайшоў атрад мантажнікаў. Ішоў пяты дзень штурму. Людзі прастойвалі па васемнаццаць—дваццаць гадзін. Некаторых сілком прыходзілася здымаць з работы. Здавалася, яны не ведаюць стомы. Домна ішла на поўнай нагрузцы. Папярэджваючы прарыў, домна № 2 павялічыла выплаўку, перакрыўшы на дваццаць процантаў запраектаваную магутнасць. Прыспешаным тэмпамі ішоў мантаж трэцяй домны. Усе пружыны камбіната былі нацягнуты да максімума. Здавалася, не было ўчастка, дзе-б не павысілася ў гэтыя дні якасць работы.

Краўчанка дужэў. Ён усё часцей і часцей пакідаў ложак, хадзіў па палаце, думаў. Бадай яму аднаму было вядома, якім цяжарам ляжыць на ім хвароба. Ён садзіўся на край ложка і абмацваў на руках мускулы. Яны былі тугія, і ён, адчуваючы гэта, радаваўся, як малы. Сілы яму патрэбны былі!

За гэтай праверкай сваіх сіл заспела яго Неерзон. Яна толькі што аддзяжурыла на рамонце домны, бачыла, што работа там ідзе з выключным напружаннем, яна адчула сябе з рэальнай выразнасцю ўдзельніцай гэтай работы і прынесла радаснае гэткае адчуванне сюды, у палату.

— Ну, як?

Краўчанка аж пачырванеў ад нечаканасці. Але ўтойваць сваіх думак ён не хацеў, і, сціснуўшы руку ў кулак, ён паказаў ёй, як на руцэ наліліся пругкасцю біцэпсы.

— А вы кажаце, я хворы. Гэта вам здаецца, доктар.

Яна засмяялася.

— Яшчэ тыдзень, і ўсё.

— Тыдзень?!—на Краўчанкавым твары запанаў непрыхаваны жах.

— Ну, дні чатыры...

— Збаўце, доктар!—папрасіў ён.

— Не,—з робленай строгасцю сказала яна.—Адно, што я магу вам дазволіць, гэта працаваць тут. Я магу пазваніць на гару.

— Ну, трэба выбіраць найменшае...

— Правільна. Паляжалі-б у мяне з год, дык былі-б самым акуратным хворым.

... Ішоў сёмы дзень штурму. Людзі не здавалі. Наадварот: шэрагі штурмаўшчыкоў павялічваліся. І аднойчы ўвечары, калі адбывалася

змена, да дзяжурнага інжынера падышоў мазырчанін. Ён нясмела, пераступаючы з нагі на нагу, папрасіў:

— Дазвольце і мне папрацаваць.

— Хіба вы без работы?

Ён пакачаў галавой.

— Не, я працую. Але мне, мне... хочацца тут...

Інжынер усміхнуўся.

— Мы канчаем, таварыш. Ды, нарэшце, вы можаце выявіць сябе на любой рабоце. Так я вас зразумеў?

Мазырчанін моўчкі адышоўся ад інжынера. Цяжкія думы, як ярмо, ціснулі яго. Ён, гэты чалавек, узвалок на свае плечы груз мінулага, груз ганебны, груз, ад якога зусім было вызваліўся. Ён адчуваў сябе змоўшчыкам. Ён паспрабаваў быў піць. Але ў п'янай трызні паяўляліся жахлівыя ўявы, вярзлася нечуваная па жорсткасці кара, нейныя рукі, здавалася, ціснулі за горла—ні дыхнуць. Непакой павялічваўся яшчэ і ад таго, што „Корыш" быў па-ранейшаму вясёлы, па-ранейшаму гуляў у вольны час, падміргваў яму, калі іхныя позіркі сустракаліся. Хіба ён не думаў пра смерць Ашхуна Шалімы?—вось што турбавала праз меру мазырчаніна, і былі гэткія моманты, калі, здавалася, ён не вытрымае, захаванае ў ім выллецца напаверх адным выдыхам. Сілы не было змагацца з самім сабой.

А ў канторы, на вокны якой падаў цень ад выступа скалы, у амерыканскай качалцы сядзеў Берднікаў. Ён з-пад ілба назіраў за Васільевым, які нервова бегаў перад ім ад сцяны да сцяны.

— Не, калега!—сыпаў Васільеў,—я тут не прычым. Я настойліва патрабаваў спынення домны, але мае таварышы! Ну, вы разумееце, гэта... гэта, як ваш Бурдзюк! Аптымісты!

У Брэднікавых вачах узнік шорсткі агеньчык, ён мяняў колер—то зялёны, то чырвоны, то рыжы.

— Кабыле пад хвост вашых аптымістаў!—груба сказаў Берднікаў.— А ваш аўтарытэт дзе? Вы-ж салідны, папулярны інжынер!

Васільеў раптоўна застыў на месцы. Ён не мог пагадзіцца, што Берднікаў кажа сур'ёзна. Ён пытліва зірнуў на яго, але агеньчыкі ў вачах Берднікава гойсалі, як ачмурэлыя.

— Вы... вы!...—адно мог сказаць Васільеў, зрываючыся з месца.

І тады, калі Берднікаў застаўся адзін, хвалямі нахлынулі развагі: „Выдаць ён не можа, смеласці не хопіць. Атрэп'е! Трусы! Армія!"

Здавалася, ён шчоўкае раменнай нагайкай па наваксаваных халявах.

---

Канчаўся дзевяты дзень штурму. Конус быў зменены, і цяпер дароблівалі асобныя дэталі. Варатыленка стаяў на рабоце семнаццатую гадзіну. Хісткай паходкай з домны сышоў Свішч. Ён выцер пот і нахіліўся над чанам з вадой. Перадольвала смага. У вадзе ён убачыў свой аброслы за гэтыя дні твар. „Як стары!—падумаў ён.—Скора можна будзе памаладзецы!". Ён прайшоў у дзяжурную будку і зняў камбінезон.

— Канчаеце?—спытаўся вартавы чырвонаармеец.

— Кончылі,—сказаў Свішч,—самае малае засталося.

Ён выйшаў з кантрольнай будкі і ўбачыў вялікі натоўп людзей. Тут стаяла густая гамана. Людзі, спрачаючыся, як адзін, глядзелі ўгару, на край домны, які быў аблеплены мантажнікамі.

— Гэта работа,—казаў паджылы дзядзька, ківаючы на домну.— Сілы ў чалавека колькі, га?

— У чалавека сілы багата,—падтрымліваў яго другі.

Свішча апаноўвала весялосць. Ён абышоў людзей і спехам пабег да цэнтральнага шасэ. Ён бег з гары, насвістваючы нейкую вясёлую мелодыю. Ля кіраўніцтва камбіната ён сустрэў грудок дзяўчат, якія ішлі з пракатнага. Сярод іх былі і з яго брыгады. Ён гучным жартам павітаў іх.

— Калі да нас?—спыталася адна з іх.

— Праз два тыдні! Адпачынак нам даюць, каза ты мая.

— Праз два тыдні?!

У голасе дзяўчыны прагучэла здзіўленне, а сяброўкі перакінуліся смяшлівымі позіркамі. Свішч гэта заўважыў і недаўменна запытаўся:

— Чаго гэта вы?

— Наша-ж брыгада пад'ёмнікі змантыраваць абяцала? А вы не змантыравалі?

— Не змантыравалі? Гэта-ж мы за дзевяць дзён...—хацеў было пахваліцца, але стрымаўся і машынальна паскроб за каўняром.— Работнічкі!—дадаў ён з іроніяй.

Яны пашлі разам. Ён распытваў пра навіны на пракатным, а яны цікавіліся домнай. Жартаў было багата ў гэтай гаворцы, але ў Свішчавай галаве афармлялася думка, што адпачынак прыдзецца адкласці. Яны ішлі па цэнтральнаму шасэ. Насустрач ім насоўваўся цёплы ліпеньскі вечар, агні камбіната, пасёлкаў, соцгорада. Недзе ў бараку гралі на балалайцы. Зводдаль даносіліся меладычныя гукі музычнай радыяперадачы. Іншых гукаў яны не чулі, бо прывыклі да іх. А гэтая музыка зычыла ім адпачынак і весялосць. Прыслухоўваючыся, яны нават спынілі гутарку і прыцішылі крок.

У гэты-ж самы час на іншай дарозе прыцішылі крокі Аверын і Берзынь. Яны падышлі да вулічнага перакрыжавання, дзе быў устаноўлены велізарны рэпрадуктар, і, стаўшы адзін каля аднаго, колькі мінут слухалі музыку. Яна вырывалася з рэпрадуктара хваляй бурлівай і радаснай і, можа гэта ім здавалася абодвым, музычная хваля грымела ў іх самых магутным форто. Усё спявала, усё грымела ў іх і наўкола іх. Мусіць, гэта век іх не такі...

Потым Аверын зірнуў на Берзынь і, нібы адчуўшы асаблівую цеплыню гэтага позірка, яна ўзняла свае вочы.

— Яша?.. мы спознімся...

— Не спознімся, Валька. Там будзе вялікая бяседа, як кажуць... Паспеем.

Яны, узяўшыся за рукі, ціхімі крокамі пайшлі да інтэрната адказных работнікаў. Ідучы, ён пазіраў на яе і—дзіўная рэч!—вынаходзіў у яе твары ўсё новыя і новыя рысы таго, што падабалася яму ў ёй.

А ў Краўчанкавым пакоі ўжо было поўна. Краўчанка толькі гадзіны дзве, як выбраўся з больніцы, і вось сышліся сюды таварышы, каб правесці вечар у дружнай гаворцы. Тут быў Далматаў, які ўвесь час успамінаў розныя гісторыі з свайго жыцця. Тут быў Крымковіч, які і ў адпачынак не мог абыйсціся без справы і цяпер вёў гутарку з Тасяй аб арганізацыі малочнай гаспадаркі. Ён і ў гэтай справе даваў трапныя заўвагі. У суседнім пакоі Бурдзюк вазіў на спіне Слаўку, які бязлітасна сцёбаў свайго двуногага каня махнатым рушніком. Тут было яшчэ колькі чалавек мужчын і жанчын, таварышоў па рабоце, Краўчанкавых і Тасіных. У сталовай Тасіна прыяцелька рыхтавала стол да вячэры. Ёй дапамагаў чарнявы хлапец у майцы, культработнік рудніка, які спрабаваў давесці, што вячэра смачнай будзе толькі тады, калі на стале будуць кветкі. Уся бяда была ў тым, што вялікі гладыш з кветкамі займаў багата месца, і гаспадыня катэгарычна пераставіла яго на акно.

У самы разгар вячэры, калі Далматаў наважыўся расказаць чарговую гісторыю з свайго жыцця, прыйшлі Аверын і Берзынь. Іх сустрэлі радасна, нехта пажартаваў, што нешта доўга яны ішлі, вясёлы настрой павялічваўся. Аверын сеў побач з Крымковічам і сказаў да яго:

— Каля дзвярэй мы сустрэлі нейкага чалавека. Як падышлі, ён за рог схаваўся. Мы пастаялі, але ён не паказваўся.

— Мусіць, выпіў,—кінула праз стол Валька.

Але Краўчанка спахмурнеў і пытліва зірнуў на Крымковіча. Іхныя позіркі сустрэліся. Крымковіч усміхнуўся і кіўнуў галавой, нібы гэтым самым хацеў сказаць: не турбуйся. Але Краўчанкавы вочы засталіся найстойлівымі, і Крымковіч, каб супакоіць яго, устаў з-за стала.

— Пайду пагляджу. Можа да мяне па справе.

— Калі па справе, дык пазванілі-б.

Але Крымковіч выйшаў.

У напоўзмроку перад ім стаяў чалавек. Ён хацеў уцячы, але Крымковіч заспеў яго, мусіць, нечакана, і бегчы ад яго было-б бяссэнсіцай. Крымковіч уважліва ўзіраўся ў твар чалавека. Ён заўважыў, як дрогка калоціцца ніжняя губа.

— Вы да мяне таварыш?

Чалавек адвёў вочы ў бок, унурыў галаву ў плечы і ціха, разгублена сказаў:

— Мне ўсёадно да каго... я хацеў да таварыша Краўчанкі... Я больш не магу ўтойваць!

Чалавек раптам схапіў Крымковіча за руку, і голас яго перапоўніўся адчаем і страхам:

— Я толькі выбіўся, толькі на ногі стаў. Я-ж чалавекам хацеў быць!

— Вы што-небудзь зрабілі благое?—насцярожана запытаўся Крымковіч.

Чалавек маўчаў. Крымковіч бачыў, што чалавек змагаецца сам з сабой, нешта цяжкое ціcне яго, і хочацца чалавеку гэты цяжар скінуць, сіл не стае яму.

— Зойдзем у хату,—проста сказаў Крымковіч.

— Не!—рашуча адрэзаў чалавек.—Я гадзіны дзве хаджу наўкола, як воўк. Як воўк, таварыш Крымковіч.

„Берзынь мае рацыю",—мільгнула думка.—Ён, мусіць, пад градусам". Але, нібы чытаючы Крымковічавы думкі, чалавек сказаў:

— Піць прабаваў, не дапамагае, думаў, узважваў. І як застануся адзін—Шаліма перад вачыма стаіць. Не магу.

Крымковіч устрапянуўся. Цяпер ён узяў чалавека за руку і цвёрда загадаў:

— Кажы!

Чалавек ірвануўся. Чалавек нібы адумаўся. Ён нават згадзіўся-б адступіць. Але шляхі да адступлення былі адрэзаны, і чалавека перапоўніў неадольны звярыны страх.

— Пусціце,—ён ірвануў руку ўдругое.

— Можаш ісці,—спакойна сказаў Крымковіч.—Я цябе заўтра знайду, я цябе ведаю.

Ён выпусціў чалавечую руку. Ён нават зрабіў крок да дзвярэй, але чалавек ірвануўся за ім і траха-што не закрычаў:

— Пачакайце. Пачакайце, таварыш Крымковіч.

Гэта быў мазырчанін.

А ў сталовай кпілі над Бурдзюком. Ён расчырванеўся, пот выступіў на яго твары, ён апошнія аргументы пускаў у ход, каб адвесці атаку. Распачаў яе Далматаў. Ён з неўтрапенным тварам заявіў, што Аверын

адбіў Вальку ад Бурдзюка. Усе зарагаталі. Бурдзюк жарту не зразумеў і пачаў быў апраўдвацца, але тут Краўчанка прыгадаў, як Бурдзюк аднаго разу знаёміў яго з Валькай і самае катастрафічнае было ў тым, што Берзынь таксама наступала на Бурдзюка.

— Не ўвілівай, Бурдзюк! Не схаваешся!

Сабраўшы ўвесь запас энергіі, Бурдзюк рашуча ўзняўся з месца і ў наступіўшай цішыні выпаліў адным выдыхам:

— А яны тады пераганялі амерыканскі экскаватар!

Шчырае гэтае прызнанне выклікала зноў навалу рогата. Аверын праз стол працягнуў да Бурдзюка руку, але той вылецеў з-за стала і пабег у суседні пакой. Там клаўся спаць Слаўка і Бурдзюк сеў каля яго ложка і сказаў:

— Яны нягодныя, Слаўка, яны смяюцца з мяне.

Слаўка працягнуў яму руку і падтрымаў па-таварыску:

— Пасядзі са мной, дзядзя Бурдзюк. Ты мне пра грымучы газ раскажы. Помніш, казаў тады?

У гэтую самую хвіліну ўвайшоў Крымковіч. Ён адразу-ж узяўся за тэлефонную трубку і ў надышоўшай цішыні, якой адказалі ўсе прысутныя на рашучы яго выгляд, чотка і выразна прагучэлі словы:

— Мы натрапілі на след. Алло! Дайце кватэру начальніка ДПУ. Пазваніце яшчэ раз. Што? Гэта Крымковіч.

А Бурдзюк расказваў Слаўку выдатнае апавяданне пра тое, як даўней здараліся аварыі ў шахтах, пра грозную сілу прыроды, якую скарыў, якую падначаліў сабе чалавек.

---

Што прымусіла яго гаварыць праўду? Што кіравала ім, калі ён прышоў да Краўчанкавай кватэры? Страх? Страх перад тым, што рана ці позна справа раскрыецца, заблытаныя вузлы разблытаюцца, і нітка прывядзе так ці інакш да яго? Ён не быў удзельнікам нападу на Шаліму і Краўчанку, ён быў толькі сведкай падрыхтоўкі яго. Ён нават цмяна здагадваўся, што ў забойстве татарына „корыш“ бярэ ўдзел. Ён не ведаў тым больш, што, выдаючы „корыша“, ён дапамагае раскрыць вялікую і тонка замаскаваную варагаву арганізацыю. Ён калісці быў ворагам таксама. У цяжкой, але праўдзівай школе пераробкі свайго „я“, у школе, якая была карай, ён здолеў шмат што асэнсаваць, здолеў шмат-што ўбачыць па-новаму. І ён у той вечар, калі сустрэўся з Крымковічам, раптам да болю выразна ўбачыў сябе на краю прорвы, убачыў, што былое, ад якога ён ішоў, зноў ахутвае яго даўкімі тканінамі злачынства, хлусні, выраку. Чалавеку было душна, чалавек задыхаўся.

І вось за спакойнай, нават нахабнай у сваёй неўтрапенасці, постаццю былога крымінальніка, мазырчанінавага „корыша“, паўстаў перакрыўлены ад прадсмяротных курчаў лік ворага.

Разблытаная нітка прывяла да Берднікава. На гэтай нітцы адзін за адным былі нанізаны ўсе гераічныя ўчынкі гэтага чалавека і выпадкі шкодніцтва, і падпал дэпо, і забойства Шалімы. І вораг, які на працягу цэлых гадоў тонка і лоўка ўмеў таіцца, стварэнне, якое, здавалася, было саткана ўсё з нянавісці і помсты, гэтае стварэнне страціла нават чалавечае аблічча: зломлены ён быў мізэрны і разгублены.

І, гледзячы на яго, Краўчанка ўспомніў допыт Станіслава Юткевіча. Дык вось,—думаў ён,—што чакала яго? Былы яго таварыш, сябра шчыры, мог па сутнасці перарасці ў Берднікава. Вось гэтыя Берднікавы, кіруючы Юткевічам, маглі зрабіць яго сляпой зброяй

сваіх рук. І думаў Краўчанка, цвяроза правяраючы сябе: няма сляпых людзей, няма і не можа быць людзей нейтральных. І, быць можа, тады, калі ён непахісна далучыў свой голас да прысуду, цмяным уявам мірсцілася Юткевічава будучае.

І тут надышоў выключны выпадак, які сцёр чыста апошнія Краўчанкавы сумненні. Аднойчы ўвечары, калі ён сядзеў перад расчыненым акном, атулены глыбокімі думамі, прышла Кацярына Неерзон. Яна хвалявалася. Спакойная і стрыманая ў звычайныя часы, яна нават не намагалася захаваць свайго хвалявання. Краўчанка ўзняўся насустрач ёй.

— Што з вамі?

Яна глядзела на яго адкрытымі і шчырымі вачыма. Яна нібы правярала Краўчанку. Ён гэткім-жа адкрытым позіркам адказаў ёй.

— Я прышла сказаць, таварыш Краўчанка, што інжынер Берднікаў, гэта... гэта палкоўнік Маслоўскі!

Краўчанка ступіў крок да яе.

— Вы разумееце, мяне выклікалі на экспертызу, ён прыкідаўся нервова-хворым, і я пазнала яго.

— А дзе вы сустракалі яго раней?—з хваляваннем спытаўся Краўчанка.

Неерзон апусцілася ў крэсла і ціха адказала:

— Гэта было даўно.·. ў Крушняярску, у кватэры майго бацькі, доктара Неерзона.

— Доктара Неерзона...—ва унісон паўтарыў ён.

— Горад занялі атрады генерала Бялова. Аднойчы ўвечары да нас прышлі два вайсковыя. Адзін з іх быў Маслоўскі. Ён зусім змяніўся, але я яго пазнала, па маленькай дробязі. Другі...

— Другі?

— Я не помню яго прозвішча... Толькі помню.. Я, ведаеце, была наіўнай дзяўчынкай, толькі-толькі кончыла гімназію. Мне гэты другі вайсковец дужа падабаўся...

У гэтую хвіліну дзверы адкрыліся, і з вінаватым выразам на твары ў іх паказаўся Слаўка. Залацістае валоссе, тонкія рысы твару хлапчука, глыбокія, не па-дзіцячаму хітраватыя вочы,—усё гэта Неерзон убачыла нібы ўпершыню. Яна здэтанаваны позірк перавяла на Краўчанку і ўсхвалявана сказала:

— Гэта не ваш сын!

Краўчанка ўстрапянуўся, рашуча падышоў да Слаўкі.

— Ты чаго тут?

Хлопчык ледзь зачырванеўся і апусціў вочы. Даўгія расніцы дрогка краталіся. Ён перапрашальна сказаў:

— Я хацеў... я хацеў паслухаць цёцю, яна цікавае расказвае.

— Ідзі, цёця табе потым раскажа... Ідзі...

Слаўка павольна павярнуўся і вышаў. Краўчанка паглядзеў на Неерзон і ўлыбнуўся шырокай адкрытай усмешкай.

— Другі быў Станіслаў Юткевіч, бацька вось гэтага хлапчука. Дык мы з вамі землякі?

— Выходзіць так.

Краўчанка засмяяўся, ён узяў Неерзон за руку і па-таварыску заначыў:

— Не дзівіцеся. У жыцці бываюць дзікія, але разам з тым самыя звычайныя рэчы. Гэта быў мой таварыш, а потым ён стаў таварышом Маслоўскага. А маім ворагам. І радасна мне, мілы доктар, што мы такі іх скруцілі, нарэшце, скруцілі!

І ён зрабіў рукой шырокі энергічны гэст.

... А жыццё на камбінаце ішло поўным навэратам. Домны давалі чарговую выплаўку. Рвалі аманалам руду. Сігнальныя гудкі ўрэзваліся ў сімфонію дысанансам. Феерверкі электразваркі пышна рассыпаліся ў паветры. Над батарэямі коксахіма плыла разнакаляровая дымовая заслона. То гаслі, то з новай сілай запальваліся агні на гары. Недзе з бараку вырвалася песня. Спяваў тэнар вясёлую, маладую, раздольную песню. Аддаленыя гукі вагзала гучэлі актавай ніжэй.

Краўчанка выпрастаў цела. Ён на поўныя грудзі ўвабраў паветра. Ён слухаў вячэрнюю музыку зямлі і, як тонкі знаўца яе, умеў адрозніваць адну мелодыю ад другой, адну тэму ад тысячы іншых. Ён усміхнуўся. Ён напружыў мускулы рук, адчуваючы тугую сілу іх. Ён нібы наважваўся нанесці невідочнаму свайму праціўніку моцны, сакрушальны ўдар.

Менск—Магнітагорск—Менск
1932, 1933, 1934.

*Канец першай кнігі*

М. КЛІМКОВІЧ

# ПАСТАНОВЫ XVII З'ЕЗДА ВКП(б) І ЗАДАЧЫ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

XVII з'езд ВКП(б) уваходзіць у гісторыю рэволюцыйнага руху ўсяго свету як з'езд велізарнейшых перамог нашай партыі і, пад яе кіраўніцтвам, ударнай брыгады сусветнага пролетарыята—працоўных мас Совецкага саюза. З'езд даказаў правільнасць генеральнай лініі партыі, даказаў на канкрэтных прыкладах нашага будаўнітцва магчымасць пабудовы соцыялізма ў аднэй краіне. З'езд паказаў правільнасць і велізарнейшую празорлівасць ленінскага ЦК партыі і правадыра партыі—геніяльнейшага вучня і паплечніка Леніна—Іосіфа Вісарыонавіча. З'езд паказаў велізарнейшую згуртаванасць партыі навокал тав. Сталіна, велізарнейшую згуртаванасць рабочага класа навокал сваёй партыі—партыі Леніна-Сталіна. З'езд вуснамі тав. Сталіна даў „вычарпальны тэарэтычны аналіз магутным пражэктарам марксісцка-ленінскай мыслі, асвяціў яшчэ раз перспектывы нашага развіцця" („Правда"). Значэнне XVII з'езда, яго пастановы—так шырока прапрацаваны партыйнымі арганізацыямі, так сур'ёзна і ўважліва чыталіся кожным сумленным работнікам, што, мне здавалася, наўрад ці патрэбна яшчэ раз пераказваць асноўныя палажэнні дакладаў, якія зроблены на з'ездзе, тлумачыць палітычнае значэнне з'езда, тым больш, што ўсякі пераказ гэтых дакладаў быў-бы, само сабой зразумела, на шмат ніжэй саміх дакладаў. Мне здавалася патрэбным паставіць некалькі больш вузкіх, практычных „професіяналізаваных" задач, якія выцякаюць з пастановы XVII з'езда, з дакладаў правадыроў нашай партыі, не змяншаючы гэтым самым агромністага палітычнага значэння з'езда. Ставячы гэтыя асобныя задачы, я не прэтэндаваў на іх паўнату і ўсеаб'емлімасць, уважаючы, што „Полымя рэволюцыі" ўслед за гэтым артыкулам арганізуе рад другіх, якія будуць трактаваць асобныя праблемы літаратуры ў святле пастаноў XVII з'езда.

Кароткая, баявая пастанова XVII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. Сталіна абавязала ўсе арганізацыі пакласці ў аснову сваёй работы гэты даклад, як чоткі, сціслы марксісцкі аналіз не толькі сучаснага стану ўсяго свету, але бліжэйшых перспектыў: з аднаго боку—заняпад капіталізма, з другога боку рост соцыялістычнай гаспадаркі і культуры нашай краіны. Гэты даклад, гэты аналіз павінен быць літаральна вывучан кожным работнікам. Ён павінен быць глыбока прадуман у кожнай сваёй дэталі, бо толькі будуючы сваю работу ў адпаведнасці з геніяльнымі ўказаннямі правадыра партыі—мы будзем стаяць на ўзроўні задач нашай эпохі, будзем актыўна дапамагаць (а не перашкаджаць) нашай партыі ў яе вялікай рабоце па будаўніцтву соцыялізма. Тым больш глыбокае вывучэнне даклада тав. Сталіна і другіх дакладаў, зацверджаных з'ездам, патрэбна для совецкага пісь-

менніка. Літаратура павінна правільна і поўна адлюстроўваць нашу сучаснасць, раскрываць класавыя сілы грамадства і іх барацьбу на любым участку, які выводзіцца аўтарам у якасці „тыповых абставін“, у якіх дзейнічаюць яго героі. Літаратура павінна даваць правільны аналіз класавай барацьбы і перспектыву развязання класавых канфліктаў. І само сабою зразумела, што без дасканалага і поўнага вывучэння класічна-марксісцкага аналіза, які дадзен тав. Сталіным у яго дакладзе—цяжка, вельмі цяжка для пісьменніка правільна адлюстраваць нашу сучаснасць. І не толькі адлюстраваць у сваёй творчасці (што для пісьменніка з'яўляецца яго вытворчым заданнем), але і самому—як грамадзяніну Совецкага саюза, як актыўнаму грамадскаму работніку—разабрацца ў складаным пераплёце класавай барацьбы, каб вызначыць сваё месца, сваю ролю, свой удзел у вялікай будаўнічай рабоце, без чаго абсалютна немагчыма творчая карысная работа пісьменніка. Пра тое, як неабходна глыбокае вывучэнне даклада тав. Сталіна для практычнай работы пісьменніка—сведчыць хаця-б такі факт: рад пісьменнікаў, правяраючы свае творы, якія былі выдадзены ці падрыхтаваны да друку, у святле сталінскага аналіза міжнароднага становішча, у святле пастаўленых т. Сталіным задач—вымушаны ўносіць папраўкі ў першапачатковы тэкст твораў, паглыбляць іх, выпраўляць дадзеныя перспектывы развіцця падзей. У нашых умовах т. Ільынскі і т. Рамановіч у сваіх п'есах павінны былі ўнесці значныя карэктывы, якія выправілі захапленне лявацкай ідэі ўраўнілаўкі (адзін у сельскагаспадарчай, другі ў бытавой комуне). Пастаноўка пытання т. Сталіным аб тым, што ў „сучаснай комуне асабістыя, бытавыя інтарэсы членаў не столькі ўлічваліся і звязваліся з інтарэсамі грамадскімі, колькі заглушаліся апошнімі ў інтарэсах дробнабуржуазнай ураўнілаўкі“—раскрыла гэтым пісьменнікам, якія бралі пытанне комуны галоўным чынам у бытавым разрэзе, што правільнай перспектывай будзе не прапаганда далейшага „заглушэння“ асабістых, бытавых інтарэсаў (што здавалася ім—пісьменнікам — самым рэволюцыйным выхадам), а наадварот—такая ўвязка асабістых інтарэсаў з грамадскімі, якая-б давала магчымасць максімальнага задавальнення бытавых асабістых інтарэсаў, як сродка, які замацоўвае прыхільнасць і адданасць працоўных новаму калгаснаму ладу, пабудаванаму на арцельнай сістэме гаспадаркі. Наогул трэба сказаць, што ўраўнілаўка, як прызнак соцыялізма ці комунізма—мыслілася і падавалася шмат кім з пісьменнікаў (у прыватнасці т. Маур у кніжцы „Аповесць будучых дзён“ падае, хоць і не выразна, некалькі прыкладаў такой ураўнілаўкі: адзенне дзяцей, вузкая спецыялізаваная праца, дом-комуна, як абавязковая форма агульнажыцця). І словы тав. Сталіна, у якіх ён даў марксісцкае разуменне роўнасці і падвергнуў знішчальнай крытыцы рэакцыйнасць ураўнілаўкі—шмат каму адчынілі вочы, выкрыўшы ўплыў буржуазнай ідэалогіі на творчасць пісьменнікаў, якія вольна ці нявольна станавіліся на шлях усхвалення ўраўнілаўкі. Недарма тав. Сталін так проста паказаў на буржуазных пісьменнікаў, як адных з прапагандыстаў „казарменнага соцыялізма“, які павінен быў адбіваць ахвоту ад сапраўднага соцыялізма. Адценні такой прапаганды прасочваліся часамі ў нашу літаратуру, яшчэ больш моцна яны сядзелі ў свядомасці.

На прыкладзе адных гэтых выпадкаў мы бачым, як глыбока патрэбна, як неабходна работнікам літаратуры вывучаць кожную дэталь гэтай гістарычнай геніяльнай прамовы тав. Сталіна, каб правільна падымаць, абагульваць факты і з'явы нашай сапраўднасці. Безумоўна, рад таварышоў, якія закраналі ў свой час пытанні класавай барацьбы за мяжой (у прыватнасці т. Кульбак у кнізе „Чайльд Гарольд з Дзісны“),

самі заўважылі вялікую розніцу паміж іх аналізам класавых сіл, класавай барацьбы і аналізам, які дае тав. Сталін,—і гэта розніца не ў карысць гэтых пісьменнікаў. Уласна кажучы, гэтая розніца з'яўляецца ў вядомай ступені крытэрыем таго, наколькі пісьменнік яшчэ не дайшоў да таго, што мы называем соцыялістычным рэалізмам. І тут, мне здаецца, словы тав. Сталіна пра тое, што крызіс „разбіў... традыцыйна ўстанавіўшыяся адносіны як паміж асобнымі краінамі, так і паміж соцыяльнымі групамі ў асобных краінах"—павінны папярэдзіць нашых пісьменнікаў ад трафарэтнага паказа класавай барацьбы за граніцай, ад трафарэтнага паказа работы, метадаў работы наймітаў капіталізма сярод рабочых мас і сялянства.

Яшчэ большую ўвагу павінен прыкаваць раздзел даклада т. Сталіна, у якім ён аргументуе небяспеку вайны, небяспеку напада на Совецкі саюз. З якім веданнем, з якім глыбокім аналізам гістарычных падзей тав. Сталін, называючы ўсе канкрэтныя адзнакі прыбліжэння новай імперыялістычнай вайны, прыводзіць чытача да вывада—чым кончыцца гэта вайна. Які з пісьменнікаў, распрацоўваючы гістарычныя тэмы, так чотка правёў падобную паралель паміж мінулым і сучасным? Больш таго, хто з пісьменнікаў так ярка паказаў сучасную буржуазію, якая „ведет себя как обнаглевший и потерявший голову хищник, делает глупость за глупостью, обостряя положение, ускоряя свою гибель" і пры ўсім тым імкнецца (не заўсёды без поспехаў) знайсці выхад, прыцягнуць на свой бок хоць меншасць працоўных (нават агалцелай дэмагогіяй), па звярынаму-фізічна знішчыць тысячы, дзесяткі і сотні тысяч лепшых перадавых рабочых і сялян, каб захаваць сваё панаванне. Прасачыце за прасочваннем у літаратуру ідэй „крайняга нацыяналізма ў эканамічнай палітыцы", нацыяналізма ў закончанай стадыі тыпа гітлераўшчыны і японскай ваеншчыны, прасачыце за фантастычнымі раманамі, прысвечанымі „надыходзячай", „будучай" вайне і параўнайце, што наша літаратура супроцьстаўляе ім у якасці вобразаў, інтэрнацыянальнай барацьбы рабочых супроць вайны, у якасці вобразаў, якія даказываюць немінучасць перамогі Совецкай краіны—і вы ўбачыце, як мала мы робім для таго, каб нейтралізаваць атруту мілітарыстычнай, імперыялістычнай прапаганды нават праз мастацкую літаратуру. А трэба ведаць, што моладзь—нават частка працоўнай моладзі, якая не бачыла ўсіх жахаў імперыялістычнай вайны (прайшло 20 год), якая не магла на ўласным вопыце аналізаваць класавую сутнасць вайны (а такая моладзь будзе складаць абсалютную большасць капіталістычных армій)—моладзь, якая да таго-ж падвяргалася спецыяльнай сістэматычнай патрыятычнай, шавіністычнай апрацоўцы,—такая моладзь можа быць захоплена рамантыкай вайны, можа стаць страшнай сілай у руках спрактыкованых дзялкоў буржуазіі, маючых вопыт вайны 1914 г. у сваіх руках. На разаблачэнне такой сітуацыі праз літаратуру, на паказ сапраўднага класавага твару арганізатараў вайны, на расказ аб тым, як рабочыя, былыя салдаты паўставалі супроць вайны 1914-18 г.—павінна быць накіравана мастацкая літаратура. Вось чаму, а не толькі таму, што спаўняецца 20 год, тэматыка імперыялістычнай вайны, як і вайны будучага, набывае зараз асабліва актуальнае значэнне. Часцяком у пытаннях вайны пісьменнік станавіўся на пацыфісцкія пазіцыі. Т. Сталін, паказваючы, як пацыфізм „за непатрэбнасцю" проста і груба адкідваецца салдафонскаю рукою з фашысцскай свастыкай на рукаве, паказвае гэтым самым прыроду пацыфізма—шырму выгадную толькі для буржуазіі.

Ведаць аб немінучасці вайны, рыхтавацца да яе, каб перамагчы і разбіць любую спробу напада на Совецкі саюз, вера ў перамогу

(прычым, вера, абаснованая на паказе магутнасці, на паказе арганізацыі абароны)—вось асноўныя ідэі, якія напрашваюцца з аналіза сучаснага нашага стану. На жаль, нашы пісьменнікі неяк пацыфісцкі адносяцца да абароннай тэматыкі, праяўляюць недаацэнку небяспекі вайны—гэта велізарнейшая і прыкрая памылка, якую трэба выправіць не ў дэкларацыях, а ў творчасці. Для нас, для Беларусі, гэта памылка паглыбляецца яшчэ другой: увага нейк мімаволі накіроўваецца на Далёкі Ўсход, і часта схільны рабіць вывад, што на Захадзе небяспека стала меншай, асабліва пасля няўдалых спроб фашысцкага прапагандыста Розенберга скалаціць блок буйнейшых дзяржаў супроць СССР, і пасля таго, як нямецкі фашызм увайшоў у канфлікт амаль з усімі сваімі суседзямі. Аб шкоднасці такой памылкі вельмі яскрава падкрэслена ў дакладзе т. Сталіна, у якім ён гаворыць аб зігзагах і нечаканасцях палітыкі нават у Польшчы, якія не выключаны, і асабліва калі ён аналізуе паводзіны нямецкага фашызма. Наша ўвага да Далёкага Ўсходу—зусім законная і станоўчая, але яна павінна не паслабляць, а ўзмацняць нашу ўвагу да зусім блізкага нам—па адлегласці—Захаду.

Калі гаварыць пра тэматыку, якая міжвольна напрашваецца пры прапрацоўцы даклада тав. Сталіна, дык нельга абыйсці пытанняў росту нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, які так чотка і сцісла паказан у дакладзе. Дарэчы, гэтая сцісласць, нават скупасць, пры якой усё-ж вырастае перад вачыма вобраз грандыёзнейшых перамог, грандыёзнейшага будаўніцтва і людзей - творцаў гэтага гіганцкага ўздыму—гэтая сцісласць павінна паслужыць (нават па фармальных прызнаках пабудовы вобраза—аб палітычнай вышыні я буду казаць ніжэй) для многіх пісьменнікаў прыкладам. Бо звычайна нават лепшыя нашы творы пакутаюць такім мноствам дэталяў, такім абыгрываннем іх, што за дэталямі літаральна хаваецца само будаўніцтва, яно топіцца ў дробных дэталях і не выклікае патрэбнага адчування магутнасці і грандыёзнасці, якія ёсць на самай справе. Возьмем для прыклада кіносцэнарый Зарэцкага—яго апошнюю рэч. Зарэцкі абыгрывае рад дэталяў: куранё ў якасці рэчы, якая прадстаўляе апошні прытулак індывідуалістычнай псіхалогіі сялянкі, парасё, якое ўцякае з хлява калгасніцы, адчуваючы, што яно дысгарманіруе з абагульненнем жывёлы ў калгасе. Каб не было няправільнага разумення, я агаварваюся, што я лічу „пачатак шчасця“ станоўчым крокам для Зарэцкага і добрым сцэнарыем, калі ў ім выправіць два зрывы: анархісцкі пратэст галоўнага героя супроць заможнасці і некаторыя моманты агітацыі за ператварэнне калгаса ў комуну ўжо на даным этапе—гэтыя ідэі не закладзены ў аснове твору, а закрануты між іншым. За гэтымі і другімі дэталямі знікла сапраўдная барацьба за большэвіцкі калгас, за заможнасць калгаснікаў. Такое-ж награмаджэнне дэталяў у т. Мікуліча ў „Дужасці“, хоць-бы ў апошняй частцы, а гэта зніжае мастацкую якасць гэтай цікавай і каштоўнай кніжкі. Трэба сказаць, што ўсім нам патрэбна вучыцца стылю і мове даклада тав. Сталіна—і тады, ой, як многа слоўнага смецця будзе вымецена з нашых літаратурных твораў!

Калі чытаеш твор нашага пісьменніка аб прамысловасці—як часта спатыкаеш надуманую фабулу, надуманыя супярэчнасці, надуманае прымітыўнае „вынаходніцтва“. Вазьміце поруч з гэтым той раздзел даклада тав. Сталіна, дзе ён—кіраўнік і арганізатар агромністых перамог—дае большэвіцкі прыклад большэвіцкай самакрытыкі, паказваючы на недахопы ў кіраўніцтве прамысловасці, у рабоце прамысловасці і выводзіць задачы партыі ў гэтай галіне. Удумайцеся ў пералік гэтых задач—і вы ўбачыце, як перад вамі ўстануць сотні актуальнейшых

тэм нашай сучаснасці, у тым ліку такія тэмы, як транспарт, тавараварот, стварэнне новых прамысловых баз, ператварэнне пустынных лясных абласцей у квітнеючыя прамысловыя цэнтры. Якая прастора для творчай фантазіі пісьменніка, якая прастора для безадкладнага вывучэння і адлюстравання ў літаратуры нябачных у свеце праблем!

Тое самае і ў галіне сельскай гаспадаркі. Ад паказа барацьбы за арганізацыю калгаса тав. Сталін літаральна вядзе творчую думку пісьменніка да паказа барацьбы за падвышэнне ўраджайнасці—у складаных умовах класавай барацьбы, раскрывае ярчайшыя канфлікты ў барацьбе за жывёлагадоўлю, дае незабываемыя малюнкі перамогі калгаснага ладу. Чытаючы аб соўгасах, становіцца проста сорамна за літаратуру, якая замаўчала гэты важнейшы ўчастак нашай гаспадаркі і культуры, а прабаўляецца (у гэтым разрэзе) успамінамі пра „дваранскія гнёзды"—хоць-бы для таго, каб мімаходам палаяць дваран. Лаяць іх, разумеецца, трэба, трэба паказваць старыя парадкі дваранскіх гнёзд — без іх цяжка паказаць дарэволюцыйную вёску, апутаную дваранскімі землямі і феадальнымі адносінамі, напоўненую да краёў нянавісцю да пана—абшарніка. Але трэба паказваць і нашы соўгасы, нашы фабрыкі хлеба і мяса, нашы перадавыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы паслядоўна-соцыялістычнага тыпу, паказаць іх уплыў на навакольнае насельніцтва. Бурны рост соўгасаў на былых кулацкіх землях, на землях, адваяваных з-пад няўдобіцы, рост каапгасаў—адлюстроўвае вялікія зрухі ў грамадстве нашай краіны і, у сваю чаргу, ўплывае, стварае нешта новае і ў горадзе, і ў вёсцы, што варта адлюстраваць у літаратуры.

Апошняе, што хочацца сказаць пра новую тэматыку—гэта пра адлюстраванне нашай партыі ў мастацкіх творах. Гіганцкая фігура правадыра партыі на трыбуне XVII з'езда. Сталёвая фігура арганізатара сусветнай комуністычнай рэволюцыі. Разумнейшы чалавек нашай эпохі, да голасу якога прыслухоўваецца не толькі краіна Советаў, але ўвесь свет. З'езд партыі пераможцаў, арганізуючая і стваракючая роля якой чырвонай ніткай праходзіць праз кожны, нават невялічкі, адрэзак будаўніцтва. А поруч з гэтым велізарнейшая скромнасць, большэвіцкая самакрытыка, пастаноўка такіх задач, перад якімі пройдзены шлях здаецца лёгкім і малым, дзейсны заклік да далейшай, яшчэ больш упартай работы, чоткая перабудова радоў наступаючых на новыя вышыні. Ці не выклікаюць толькі гэтыя вобразы гарачага жадання пранізаць кожны твор паказам гэтай велічайшай арганізуючай сілы, гэтай велічайшай у свеце партыі і яе кіраўнікоў! А колькі канкрэтных вобразаў рассыпаў тав. Сталін у сваім дакладзе, пачынаючы ад арганізатараў нашых перамог над трацкістамі і правымі ўхілістамі, да стаўшых класічнымі тыпамі „балбатуна" і „вяльможы". Мне здаецца, што задача паказа сапраўднага комуніста велізарнейшым чынам аблегчана дакладам тав. Сталіна. Пісьменнікам патрэбна ўдумлівае вывучэнне даклада тав. Сталіна, авалодаць гэтым каштоўнейшым матэрыялам для стварэння станоўчага тыпу, над чым б'ецца не адзін пісьменнік.

Было-б зусім недастаткова абмежаваць значэнне даклада т. Сталіна для літаратуры толькі пералікам тых новых тэм, новых вобразаў, якія ўсплываюць пры чытанні даклада. Даклад т. Сталіна важны для літаратуры, як і для ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва, для ўсіх яго ўчасткаў тым, што ён чотка і ясна ставіць перспектывы і задачы нашага руху наперад у справе пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства, што ён—на падставе навуковага марксісцкага аналіза, сцвярджае не толькі гэты рух, але і яго перамогу, што ён мабілізуе ўсе жывыя сілы краіны Советаў і працоўных усяго свету на барацьбу

за комунізм. А гэта значыць, што даклад тав. Сталіна дае змест рабоце любой совецкай грамадскай арганізацыі, адтачвае яе зброю ў барацьбе з класавым ворагам, накіроўвае гэту зброю на знішчэнне класаў, на ліквідацыю рэштак капіталізма не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці людзей.

Літаратура—адзін з дзейсных сродкаў палітычнага выхавання, літаратар—заўсёды палітычны дзеяч. У краіне Советаў перамагла палітыка ленінскай партыі (разбіты антыленінскія групы і груповачкі, плыні і тэорыі, разбіты і дабіваецца класавы вораг). У міжнародным маштабе не толькі „красный призрак ходит по Европе“, але ён абрастае рэальнай плоццю на барыкадах Вены, Парыжа, гарадоў Іспаніі, ён уцелаісніўся ў магутнейшую Чырвоную армію Совецкага Кітая—у міжнародным маштабе перамагае комунізм. Літаратар, каторы ставіць сваёй задачай адлюстраваць жыццё, павінен быць поўнацэнным палітыкам, які праводзіць палітыку партыі, умее аматэралізаваць гэтую палітыку, паказаць яе ў мастацкіх вобразах сваіх твораў. Значыць, змест яго твораў павінен выцякаць з генеральнай лініі партыі, якую так ясна, так пераканаўча выклаў т. Сталін у сваім дакладзе. І не толькі змест твораў, а яго—пісьменніка—грамадская работа, як палітычнага дзеяча, як грамадзяніна Совецкага саюза. Я асабліва падкрэсліваю гэта. Якімі нікчэмнымі здаюцца ў гэтым святле патугі асобных пісьменнікаў адрадзіць дробнабуржуазную групаўшчыну, што адлюстроўвае сабою ўплывы гінучых класаў на асобныя праслойкі пісьменніцкай арганізацыі. Толькі тым, што пісьменнік не разумее сваёй ролі і адказнасці, як палітычнага дзеяча, яшчэ не разумее новага этапа абгостранай класавай барацьбы, не разумее грандыёзнейшых задач другой пяцігодкі, не разумее, нарэшце, задачы ліквідацыі перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей—у свядомасці саміх сябе, у першую чаргу—толькі тым можна тлумачыць наяўнасць палітыканства, замест палітыкі, групавой беспрынцыпнай барацьбы, замест работы і прынцыповых творчых дыскусій.

Іменна перамога партыі над антыпартыйнымі плынямі павінна выклікаць жорсткую барацьбу і перамогу кансалідаваных сіл совецкіх пісьменнікаў над усякай групаўшчынай унутры арганізацыі. Я падкрэсліваю гэты момант таму, што без кансалідацыі сіл немагчыма правядзенне ўсімі пісьменнікамі ў жыццё (і як творцамі і як дзеячамі) задач, пастаўленых у дакладзе тав. Сталіна. Каласальна шырокі ахоп тав. Сталіным у сваім дакладзе ўсіх бакоў нашага будаўніцтва, смелая пастаноўка праблем—павінны захапіць нашых пісьменнікаў на напісанне сапраўды вялікіх (а калі хочаце, то і шырокіх) мастацкіх палотнаў. Нам трэба вучыцца сталінскаму стылю работы—аб'яднаць „рускі рэволюцыйны размах з амерыканскай дзелавітасцю“.

Смелая пастаноўка праблем, падсказыванне чытачу гэтых праблем на аснове палітычнага аналіза і абагульнення нашых назіранняў—вось што павінна быць паказчыкам сапраўднага вялікага твору, як і высокая якасць поўнага матэрыялу, пабудовы вобразу, фабульнасць і г. д. Дарэчы, пра якасць твораў, бо і ў дакладзе т. Сталіна і ў дакладзе тав. Кагановіча пытанням якасці аддавалася велізарнейшая ўвага, калі не сказаць, што яна з'яўлялася цэнтральным месцам пераважнай большасці найадказнейшых раздзелаў дакладаў. У нас, у беларускай совецкай літаратуры барацьба за якасць, пакуль што, не пайшла далей ачышчэння мовы ад нацдэмаўскага захламлення, часткова ад „шурпатых“ слоў—правінцыялізмаў і няўдалых наватвораў. Між тым так ставіць пытанне—занадта вузка, спрошчана. У пытанні барацьбы за якасць уваходзяць і форма, і змест, суаадпавед-

насць формы і зместу, пытанні пабудовы вобразу, паказ тыповага, метафарычнасць, мова, цікавасць сюжэту; уваходзяць сюды і пытанні індывідуальнага стылю пісьменніка, пытанні абагачвання літаратурнай мовы і рад іншых. Калі мы патрабуем ад тав. Шынклера ачышчэння мовы ад такіх „слоўцаў" як: „уздзямберыўшы", „прыхлупіцца", „намуруджаны"—гэта яшчэ не ўся барацьба за якасць, гэта толькі частка яе, гэта толькі першы этап, гэта барацьба за чыстату мовы.

Зразумела, што нашы патрабаванні да тав. Шынклера і нашы патрабаванні да тав. Віцьбіча—не аднолькавы, хаця знадворна яны маюць, як быццам, аднолькавы выгляд, бо і ад Віцьбіча мы патрабуем ачышчэння мовы—аднак, ад чаго? Ад архаізмаў, ад паланізмаў, ад мовы нацдэмаўскіх слоўнікаў. Можна сказаць, што ў даным выпадку мы маем два тыпы пісьменнікаў, якія засмечваюць беларускую мову, аднак, якія выходзяць зусім з розных пазіцый. Засмечванне мовы тав. Шынклерам ідзе ад таго, што, ведаючы жывую мову, бачачы, як рэволюцыя і паднятыя ёю да культурнага жыцця шырокія пласты народных нізоў (у мінулым) уносяць у мову вельмі многа новых слоў, разуменняў—пісьменнік не крытычна адбірае з гэтай мовы тое, што на яго думку патрэбна замацаваць у літаратурнай мове як станоўчы здабытак. У выніку такога некрытычнага падыхода, мова тав. Шынклера стракатая правінцыялізмамі бабруйшчыны, жарганізаванымі славечкамі („не шманае"), перанасычана спецыяльнымі чыгуначнымі тэрмінамі. Само сабой зразумела, што гэтыя памылкі тав. Шынклера затрудняюць для чытача поўнае і глыбокае ўспрыняцце ўсяго таго станоўчага матэрыялу, які з'яўляецца зместам яго твораў.

Тав. Віцьбіч ідзе ад другіх пазіцый: ён засмечвае мову не ад багацця яе, а ад убогасцей уласнай мовы, не ад вялікага напору новых слоў, якія ўносяць паднятыя да культурнага жыцця раней адсталыя слаі, а сам Віцьбіч выражае напор на літаратурную мову варожых нам пластоў класавага грамадства, сам выражае нацдэмаўскія ўплывы на інтэлігенцыю. Аб гэтым сведчаць палітычныя зрывы ў яго тэматыцы, у падачы вобраза, у трактоўцы асобных палітычных праблем. У барацьбе за якасць літаратурнай мовы мы павінны весці і будзем весці змаганне супроць усякага засмечвання мовы. Аднак, відавочна, што сіла нашага агню павінна быць розная, адносіны нашы да памылак асобных пісьменнікаў павінны быць розныя—гледзячы па тым, што з'яўляецца класавай глебай гэтых памылак. „За формай бачыць змест"—так вучаць нас у сваіх дакладах і тав. Сталін і тав. Кагановіч на XVII з'езде партыі.

Тав. Лынькоў у сваім рамане „На чырвоных лядах" таксама дапускае рад памылак моўнага парадку: часамі непатрэбная напеўнасць мовы, якая вынікае з некрытычнага адбору фольклорнага матэрыялу, што так багата і поўна ўзят пісьменнікам у гэтым творы. Значна большымі творчымі пагрэшнасцямі супроць якасці ў гэтым творы ўсё-ж трэба лічыць сюжэтную раскіданасць, такую недаапрацоўку асобных вобразаў, што літаральна не дае магчымасці запомніць хоць-бы палову яго герояў. Загрузка дэталямі, часта расцягнутымі ў сваёй апісальнасці, засыпае вялікім ворахам асноўную думку твора: паказ таго, што „вярхі ўжо не маглі кіраваць па-старому, а народныя нізы ўжо не хацелі жыць па-старому", у выніку чаго станавілася немінучай рэволюцыя. Паказаць гэта пісьменніку, які даў, безумоўна, каштоўны твор—гэта таксама з'яўляецца адной з форм барацьбы за якасць.

Другой формай барацьбы за якасць павінна стаць барацьба супроць „штампаў" у літаратуры. Вышэй мы ўжо паказвалі, як „штампована" часта паказваецца расстаноўка класавых сіл за межамі, і на прыкладзе простых паказанняў тав. Сталіна даводзілі неабходнасць улічваць тыя канкрэтныя змены, якія ўнесены сучасным станам капіталізма ў традыцыйныя адносіны асобных дзяржаў і нават класавых груповак у самой дзяржаве. Чытаючы нашу літаратуру, мы часта спатыкаем падобныя „штампы". Формай такіх штампаў у мастацкай літаратуры з'яўляецца, галоўным чынам, простая аголенасць палітычнай ідэі твору, якая не абрастае складаным пераплётам класавых і асабовых супярэчнасцей, увасобленых у індывідуалізаваных жыццёвых вобразах, прычым такіх канфліктаў і супярэчнасцей, якія робяць мастацкую рэч цікавай, захапляючай, якія прымушаюць адшукваць у сваім жыцці, у сваім характары паасобныя моманты, паасобныя рысы, якія быццам падмечаны ў нас самім аўтарам. Трэба проста сказаць, што наша крытыка ў дадатак да „штампаў" свайго стылю— часта сваімі крытычнымі і некрытычнымі заўвагамі да палітычнага зместу твора—выхоўвае такую „штампаванасць", як нешта станоўчае і нават абавязковае. Мне здаецца, што прыклад т. Сталіна, які пастаноўкай пытання пра жывёлагадоўлю, пра пасеўныя плошчы рэзка ўдарыў па штампах у палітычных ацэнках („у нас усё добра", „мы павінны ісці на пашырэнне плошчаў засева") павінен падказаць нашым пісьменнікам самую жорсткую барацьбу супроць штампаванага паказу нашай рэчаіснасці. Гэта ні ў якім разе не азначае, што ў паказе нашай рэчаіснасці дапусцімы скрыўленні, якія няправільна трактуюць, скажам, перспектывы класавай барацьбы, перспектывы нашых перамог (а на такі шлях у пагоні за цікавасцю, за вастрынёй становішча і канфліктаў збіваецца частка, галоўным чынам маладых, пісьменнікаў). Трэба падкрэсліць, што штампованы паказ разгортвання падзей, дрэнная мова, слабая культурнасць пісьменніка—здольны згубіць нават сапраўды значную і цікавую саму па сабе класавую ідэю твора. Прыкладам гэтага можа з'явіцца паэма Хведаровіча „Дні палітаддзела", шмат п'ес Ільінскага, некаторыя раннія п'есы тав. Гурскага. Асноўнай прычынай „штампоўкі" з'яўляецца тое, што пісьменнік не ведае сучаснасці, не вывучае матэрыялаў, таму вымушаны закрываць пустату трафарэтам, штампам, слоўнымі камбінацыямі. Даклады тт. Сталіна і Кагановіча, багатыя канкрэтнымі фактамі, веданнем людзей (варта ўспомніць месцы пра т. Буценко, тав. Адміральскага, Хрунічава і інш.), і тут нас вучаць глыбокаму вывучэнню канкрэтнай сапраўднасці, палітычнаму абагульненню і вынікам.

Нельга ў адным артыкуле падвесці ўсе вынікі, якія выцякаюць з пастаноў XVII з'езда для літаратуры, таму што кожны раздзел даклада, а часта і асобная фраза даклада, пры спробе разгарнуць тыя думкі, якія яны выклікаюць у якасці сваіх практычных ажыццяўленняў, даюць матэрыял для поўнага артыкула. Таму я вымушан яшчэ спыніцца толькі на двух пытаннях: пра нацыянальную палітыку і пра аргпытанні.

Тав. Сталін, даючы класічнае вызначэнне ўхілаў у галіне нацыянальнай палітыкі і паказваючы крытэрый для адзначэння галоўнай небяспекі на даным этапе, даў нам, пісьменнікам БССР, узор большэвіцкага разумення гэтага пытання. Мы ведаем, што частка пісьменнікаў спаткала з яўным неразуменнем пастанову пленума ЦК КП(б)У, пленума ЦК КП(б)Б, а потым XV з'езда КП(б)Б, якія вызначылі як галоўную небяспеку на даным этапе для украінскай ССР—украінскі нацыяналізм, для БССР і КП(б)Б—беларускі нацыянал-дэмакратызм.

З яшчэ большым неразуменнем былі спатканы некаторыя практычныя мерапрыемствы, якія выпраўлялі нацыяналістычную практыку рэштак нацдэмаў, захаваўшыхся, прыкладам, у НКА. Само сабою зразумела, што гэта „неразуменне“ падагравалася нацыяналістычнымі элементамі, якія, выконваючы волю заходнебеларускага нацдэмакратызма, тлумачылі гэтыя практычныя мерапрыемствы як, нібыта, паварот у бок вялікадзяржаўніцтва і г. д. Але мы тут гаворым выключна пра тую групу пісьменнікаў, якія, аддана працуючы пад кіраўніцтвам партыі, сапраўды не змаглі да канца асмысліць правільнасці пастаноўкі пытання пра галоўную небяспеку. Тав. Сталін сваім дакладам не толькі рассеяў, разбіў гэта неразуменне, але арыентаваў совецкую літаратуру ўсіх братніх рэспублік, якая ў апошні год праводзіла значную і ўпартую барацьбу супроць мясцовага нацыяналізма, арыентаваў у паказе гэтага нацыяналізма, што перарастае ў дзяржаўную небяспеку. Адсюль тая страснасць і ўпартасць, прынцыповая вышыня і непрымірымасць, якія праяўляюцца масай совецкіх пісьменнікаў да гэтай формы напада класавага ворага — нацыяналістаў усіх масцей і, у першую чаргу, мясцовых нацыяналістаў—на заваёвы працоўных Совецкага саюза. Адсюль і пераход на наш бок у гэтай барацьбе тых, хто хістаўся, быў пасіўным, не разумеючы ўсёй вастраты класавай барацьбы на гэтым участку, хто меркаваў аб магчымасці пагаджэння нацыяналізма і інтэрнацыяналізма, суб'ектыўна знаходзячыся „на платформе совецкай улады“. Вострая і правільная пастаноўка пытання тав. Сталіным, XV з'ездам КП(б)Б і ЦК партыі, вопыт барацьбы з нацыяналізмам апошняга году—разбілі гэту шкодную ілюзію. На жаль, паказанні даклада тав. Сталіна ў гэтым пытанні яшчэ не знайшлі свайго яскравага адбітка ў мастацкіх рэчах (пакуль што яны знайшлі свой адбітак у палітычнай практыцы пісьменнікаў, у публіцыстычных творах, у пашырэнні тэматыкі, прысвечанай нацпытанню і інтэрнацыянальнаму выхаванню). Непасрэдны вынік для літаратуры з паказанняў тав. Сталіна павінен з'явіцца ў форме жорсткай барацьбы супроць рэштак нацдэмаўскага шкодніцтва ў галіне мовы і літаратуры, вытручванне гэтых рэштак у паказе вобраза (а штампованы вобраз сялянкі, вёскі, заможнасці, інтэлігенцыі, пакінуты нацдэмамі ў літаратуры, часамі яшчэ спатыкаецца пад новым велюмам у творах пісьменнікаў), у ліквідацыі разрыва паміж нацыянальнай формай і інтэрнацыянальным зместам твора, што часамі пранікае ў асобныя творы.

Арганізацыйныя пытанні, з такой прынцыповасцю пастаўленыя тт. Сталіным і Кагановічам, павінны прыцягнуць асобную ўвагу ўсяе совецкае грамадскасці, у тым ліку, безумоўна, і пісьменнікаў. Нам даводзілася неаднаразова гаварыць пра тое, што наша мастацкая літаратура не навучылася яшчэ правільна і глыбока адлюстроўваць арганізуючую ролю партыі, што яна адлюстроўвае галоўным чынам знешнія формы партыйнага кіраўніцтва. Глыбокія палітычныя абагульненні, якія зроблены тав. Сталіным і т. Кагановічам з аналізу папярэдняй арганізацыйнай работы партыі, даюць поўнакроўны, матэрыялізаваны паказ велізарнейшай работы партыі. Вазьміце, напрыклад, раздзелы даклада тав. Кагановіча пра тую работу, якую партыя правяла па стварэнню соўгасаў і МТС, пра стварэнне палітаддзелаў (пра тысячы і тысячы новых людзей, кінутых партыяй, з велізарнейшым адборам, прадумана, у высокай ступені арганізавана, на канчатковую пераробку вёскі) і пра арганізацыйную работу па стварэнню „свайго, роднага пролетарыяту, каманднага складу прамысловасці“ (і канкрэтны паказ стварэння такога складу на аўтозаводзе імя тав. Сталіна), пра

арганізацыйную перабудову партыйнай арганізацыі, якая (перабудова) забяспечыла авангардную ролю комуністаў на вытворчасці. Толькі гэтыя, прыведзеныя намі прыклады ўжо даюць не толькі суадпаведную тэматыку, не толькі ўносяць карэктывы ў адлюстраванне арганізацыйнай ролі партыі ў шмат якіх творах нашых пісьменнікаў, але даюць змест, глыбіню ідэі, якая павінна быць закладзена ў падобнага рода творах. Усеаб'емлімасць партыйна арганізацыйнай работы—лепшы доказ таго, што не можа быць сапраўды вялікага твора, які адлюстроўвае наш час, калі ён не закранае гэтай арганізацыйнай работы партыі, калі ён не дае вобразаў арганізатараў. Таксама не можа быць сапраўды вялікім твор, які, паказваючы перспектывы нашага далейшага руху, не ўлічыць паказанняў тав. Сталіна пра перабудову арганізацыйнай работы, які не адлюструе гэтай перабудовы на практыцы, а будзе трафарэтна па-старому паказваць расстаноўку сіл, узаемаадносіны, арганізацыю вытворчасці—прамысловай і калгаснай.

Але не толькі такія вывады павінны зрабіць пісьменнікі з прапрацоўкі арганізацыйных пытанняў. Павінны быць зроблены правільныя вывады і для пісьменніцкай арганізацыі, і для арганізацый, з якімі сустракаецца пісьменнік у сваёй практычнай рабоце (профсаюзы, дзяржаўнае выдавецтва, грамадскія арганізацыі). Падбор людзей, высоўванне новага актыва, здольнага па-новаму, без старых бюракратычных трафарэтаў ажыццяўляць дырэктывы партыі, праверка выканання дырэктыў партыі не толькі партыйцамі, але ўсімі работнікамі пісьменніцкіх арганізацый, і іх актывам—вось асноўная задача, якая ўскладзена, якая маральна абавязвае кожнага пісьменніка ў якасці практычнага выканання пастаноў XVII з'езда. Атмасфера бяспланавасці, дэзарганізаванасці, работы рыўкамі („па натхненню"), што не толькі з'яўлялася яскравай адзнакай пісьменніцкай арганізацыі, але вельмі часта культывавалася, як неадлучная адзнака пісьменніка і пісьменніцкай арганізацыі—павінна быць знішчана. Такую атмасферу маглі стварыць толькі дробнабуржуазныя элементы нашага руху, яна спрыяла аслабленню арганізацыі, аслабленню і разбэшчванню работы, аслабленню літаратуры. Планавасць, арганізаванасць не толькі грамадскай работы, а сваёй асабістай, творчай работы, арганізаванасць свайго часу, рашучая барацьба супроць усяго таго, што перашкаджае такой арганізаванасці (не толькі з боку кіруючых работнікаў сваёй арганізацыі, але і з боку расхлябанасці ў самім сабе)—вось што павінна стаць яркай адзнакай сучаснага совецкага пісьменніка. Такая пастаноўка пытання немагчыма без сапраўднай большэвіцкай самакрытыкі, якая-б сваім агнём выпальвала дробнабуржуазную расхлябанасць і разбэшчанасць.

Апошняе. Тав. Кагановіч у сваім дакладзе сказаў: „Прывяду прыклад з найменш, здавалася-б, аперацыйнай галіны—з галіны літаратуры. Што зрабіў тут ЦК?

„Я маю на ўвазе гісторыю з РАПП'ам. Як вядома, група комуністаў-пісьменнікаў, карыстаючыся арганізацыйным інструментам РАПП'а, няправільна скарыстала сілу свайго комуністычнага ўплыву на літаратурным фронце і, замест аб'яднання вакол РАПП'а і прыцягнення шырокіх пісьменніцкіх кадраў, гэтая РАПП'аўская група таварышоў тармазіла, затрымлівала разгортванне творчых пісьменніцкіх сіл. ЦК стыкнуўся ў даным выпадку з няправільнай палітычнай лініяй рада комуністаў-пісьменнікаў на літаратурным фронце, прычым гэтыя таварышы мелі ў сваім распараджэнні арганізацыйны апарат—РАПП.

„Можна было-б, вядома, вынесці вялікую рэзалюцыю аб задачах комуністаў у літаратуры, можна было-б прапанаваць РАПП'аўцам

змяніць свой курс. Але гэта магло застацца добрым пажаданнем. Тав. Сталін паставіў пытанне па-іншаму: „Трэба,—гаварыў ён,—арганізацыйна змяніць становішча“.

„І вось тады было пастаўлена пытанне аб ліквідацыі РАПП'а, аб стварэнні адзінага саюза пісьменнікаў. Пасля гэтага арганізацыйнага вырашэння пытання пісьменніцкія сілы падняліся, развіліся, і справа ў літаратуры паляпшаецца. Рашэннем арганізацыйнага пытання было такім чынам забяспечана правільнае правядзенне лініі партыі ў літаратуры“.

Гэты абзац яшчэ раз напамінае нам пра неабходнасць няўхільнага правядзення лініі партыі, вызначанай пастановай партыі ад 23 красавіка 1932 г., лініі на кансалідацыю ўсіх пісьменніцкіх сіл, якія сталі на платформу совецкай улады, на шлях актыўнай барацьбы за ідэі комунізма. Гэта напамінае нам пра неабходнасць жорсткай ліквідацыі малейшых рэштак групаўшчыны, на неабходнасць узмацнення выхаваўчай работы сярод пісьменнікаў, асабліва тых, якія прыйшлі ў наш саюз, вызваляючыся ад цяжкага грузу свайго мінулага, напамінае нам і пра неабходнасць узмацнення класавай пільнасці.

І самае апошняе. Даклады правадыроў партыі—пастановы XVII з'езда ВКП(б) — даюць узор найглыбейшага палітычнага аналіза. Яны даюць узор марксісцка-ленінскай тэорыі. Самай формай і зместам сваім яны паказваюць, як неабходна нам, пісьменнікам, уздымаць свой культурны і палітычны ўзровень, як неабходна нам сістэматычная глыбокая палітычная вучоба. Прапрацоўка гэтых дакладаў павінна стаць для кожнага пісьменніка пачаткам такой сур'ёзнай і працяжнай вучобы, пачаткам палітычнай работы па авалоданню тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна.

---

ПЁТР ХУТАЛЕЎ

# ЗАЎВАГІ ПРА ТВОРЧАСЦЬ П. БРОЎКІ

„...Писатели становятся замечательными художниками, если их восприимчивость всеоб‘емлюща, если жизнь открывается им не только в отдельных явлениях, а во всем своем стройном течении, если чутки они не к одной только внешней стороне явлений, но и к их внутренней связи и последовательности...“ (Добролюбов).

Няхай яна не вызначаецца вялікай тэхнікай. Няхай будова вобраза часамі вычурная. Няхай яна не вызначаецца цікавым сюжэтам.

... Хто з вас чуў песню мужнасці, песню геройства, песню чалавечай страсці—любові і нянавісці? Хто чуў магутную песню пра гераічныя паходы нашай Чырвонай арміі? Песню, дзе сіла гневу да ворага спалучаецца са страсным пачуццём еднасці ўсіх працоўных? Песню, дзе неўміручая жыццярадаснасць будоўлі і адданасць справе абароны вялікіх ідэалаў пролетарыята? Песню пра Самарскую дывізію?

Гэта песня завецца „Праз горы і стэп“.

А шлях да яе віхлясты, марудны, цяжкі і вялікі. Пачынаецца ён ад першай паэмы пісьменніка „Прамова фактамі“.

## I

Гісторыя ведае дзве лініі социяльнай барацьбы ў часы белапольскай акупацыі.

У цесным саюзе з асноўнымі масамі сялянства пролетарыяту, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, прышлося змагацца як з белапалякамі, так і з унутранай контррэволюцыяй усіх адценняў, пачынаючы ад эсэраў і нацдэмаў і канчаючы імперыялістычнай буржуазіяй.

Другая частка барацьбы засталася па-за ўвагай аўтара паэмы „Прамова фактамі“.

Метадам кантраста даюцца вобразы двух супроцьлеглых социяльных арганізмаў:

Жабрачкай стала Беларусь
Каля аднаўленых палацаў. („П. Ф.“, стар. 9).

З аднаго боку—„жабрачка-Беларусь“, з другога—„аднаўленыя палацы“. Паняцце „аднаўленыя палацы“ дае некаторы намёк на тое, што гутарка ідзе пра звярнуўшыхся ў часы акупацыі мясцовых абшарнікаў і капіталістаў, але намёк вельмі слабы. Праз усю паэму ідзе толькі супроцьстаўленне „жабрачкі-Беларусі“ імперыялістычным інтэрвентам і, у першую чаргу,—„польскаму пану“.

Што-ж уяўляе сабою „жабрачка-Беларусь“? У горадзе „тысячамі рук крычэла вуліца: дай працы!“ Рабочы ў горадзе сустракаў толькі

„польскага пана“ і „госць-смерць“. Рабочы ішоў да свайго брата, бедняка-селяніна, і арганізоўваў партызанскія атрады. Ішоў у лес, пакідаючы вёску, і бядняк і поўніў сабою шэрагі партызанаў.

Стаяла вёска сіратой
У пісягох каля гасцінцу.
І зольма ветрамі, марозам
Шукала шчасця каля зор (стар. 10).

Пазбаўленая правоў на зямное, вёска, у слязах і муках, „шукала шчасця каля зор“, потым кідала шуканні і ішла партызаніць.

У вёсцы Броўка не заўважыў рэстаўратара-кулака, ён не ўбачыў, што не ўся вёска была „сіратой“.

Ён не заўважыў у горадзе простых агентаў польскага імперыялізма-нацдэмаў Прушынскіх, адчынена выступаўшых ратаваць ад большэвізма „заімшэлыя званіцы“ феадальна-імперыялістычнай Беларусі.

Правільна паказаўшы некаторыя бакі партызанскага руху (цесную сувязь пролетарыята горада з бяднейшым і сярэднім сялянствам, кіраўніцтва пролетарыята рэволюцыйным рухам сялянства), Броўка, усё-ж, не змог даць паўнаты гэтага паказу. Правільна ўзяўшы за асноўнае ў паказе вёскі—паказ бедняка-партызана, Броўка зрабіў памылку, ідучы па шляху мастацкага абагульнення ад прыватнага да агульнага. Прыватнае стала вырваным з рэчаіснасці. Адарванае, яно ў мастацкім абагульненні закрыла сабою другія фігуры бедняка-партызана, закрыла сабою фігуру контррэволюцыйнага кулацтва. Фігура „польскага пана“ закрыла сабою ўнутраную гарадскую контррэволюцыю—нацдэма, эсэра, капіталіста і інш. Прыватнае сталася выданым за агульнае. Вобраз селяніна-бедняка стаў утоесамленым з вобразам вёскі. Вобразы інтэрвенцыі сталіся ўтоесамленымі з агульнымі сіламі контррэволюцыі.

Да гэтага прывяло, у пэўнай меры, эмпірычнае ўспрыняцце соцыяльнай калізіі, соцыяльнага пераплёту класавых сіл.

Як мы бачым, рэалізм Броўкі выявіўся бледным і слабым. Эмпірычнае, павярхоўнае ўспрыняцце гістарычнага мінулага ўзаемазвязана з характарам разумення сучаснага, непасрэдна абумоўліваецца ўспрыняццем сучаснага і адносінамі да яго.

Дзе-ж прычына павярхоўнасці?

## II

У Броўкі ёсць значнай сілы верш, змешчаны ў зборніку „Цэхавыя будні“. Верш характэрны не толькі для першых кніжак паэзіі, а і для ўсёй творчасці пісьменніка. У гэтым вершы пад назвай „Тады пачынаю з пачуццямі спрэчкі“ гаворыцца пра вельмі простае. Чалавек ахвярue ўсё сваё жыццё на справу вялікіх соцыяльных рэформ, з вялікай шчырасцю аддае ўсё, што толькі можа аддаць новаму. Але... чалавек бяссільны адразу скінуць свет традыцый, якія скlаліся вякамі. Часамі наступаюць хвіліны і ў дзверы свядомасці грозна, няўмольна стукаецца стары, лядашчанькі, недабіты свет з „прыгодамі кахання“, „непраглядной лірыкай“, самотай. Пачынаецца страшэнная барацьба двух светаў унутры чалавечай істоты. Чалавек „пачынае з пачуццямі спрэчкі“. Бывае, гэты свет выпадкова, нечакана, у сваёй перадсмяротнай барацьбе атрымлівае перамогу. Бывае гэты свет у барацьбе гіне, але гнойныя трупа западаюць у далёкія тайнікі чалавечай істоты. Гэтая засмечанасць разам са слабасцю культурных ведаў у Броўкі і ёсць асноўная прычына творчых промахаў першай кніжкі. Не зразумеўшы поўнасцю соцыяльнага пераплёту рухаючых сіл гісторыі ў мінулым,

Броўка і ў дні дзесяцігоддзя аслабанення ад белапалякаў не змог паказаць сутнасці вынікаў, якіх краіна дасягнула за дзесяць год. Глыбока мастацкі паказ у большасці падменен рытарычна-публіцыстычнай дэкларацыйнасцю і лозунгамі. Побач з месцамі эмацыянальна моцнымі, большасць паэмы напісана ў плане перавагі публіцыстычнага над эмацыянальным.

А калі мова палітыкі прарывае мастацкую тканіну вобразаў і вырываецца наверх—паэзія ператвараецца ў публіцыстыку. У сувязі з гэтым варта прыгадаць словы геніяльнага мастака Ганчарова, выказаныя героем аднаго яго рамана: „Вы одной головой хотите писать? Вы думаете, что для мысли не надо сердца?"

Зборнік „Гады, як шторм" становіць сабою паэзію больш сакавітую, больш ідэёва-насычаную, ніж паэма „Прамова фактамі". Такія творы, як „Гады, як шторм", „На новыя мы станем рубяжы"—паказваюць Броўку як здольнага пролетарскага пісьменніка. „Гады, як шторм", „На новыя мы станем рубяжы", і верш „Клімент Ефрэмавіч"—з трэцяй кніжкі паэзіі—можна смела паставіць побач з усім лепшым, што напісана за апошнія часы ў беларускай совецкай паэзіі.

Творчы дыяпазон пісьменніка разрастаецца не толькі ў глыбіню, але і ў шырыню. Побач з ідэёвым ростам, расце і тэматычнае кола. Паказ совецкай рэчаіснасці пад пяром пісьменніка разрастаецца. Ў шматлікія і рознакаляровыя замалёўкі вялікай соцыялістычнай рэканструкцыі. Тут можна сустрэць і пытанні барацьбы за промфінплан, і ўдзел у гэтай барацьбе комсамола, і задачы абароны краіны, і г. д.

У рэалістычных тонах пісьменнік будуе вобраз неўміручасці правадыра сусветнага пролетарыята—Леніна. Мінорная абрыўчастая музыка першых радкоў верша паведамляе вялікую страту. Далей—як бы хвілінная імпрэсія смутку і слёз. Мінорныя рытмы адразу-ж змяняюцца рытарычнымі фігурамі звароту да працоўных аб неўміручасці справы Леніна. Гучанне радкоў стварае музыку шпаркай магутнай хады нашага жыцця наперад:

Гады, як шторм,
пранесліся па моры,
Учора тут былі,—
сягоння ужо там.
Час да комуны мчыць
кур'ерска-скорым,
Далёка кінута
адпраўная вярста.
„Гады, як шторм" (стар. 7).

Нельга сказаць пра зборнік у цэлым, як пра дадатнае. У многіх месцах паўтараюцца промахі ранейшага. Фарбы многіх малюнкаў, вобразаў вельмі бледныя, з-пад іх, часамі, выглядае крыклівы касцяк сухой рытарычнасці, лозунга і плаката (верш „Атака", „Наперад" і інш.):

Прымай, совецкая вясна,
Загады ад ЦК (стар. 30).

Завод ізноў трывожны.
— Яшчэ далёка сто.
Таварышы, не позна!
Атакай на прастой! (стар. 22).

Энгельс, даказваючы няпраўдзівасць вобраза Берне ў творы Бека „Ночы" паказвае, у чым была веліч Берне ў жыцці.

„В том-то и заключается величие Берне, что он был головой выше жалкой риторики и мелких лозунгов наших дней“ („Карл Бек“, творы Энгельса, II том).

Лозунгі нашых дзён—вялікія лозунгі, як і эпоха, што парадзіла іх. Але сапраўдная сіла паэта заключаецца ў тым, што ён, не траццячы сувязі з днём і лозунгам, падымаецца на вышыню філасофскага абагульнення эпохі і ў сваім абагульненні расчыняе ўсю сутнасць і глыбіню лозунга дня, моманту.

У Броўкі „рэалізм“ лозунга, плаката часта прыходзіць у тупік і труслiва капітулюе перад імпрэсіянізмам. У вершы „Даўнейшае“, на фоне змагання партызанаў супроць белапалякаў, аўтар імкнецца сканцэнтраваць усю ўвагу на фіксацыі мімалётных адчуванняў, імкнецца сгусціць фарбы на гуках стрэлаў, крыках, енках. Атрымоўваецца не трагічна-напружаны момант змагання, а бессэнсоўная, смешная гульня:

...Бах... звяк!..
Бах... бах-х.,.
Дзынь... дзынь...
Янка?!
Патрон ужо толькі адзін.
Янка. даруй! (стар. 50).

Павярхоўны падыход да з'яў прыводзіць часамі да скажэння і вульгарызацыі рэчаіснасці. Паэт раіць:

Няхай бетоннымі нагамі
Ступае гордая эпоха (стар. 15).

Або сцвярджае:

Растуць вынаходцы,
Як грыбы (стар. 20).

Творчасць Броўкі—вельмі супярэчлівая. Побач з перамогамі, якія падымаюць пісьменніка на ўзровень пролетарскай літаратуры, мы маем вялізарныя зрывы. Толькі апошняе, калі больш пільна ўглядзецца ў творчую тканіну, паступова хваравіта, але ўступае месца першаму.

Ужо ў „Цэхавых буднях“ адчуваецца імкненне яшчэ шчыльней падыйсці да жыцця, адшукаць у канкрэтнай з'яве яе тайнікі, у якіх хаваюцца сілы, рухаючыя яе. Паэт сапраўды апускаецца ў цэхавыя будні. Выкрыць прагульшчыка, нядбайцу, рвача—з'яўляецца непасрэднай задачай паэмы „Цэхавыя будні“. Пісьменнік блізка падыходзіць да з'явы, пачынае зрываць з яе маску, якая, на першы погляд, робіць з'яву мала прыкметнай сярод другіх, ставіць з'яву ў яе нагаце, адчыняе яе сутнасць. І ў пэўнай меры яму гэта ўдаецца. Удаецца, покуль што на палову. На палову сарваная маска яшчэ вісіць. На вобразах прагульшчыка, нядбайцы, рвача застаецца вісець маска агульшчыны, схематызма, нетыпічнасці. Нядбайца ў Броўкі покуль што, атрымаў імя класічнага тыпа Обломава, але нашы Обломавы з вялікай цяжкасцю могуць прызнаць за сваіх сяброў Обломавых прыватнаўласніцкіх эпох, якія іх парадзілі.

### III

Больш жывы струмень рэалізма ў творчасць Броўкі ўнесла аповесць „Каландры“. Аповесць „Каландры“ з'яўляецца значным укладам у беларускую совецкую літаратуру. Яна паказвае на далейшы і шпаркі рост маладога пролетарскага пісьменніка. Яна паказвае, што, пераха-

дзячы ад малых паэтычных форм да шырокага празаічнага мастацкага палатна, Броўка дасягае немалой глыбіні паказу рэчаіснасці.

Аповесць „Каландры" як палітычна, так і мастацкі мае немалое значэнне ў беларускай літаратуры. Тэматыка твора звычайная, многа раз меўшая вырашэнне ў беларускіх пісьменнікаў. Паказ удзелу комсамола ў соцыялістычным будаўніцтве рэканструкцыйнага перыяда вырашаўся як у малых, так і ў вялікіх палотнах. Але ва ўсіх выпадках гэтае пытанне вырашалася або мімаходам, або скажонна. Вялікая аповесць Мікуліча „Наша сонца" таксама прысвечана выключна комсамольскай тэматыцы. Але пры ўсім імкненні Мікуліча быць прававерным у паказе—Мікуліч збіўся на трацкісцкі авангардызм.

Броўка першы ў беларускай літаратуры з пазіцый пролетарыята даў шырока-абагульняюче мастацкае палатно з жыцця комсамола рэканструкцыйнага перыяду.

Узяўшы за асноўнае паказ змагання комсамола за промфінплан на папяровай фабрыцы, Броўка вядзе гэты паказ у цеснай сувязі з паказам соцыяльна-бытавых, этыка-маральных ліній у псіхаідэалогіі комсамольскай моладзі.

Вакол пытання барацьбы за выкананне промфінплана адбываецца сутычка двух соцыяльна супроцілеглых сіл: з аднаго боку—комсамольцы Ванька Крук, Вера Сызова і таварыш, з другога—шкоднікі Курачкін, Архіпаў, пралезшы ў комсамол сын кулака Мігуцкі і К°.

Перад намі паўстае глыбока замалёваны вобраз прадстаўніка гістарычна асуджанага класа, які робіць апошнія спробы адшукаць правы на існаванне свайго класа.

Мігуцкі жахліва азіраецца і бачыць, што глеба, пад нагамі яго класа раскалолася і расчыняе перад ім магільнае прадонне. Ад таго і філасофія асуджанасці такая змрочная і такая насычаная магільным пахам.

„Відна прарваўся мароз у гэту цёплую хату,—кажа Мігуцкі, прыехаўшы ў вёску да бацькі,—няма спакойнага месца цяпер. Кончана, кончана ўсё!" Але прадчуванне пагібелі наддае сілы агоніі. Мігуцкі разам з бацькам арганізоўвае падпал калгаса. Мігуцкі горача вітае сустрэчу з контрэволюцыянерам Курачкіным, і сумесна арганізоўваюць сістэматычнае шкодніцтва на фабрыцы.

Пераканальна паказваецца лінія блока контррэволюцыйнага кулацтва вёскі з шкодніцтвам горада. Гэтаму супроцьстаўляецца братэрская сувязь будаўнікоў калгаснай вёскі з будаўнікамі соцыялістычнага горада. Маладыя, жыццерадасныя комсамольцы Ванька і Верка непасрэдна дапамагаюць у будаўніцтве новай культуры ў сваім падшэфным калгасе.

Праз усе дэталі жыцця паказваюцца жыццерадаснымі, жыццеімкнённымі, маладыя загартаваныя класавай барацьбой, Ванька Крук і Верка Сізова. У іх ніколі грамадскае не прыходзіць у сутычку з асабістым, бо асабістае ёсць частка грамадскага, поўніцца жыццётворчымі сіламі грамадскага і адначасова дапамагае грамадскаму. Зусім па-новаму гучыць песня кахання.

У пачатку вонкавая прыгожасць Мігуцкага вельмі зацікавіла Верку Сізову. Яна пакахала яго. Але скора яна ўбачыла, што гэта вонкавая прыгожасць хавае гнілую сутнасць класавага ворага. Словы таварышкі ў яе абуджаюць агіднасць і варожасць да Мігуцкага:—„А знаеш, Верачка, мне падабаюцца хлопцы такія, у каторых не толькі адно голае звярынае здароўе, а ў каторых ёсць нешта кволае, нават хворае..."

„— Чуеш, Волька. Ты памыляешся. Такі чалавек не здаровы і здаровых ён цікавіць не можа. Нам патрэбны сіла, розум і акуратнасць.

Трэба, каб на рабоце ён мог перавярнуць горы, каб розум яго рухаў наперад, каб акуратнасць была прынцыпам парадку. Люблю яшчэ вельмі жартаўлівых і вясёлых. Калі такі пачынае жартаваць, ён забіраецца тады ў душу, бразгае, здаецца, там нейкімі таемнымі званочкамі і апрача нават твае волі. Тады робішся вясёлым. Тады святлее. Люблю здаровых і вясёлых" (стар. 20-21).

Радасць асабістага жыцця яна знайшла ў Ваньку. Вобраз Веркі і Ванькі—гэта вобразы перамогі новага жыцця.

Жыццё і змаганне комсамола паказана ў неадрыўнай сувязі з жыццём усяе фабрыкі. Комсамольцы вядуць сваю працу пад кіраўніцтвам парткалектыва фабрыкі.

З вялікай лірычнай цеплынёй падаецца вобраз рабочага—старога большэвіка Ганушчанкі, для якога фабрыка з'яўляецца галоўнай, неадрыўнай часткай яго жыцця.

Андрэй Ганушчанка прыйшоў на папяровую фабрыку яшчэ хлопчыкам. Выпала так, што неяк у каляды ўпоўз бацька зусім без сілы ў сені. Ён быў без памяці. Калі паклалі яго на ложак, дык вадзіў вачыма па аблупленых сценах і мармытаў у непрытомнасці. Казалі, што таго вечара ён перабраў сівухі ў старога Шлёмы, што на горцы трымаў карчму. Потым прыткнуўся да хаты, лёг на прызьбе і там ляжаў колькі гадзін. Пэўна застудзіўся, лежачы на марозе. Толькі на другі дзень, помніць Андрэй, як роўма раўла маці, і ляжаў жоўты нерухомы бацька. А яшчэ помніць Андрэй, як хадзіла, кленчыла маці пытала дошчак на дамавіну.

„У сям'і Ганушчанкаў толькі Андрэй чатырнаццацігадовы і быў тады галоўнай надзеяй, каб як-небудзь пражыць, бо акрамя яго ў мацеры застаўся яшчэ маленькі Уладзік. Але ён і гаварыць не ўмеў. Ён адзін, можа, толькі не адчуваў тады ні гора, ні пакуты.

„Трыццаць пяць год з таго часу. Многа змянілася за гэтыя гады... Быў Андрэй вучнем і падмайстрам і майстрам. Усялякай работы пераатварыў Андрэй. Яго каструбаватыя пальцы, крыху пакурчаныя, спыталі ўсё. Хадзіў ён і на вуліцу з чырвоным сцягам. Тады гэтыя пальцы насілі дрэўка самаробленага штандару. Быў на фронце, пальцы націскалі на спуск кулямёта...

„І калі над фабрыкаю ўзвіўся чырвонай ракетай пераможны сцяг, калі надрыўна гудзелі гудкі і склікалі на творчую працу да сябе, калі стары ўладар схаваўся за дротам польскай мяжы, калі фабрыка, напружаная кожным мускулам, ішла ўперад і атрымала пачэсную грамату „Герой Кастрычніка", Ганушчанка агульным сходам быў тады ўзнагароджан „Героем працы" („Каландры", стар. 11).

Суровы жыццёвы шлях прывёў Ганушчанку да ўсведамлення адзінага шляха ў жыцці—шляха сапраўднагажыцця, шляха рэволюцыі. Ганушчанка горда нясе працоўны сцяг. Яго ён нікому не аддасць. Не гледзячы на свой узрост, ён не пакідае працы. Ён імкнецца ўдзельнічаць у будаўніцтве да сваіх апошніх дзён. Ён унікае ў кожную дробязь жыцця фабрыкі, у кожную дробязь машыны. Пільнасць Ганушчанкі дапамагае выкрыць шкодніцтва. Гэта, бадай што, самы моцны і поўны вобраз аповесці.

Аповесць, як і ўся творчасць Броўкі, пранізана тэндэнцыйнасцю. Тэндэнцыйнасць, як „предвзятость", як палітычная страснасць, як жаданне апярэдзіць ход падзей, з'яў і навязаць ім свае палітычныя ідэалы—заўсёды выступала ў эпохі вялікіх соцыяльных зрухаў і асабліва выступае ў мастацтве нашага часу. Гэтая тэндэнцыйнасць у буйных мастакоў выяўляецца у магутнай тканіне вобразаў праз шырокі паказ аб'ектыўнасці.

У сваім лісце да Міны Кауцкай, з поваду яе рамана „Старые и новые“, Энгельс піша:

„Тенденция должна вытекать из положения и действия сама по себе, без особых на то указаний... Писатель не обязан навязывать читателю будущее историческое разрешение изображаемых им общественных конфликтов... Социалистический тенденциозный роман целиком выполняет свое назначение, добросовестно описывая реальныя взаимоотношения“.

Гэта поўнасцю адносіцца і да сацыялістычнай тэндэнцыйнай аповесці.

У „Каландрах“ яшчэ часамі заўважаецца, што тэндэнцыя „вытекает не из положения и действия“, а навязваецца аўтарам зне. Тэндэнцыйнасць у многіх месцах аповесці вырываецца з тканіны вобраза, аб'ектыўнага паказу характара, з'явы і ўжо зверху, над з'явай, характарам, вобразам, навязваецца ім аўтарам. У Броўкі гэта атрымоўваецца па прычыне няжжытых рэштак павярхоўнага падыходу да рэчаіснасці. Для прыклада можна прыгадаць хаця-б размову паміж галоўнымі персанажамі аповесці Ванькам і Сізовай:

— „Знаеш, Ванька,—гаварыла яна,—гэта вельмі добра. Але помні пра вучобу. Нам трэба быць культурнымі. Думай, што трэба будзе паехаць.

— Так... так... Верачка—паеду... абавязкова паеду... толькі папрацую хораша... тут так многа работы. І я тут патрэбен яшчэ. Больш, партыя гэта сама ведае“.

Адчуваецца, што гавораць не два жывых чалавекі, што глыбока ўсвядомілі неабходнасць набыцця культуры, а дзве лялькі.

Так жывая асоба растварaецца ў прынцыпе, у ідэі. Людзі—абезасоблены, нетыповыя. Так імкненне навязаць тэндэнцыю зне змыкаецца з павярхоўным паказам жыцця.

Трэба адзначыць і тое, што вобразы Ванькі і Веркі носяць значныя сляды літфронтаўскай лакіроўкі. Яны выключна дадатныя тыпы, выключна як-бы ідэальныя ва ўсіх адносінах.

Як недахоп, трэба падкрэсліць і недастатковы паказ ролі партарганізацыі на заводзе. Няма паказу сакратара партарганізацыі ў канкрэтным штодзённым жыцці вытворчасці. У аповесці дадзены толькі некаторыя штрыхі дзейнасці сакратара. Сакратар больш дзейнічае за рамкамі аповесці.

## IV

Паэма „Так пачыналася маладосць“, паглыбляючы папярэднія кампазіцыйныя прыёмы, даводзіць іх да разгорнутай сюжэтнай паэтычнай формы і ў гэтай абалонцы, прасякнутай страснасцю любові і нянавісці, выражае канкрэтны гістарычны змест змагання комсамола Беларусі ў часы белапольскай акупацыі.

У гэтай паэме Броўка яскрава падкрэслівае, што перамогі як над унутранай, так і над знешняй контррэвалюцыяй атрыманы ў першую чаргу дзякуючы комуністычнай партыі, як умеламу камандзіру, стратэгу і арганізатару. Броўка падкрэслівае, што гэтыя перамогі абавязаны самаахвярнаму, гераічнаму змаганню комсамола Беларусі, які быў цесна згуртаваны вакол свайго геніяльнага старэйшага брата.

Калі ў першай паэме супроцьстаўленне рэволюцыі і контррэволюцыі спалучылася (у асноўным) у вобразе „жабрачкі-Беларусі“ і „польскага пана“, дык у сваёй апошняй паэме Броўка адмовіўся ад гэтага вобраза. Броўка зразумеў, што ягонае паняцце „жабрачкі-Беларусі“ мае фальшыва-нацыяналістычную афарбоўку. Броўка зразумеў, што ў сапраўднасці ёсць Беларусь Совецкая і Беларусь абшарнікаў, ку-

лакоў і капіталістаў. Паэма „Так пачыналася маладосць“ яскрава зазначае, што ў часы белапольскай акупацыі Беларусь рабочых і працоўных сялян, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі змагалася супроць феадальна-імперыялістычнай Беларусі. Пісьменнік зрывае маскі з контррэволюцыйных партый і паказвае іх усю агіднасць і прадажнасць. Паэма паказвае, што лёс партыі Бунда, эсэраў, нацдэмаў— гісторыяй даўно асуджаны на пагібель. Паказваючы, што гэтыя партыі, якія сваёй контррэволюцыйнай працай раскрывалі свой прадажніцкі твар—усё больш і больш трацілі даверлівасць мас. Адчуваючы гэта, яны знаходзілі адзіную падтрымку з боку інтэрвенцыі. Дом легальных профсаюзаў Броўка называе „палітычным гарэмам“, дзе з „акупанскай ласкі“ звілі гняздо рэакцыйныя партыі. „Палітычнаму гарэму“ рэакцыі і прадажніцтва супроцьстаўляецца непахісная сіла комуністычнай партыі, непахісная сіла рэволюцыі, непахісная сіла комуністычнай моладзі, якая праз шлях самаахвярнасці, пакут і гераізма ідзе да перамог.

І вось хлапцы агітаваць
Ішлі ў парадку тых нагрузак—
На Койданаўскую дваццаць два
У дом легальных профсаюзаў.
Спакой там здраду прытуліў,
І ў палітычным тым гарэме
І бундаўцы слінём жылі,
І беларускія нацдэмы.
І з акупанскай ласкі той
Сабе гняздо яны звівалі
І там ачмутаю сваёй
Лакеяў панству рыхтавалі.
(„Т. П. М.“, ст. 34).

Паэма раскрывае ў мастацкіх вобразах кансалідацыю ўсіх як унутраных, так і знадворных сіл контррэволюцыі ў часы белапольскай акупацыі. Гэты блок паказваецца не як выпадковы, які грунтуецца на прынцыпе „сябар па няшчасцю“. Кансалідацыя рэакцыйных партый ёсць выражэнне кансалідацыі ўсіх рэакцыйных класавых сіл гісторыі, якія адчулі пад нагамі страшэннае магільнае прадонне.

На супроцьстаўленні варожага лагера сілам рэволюцыі грунтуецца сюжэтная канва паэмы. У аснову сюжэта пакладзен матэрыял аб змаганні Менскай комсамольскай арганізацыі з белапалякамі.

Зайдэнвар, кіраўнік Менскага комсамола, атрымоўвае ад падпольнай партыйнай арганізацыі заданне: шляхам канспірацыйнай работы дамагчыся маральнага разлажэння белапольскай арміі, і, мабілізаваўшы ўсе рэволюцыйныя элементы, накіраваць іх на змаганне супроць акупацыі.

Напалову гэта праца зроблена.

У самы адказны час, калі справа павінна вырашыцца перамогай парткомсамольскай арганізацыі, Менскі комсамольскі камітэт правакацыяй Плоткіна аддаецца ў рукі белапалякаў. Але справы камітэта не гінуць. На месца першага становіцца другі камітэт. Першы камітэт гіне ад рук наймітаў Пілсудскага. У свой апошні, перадсмяротны, час чырвонакрылыя вяшчуны, скаваныя каменным мяшком турмы, пішуць ліст рускім братам аб сваёй вернасці справе рэволюцыі. У гэтым лісце паказваецца вялікая сіла інтэрнацыяналізма, якая натхняе, кіруе комсамолам у яго працы. Ліст паказвае, што, толькі дзякуючы гэтай рэволюцыйна-інтэрнацыянальнай еднасці працоўных, перамога забяспечана ў мінулых класавых бойках за пролетарыятам і што яна будзе забяспечана заўсёды і ў будучым.

Наступленне белапольскай зграі атрымоўвае часова яшчэ перамогу.

Другі камітэт, закуты ў краты. Але справы рэволюцыі неўміручы. Другі камітэт вызваляе з-за крат Чырвоная армія.

Паэма адлюстроўвае гістарычнае мінулае з пазіцыі пролетарыята. У гэтым яе вялікае значэнне.

Адданасць Зайдэнвара комуністычнай справе, асабістая скромнасць, любоў да таварышоў, цесная практычная сувязь з масай і ўмелае ўзначальванне яе выходзяць далёка за рамкі мастацкіх штрыхоў. Вобраз Зайдэнвара і Сочі Зак носіць адзнакі імкненняў да псіхалагічнай крапатлівасці ў замалёўцы. Хаця яны, як і ўсе комсамольцы паэмы, пазбаўлены асабістага жыцця, хаця, сапраўды, крывавы і суровы час гісторыі прымушаў аддаваць усе грамадскаму,—яны хвалююцца, радуюцца, перажываюць, рвуцца наперад да новых перамог, сагрэтыя полымем вялікай рэволюцыйнай маладосці.

Асабліва ўдалым і мастацкім момантам у замалёўцы гэтых вобразаў з'яўляецца сцэна паседжанняў комсамольскага камітэта на рэчцы. У гэтым малюнку Броўка дасягае вялікай паэтычнай сілы. Сцэна вельмі цікавая сваім майстэрскім, свежым і арыгінальным развязваннем стыхійнага і рацыянальнага. Сцэна паказвае вялікую непахіснасць, самаахвярнасць і сілу комуністычнай моладзі, перад рухамі якой расступаецца, нават, раз'юшаная стыхія.

Горад, скаваны ланцугамі белапольскіх легіёнаў. Усякая спроба парваць гэтыя ланцугі сустракае на сваім шляху смерць.

Пад оргіі прастытуцыі, пад баляванні і крывавы разгул пілсудчыкаў спіць напаўпрыдушаны горад. Не спяць толькі чырвонакрылыя вяшчуны. Яны шукаюць выхаду з гэтага зачараванага кола смерці і сну. Яны звяртаюцца да нямых сіл прыроды. Сваёй стыхійнай раз'юшанасцю, казачнасцю, красой і суровасцю яна можа прыкрыць рэволюцыйную постаць комсамалят.

Вецер дзьме шалёны
Восеньскаю трасцай.
Хвалі узнімаюць
Свой вар'яцкі шум...
Самая пагодка—
У чоўне прагуляцца.
Сцюжа чортам лезе
Проста у душу.
Дзе-ж такой часінай
Ім цяпер падзецца?
Хіба йсці на ложак
Заваліцца спаць?
Грай-жа, чортаў вецер!
Данімай да сэрца!
Маладыя хлопцы
Едуць пагуляць,
Каб ляцелі пыркі
У разгоне прыткім
І кружылась песень
Хмелем галава (стар. 6).

Чалавечы розум, супроцьстаўлены стыхіі, перамагае яе, падпарадквае яе сваім інтарэсам. Комсамольскі камітэт пад выглядам прагулкі „маладых хлапцоў з дзяўчатамі" абмяркоўвае план падрыхтоўкі мас да ўзброенага паўстання.

Сіла гэтага малюнка з'яўляецца не толькі ў ідэйным супроцьстаўленні рацыянальнага ірацыянальнаму. Мастацкасць тут дасягаецца ўмелым афармленнем гэтага супроцьстаўлення. Малюнак стыхіі і свядомага перадаецца праз форму напеўнай песні, падобнай да народнай. Напеўнасць прасякнута лірычнай задушэўнасцю. У рытме напеўнасці чуецца подых стыхіі, якім кіруе рука чалавека.

Аптымістычны і дынамічны фон паэмы, напоўнены сапраўды камсамольскай неўміручай энергіяй жыццярадасці, змагання і будаўніцтва—хавае і шэраг слабых месц. І, у першую чаргу, гэта адносіцца да замалёўкі вобразаў акупантаў:

Акупанты прыйшлі, што звяры... (стар. 3)
Гнеў палкоўніка іскрыцца,
Ён плюецца злосцю п'янай... (стар. 18)
Афіцэры-ж ходзяць зверам... (стар. 24)
Ён чытаў, што—звер крывавы
Зруйнаваў старонку
Дзікім шалам навальнічым... (стар. 28)
У дзікім шале круціўся
Паранены звер,—
На людзей ён рабочых кідаўся
Зубамі бясконца. (стар. 31).

А вось кавалачкі замалёўкі царскай жандармеры:

...Жандары, як лютыя тыгры,
Комсамольцаў катуюць
За гмахамі крат (стар. 47).

„Паранены звер", „крывавы звер", жандар"-тыгр—безумоўна, соцыяльныя арганізмы. Маецца на ўвазе соцыяльны „звер", як пэўнае спалучэнне дэгенерацтва і класавай нянавісці. Гэта было-б поўнасцю прававерным, каб вобразы набылі канкрэтызацыю, асабістаць, каб у гэтым асабістым быў разгорнуты сутны бок „звера", каб былі паказаны вытокі, што парадзілі і харчуюць „злосць п'яную", „шал навальнічны". Атрымалася—маска „звера" пачала прыцiскаць чалавека як сукупнасць соцыяльных адносін, „звер" пачаў выганяць чалавека. Ад гэтых людзей нясе заалагічным садам, дзе „паранены звер на людзей рабочых кідаецца зубамі бясконца".

Некаторы канфлікт паміж гісторыяй і мастацкай праўдай ствараецца, калі заходзіць гутарка пра герояў Саўчыка, „Абрама", і „Пеці".

Прыём экспрэсіі ў разгортванні вобразу робіць іх моцнымі, заражаючымі рэволюцыйным дынамізам, найбольш лёгкімі для глыбокага ўспрыняцця. Аўтар уводзіць у паэму героя „Пецю" (падпольная клічка члена ЦК КСМ Літвы і Беларусі тав. Вараб'ёва) у наступнай форме: ягоныя таварышы ў падпольнай друкарні хвалююцца за лёс сябра.

Праз гутаркі гэтых таварышоў чытач і даведваецца аб Пецю. Далей затарможанае разгортванне выяўляецца ў радасці перамогі „Пеці" над шпікам Яшкам. „Пеця" ў пакоі Зайдэнвара абмяркоўвае з сябрамі план распаўсюджвання пракламацый і г. д.

Асобныя рысы, манеры, рухі, пачуцці раскіданы па ўсім творы. Па меры разгортвання твора, яны павінны-б пад канец сабрацца ў адзін клубок эмацыянальнай ідэйнай энергіі. Але ў паэме дынамізм экспрэсіі робіцца абрыўчыстым, абстрактным, сухім і слабым. Жыццё „Пеці" ўводзіцца ў паэму аўтарскім зваротам ад імя комсамольцаў друкарні. Тут-жа гэтакім-жа бледным штрыхом аўтар малюе, што „Пеця" змог схавацца ад правакатара. „Пеця" ў полузасцэнай паэмы гутарыць з Зайдэнварам. Далей—сухая заўвага аб тым, што „Пеця" з пракламацыямі спяшае ў сад сустрэць Зайдэнвара. І нечакана і непатрэбна, тут-жа, вобраз абрываецца.

Саўчык з Соняй раскідваюць пракламацыі: яны на пляцы, яны ля слупа, яны пакінулі пляц, яны на новым квартале. Саўчык бярэ ліст-пракламацыю, якую яму падае абыватэль. І тут-жа дзверы паэмы для Саўчыка зачыняюцца.

Прасторавае перасоўванне вобраза Саўчыка мёртвае і абрыўчыстае. Броўка хаця і імкнецца прасторавым дынамізмам стварыць эмацыянальна-ідэйны дынамізм, хаця і імкнецца шпаркай зменай месц дасягнуць вялікай сілы твора,—прасторавы дынамізм робіцца мёртва-абстрактнай калейдаскапічнасцю. Кожны момант змены ў прасторы не набывае характар канкрэтнай змястоўнасці, што паглыбляе вобраз, а запоўнены сухімі ўстаўкамі ад аўтара. Сама-ж абрыўчыстасць у разгортванні вобразаў сведчыць пра прастую недапрацаванасць. З вонкавага боку нечаканы выхад за дзверы твора аднаго героя, прыход у той-жа выхад другога, вокамгненнае страўленне героя ў розныя прасторавыя палажэнні—стварае дынамічны ланцуг развіцця з'яў. У сапраўднасці—гэта дрэнна спалучанае: імкненне скарэй зрабіць і дэфектыўную спешнасць кампенсаваць кінематаграфічнасцю.

У некаторых месцах твор пабудаваны на расказванні пісьменніка аб адбыўшыхся падзеях. Асабліва гэта выступае ў малюнку падпольнай друкарні, дзе рэальны паказ напружаных падзей падмяняецца публіцыстычна-рацыяналістычнымі рэмаркамі:

... Набіраюць тут і мараць
Пра агні іх пракламацый (стар. 14).
Кожны з іх душою вызнаў,
Што, як ноч ізноў настане,
Пойдзе „факел комунізма"
Клікаць моладзь на змаганне (ст. 15).

Як-жа мараць комсамольцы пра агні пракламацый? Які-ж характар мела „душой вызнаная" вялікая арганізатарская сіла „факела комунізма"—гэта абыйдзена. У гэтым малюнку напружанай канспірацыйнай работы, дзе кожная хвіліна каштуе гады і чалавечага жыцця, дзе ўсё ў напружаным гераізме—можна было-б увесці драматычна-лірычныя элементы жывых, лаканічных і дынамічных радкоў. У сапраўднасці—гэты малюнак пабудаваны на танным, лёгкім аптымізме, бесклапотнай, гуллівай рытміцы і халоднай апісальнасці.

Твор пайшоў на зніжэнне драматызму. Некалькі сухіх слоў ад аўтара падмянілі суровую трагічную абстаноўку пакут чырвонакрылых вяшчуноў і змагароў. Броўка абышоў драматызм герояў, жадаючы сказаць, што гэта другараднае; важна паказаць жыццё і змаганне. Але ў гэтым глыбока памыліўся. У смерці комсамольцаў смяялася неўміручасць ідэй комунізма. Паказаць пакуты і смерць за вялікія ідэі, у смерці і пакутах—неўміручасць і радасць новага—гэта падняло-б вобразы на новы ідэйны ўзровень.

---

Як бачым, Броўка за апошні час значна вырас і аформіўся ў моцнага пролетарскага паэта.

Гэты рост ідзе шляхам паступовых перамог. Але рост Броўкі звязан з шэрагам творчых зрываў. Прыведзеныя факты паказваюць, што асноўным недахопам у творчасці Броўкі з'яўляецца непераможнае да канца пэвярхоўнае расчыненне працэсаў жыцця. Гэта пацвярджае і апошняя паэма „Так пачыналася маладосць", паэма росту Броўкі, паэма значнай паэтычнай сілы. Броўка—паэт-лірык вялікай страснасці, паэт—патэтык, паэт—трыбун.

Страснасць, сіла любові і нянавісці, сіла замілавання і гневу падымецца яшчэ на вышэйшую ступень, калі будзе пераможан да канца гэты асноўны недахоп.

---

## БІБЛІЯГРАФІЯ

**Якуб Колас—ДРЫГВА,** ***аповесць.*** **ЛіМ, 1934 г. Менск**

„Дрыгва“ Якуба Коласа—аповесць з часоў грамадзянскай вайны на Беларусі, вайны з белапольскай акупацыяй. У аповесці паказана, як беларускі сялянін Талаш, вякамі прыгнуты страшэнным уціскам і галечай, у ходзе класавай барацьбы ператвараецца ў чалавека, аддананага да канца рэвалюцыйнай справе, становіцца правадыром партызанскага руху.

І гэта ў аповесці Якуба Коласа паказана не як раптоўнае перараджэнне героя, а як цяжкі складаны і доўгі працэс, які адбываецца ў неразрыўнай сувязі з разгортваннем класавай барацьбы і гэтай барацьбой, у канечным выніку, абумоўліваецца.

У адным з першых эпізодаў аповесці, калі палякі забіраюць у дзеда Талаша апошні стог сена, дзед Талаш праяўляе надзвычайную пакорлівасць ціхага, прыбітага вякамі жорсткай эксплаатацыі чалавека.

„Падышоў дзед Талаш да стажка, пакланіўся жалнерам, зняў шапку. Але жалнеры не звярнулі на яго ўвагі, не адказалі на дзедава прывітанне. Адзін жалнер сядзеў на санях і таптаў сена, другі падаваў бярэмамі, а трэці разбіраў стажок.

— Паночкі, што вы робіце?—палахліва загаварыў дзед Талаш.—На што забіраеце сена? Апошняе сена! Чым-жа я худобу карміцьму?

— Ідзь да д'ябла!—азваўся з саней жалнер. А другі, што сядзеў на стажку, сумысля кінуў на дзеда жмак сена і так спрытна, што ссунуў на патыліцу дзедаву шапку, што вельмі пацешыла жалнераў, выклікала іх рогат.

Дзед Талаш моўчкі знёс гэту абразу і крыўду. Больш таго: ён схапіў рукамі за шынель жылнера, што падаваў сена і стаў перад ім на калені.

— Паночкі! не бярыце апошняга сена! У людзей ёсць у запасе, а гэта мой апошні стажок...

— Ідзь да д'ябла, стары пёс!—ускіпеў жалнер і штурхануў дзеда ў грудзі“. (Стар. 11-12).

І вось пасля гэтага першага эпізода, пасля першага свайго „баявога хрышчэння“, калі дзед Талаш намерваўся забіць жалнера сякерай і ўцёк у лес, у яго пачынае разгарацца ўсё большая і большая злосць на акупантаў, пачынаецца паступовы пераход ад абароны да наступлення, ад барацьбы за сваю хату і забранага палякамі ў палон сына да барацьбы за вызваленне ўсяго прыгнечанага сялянства.

Панас, Мартын Рыль і другія сяляне перадавалі дзеду Талашу аб усіх тых злачынствах, якія чыніліся белапалякамі ў іхных вёсках. Вось як гэта ўсё ўспрыймаў дзед Талаш:

„Слухаў дзед Талаш гэтыя навіны, і яго ўласная крыўда заціралася, адступала на задні план, і стажок, які забралі белапалякі і які паслужыў прычынай усёй гэтай бядзе, здаваўся цяпер маленькай купінкаю і губляўся ў дзедавых думках. Справа абарочвалася значна горай, а на першае месца выпіналася агульная пляма сялянскай галечы“ (стар. 40).

Дзед Талаш гуртуе вакол сябе незадаволеныя і найбольш рэвалюцыйныя элементы сялянства (такіх выпрабаваных партызанаў, як Мартын Рыль), далучаецца да часцей Чырвонай арміі, працуе выведчыкам і дапамагае чырвонаармейскім часцям прасунуцца на акупаваныя месцы Палесся, каб выгнаць акупантаў.

Але і ў суровай абстаноўцы грамадзянскай вайны атаман Талаш разам з вялікай рэвалюцыйнай пільнасцю і суровасцю захаваў рысы добрага і сумленнага чалавека, у лепшым разуменні гэтага слова, у яго адно ад другога не адарвана, і гэта пададзена Якубам Коласам вельмі добра.

З гэтага пункту погляду вельмі цікава прасачыць адносіны дзеда Талаша да Саўкі Мільгуна.

Саўка Мільгун у мінулым канакрад, чалавек без ніякіх палітычных поглядаў. Яго наймае войт Васіль Бусыга на службу ў якасці „шпіёна-здрадніка. Задача Саўкі Мільгуна зрабіцца „чырвоным партызанам“ і даведацца пра размяшчэнне партызанскага войска. Саўка прыкінуўся „чырвоным партызанам“ і ідзе ў лес да Талаша. Але пры першай-жа гутарцы з гэтым, з выгляду суровым, але па натуры

„добрым і бясхітрасным чалавекам" — у душы Саўкі Мільгуна „пачынаюць варушыцца рэшткі чалавечага сумлення", пачынаюцца першыя душэўныя буры.

Першы раз у жыцці яго заскрэбла штосьці моцна, моцна. Яго пачынаў агортваць страх, і ён часамі жахаўся той ролі, якую навязалі яму войт і яго прыяцелі. У ім пачыналі варушыцца рэшткі чалавечага сумлення. У яго вачах увесь час стаяў дзед Талаш. Яму чуўся нават яго голас. Куды-ж ён, Саўка, ідзе? З чым ідзе? Што скажа? Скажа, дзе знаходзіцца дзед Талаш з сынам і з Мартынам Рылем. Ён проста прадасць іх, як прадаваў калісь коняй. Але адна справа жывёла, а гэта жывыя людзі, людзі загнаныя ў трушчобы, як дзікія звяры. Людзі, якія хочуць жыць, якія ніколі не бачылі дабра. Былі моманты, калі Саўка важыўся вярнуцца назад, каб расказаць усю праўду" (стар. 213).

І Саўка Мільгун, у якім ужо прабудзіліся „рэшткі чалавечага сумлення" кідае наступныя словы ў твар войту і яго прыслужнікам:

„Людзі? Якія людзі? Хто людзі—вы? Сволачы вы, а не людзі. Я - гультай, злодзей, канакрад, прапашчы чалавек.. Я зусім не чалавек. Але вы пяты маёй не варты. Я краў і гандляваў коньмі, а вы гандлюеце людзьмі і сваім сумленнем. Вы плюгаўства, нікчэмнасць! На вас плюнуць і растаптаць!" (стар. 216).

Пасля гэтага Саўкавага выступлення яго арыштоўваюць і ўтвараюць яму належны допыт, на якім ён трымае сябе вельмі мужна.

Саўку катуюць і прымушаюць усё-ж такі паказаць месца знаходжання партызанаў. Але партызаны ўжо ведаюць, што іх хочуць захапіць, і на абоз белапалякаў загадзя падрыхтоўваецца аблава. Саўку аддаюць на суд дзеду Талашу і Мартыну Рылю. Вось як успрыняў Саўка прыгавар Талаша:

„Самыя цяжкія і самыя страшныя хвіліны, якіх яшчэ ніколі не перажываў Саўка Мільгун, былі для яго тыя хвіліны, калі выносіў яму свой прысуд дзед Талаш. Калі-б дзед Талаш сказаў: „Смерць Саўку", то гэта не так уразіла-б, як уразілі яго простыя звычайныя словы суровага, але па істоце добрага і бясхітраснага чалавека: „Ідзі! Ідзі прэч, каб цябе не бачылі мае вочы!" І яго апошняе слова: „Жыві" (стар. 262).

Гэтыя словы Талаша не даюць супакою Саўку Мільгуну. Замест ранейшай нейтральнасці і абыякавасці да партызанаў, у Саўкі Мільгуна пачынае нарастаць пачуццё нейкай прыязні да іх і да дзеда Талаша, пачуццё нейкага абавязку, які ён павінен выканаць для іх. У гутарцы з партызанам Цімохам Будзікам Саўка Мільгун заяўляе:

„Болей ад мяне ніякага ліха вам не будзе, Цімох. Мне сорамна вам цяпер пазіраць у вочы. Але я выкуплю сваю віну перад вамі, выкуплю. чым толькі змагу. Скажы гэта старому Талашу і Мартыну Рылю.

Саўка расчуліўся, вочы яго набеглі слязмі. Яшчэ хацеў штось сказаць, але голас яго абарваўся. Ён цяжка ўздыхнуў.

— Чалавекам стаць хачу!—сказаў ён (стар. 269).

І хоць Якуб Колас не паказвае нам далей у практычнай дзейнасці Саўкі Мільгуна (апрача таго, што Саўка даставіў галодным партызанам двух войтаўскіх валоў), усё-ж чытач можа, выходзячы з папярэдняга паказу Саўкі Мільгуна, з упэўненасцю сказаць, што Саўка будзе цалкам нашым чалавекам.

Добра ў аповесці Якуба Коласа пададзен дзед Купрыян, які яшчэ не вызваліўся ад сваёй старой веры ў „бацюшкуцара", які разважае, што ўсе няшчасці на зямлі з'яўляюцца вынікам парушэння „царскіх законаў".

Добра пададзены падпольшчык, таварыш Нявідны. Падпольшчык Нявідны паказан як чалавек, які аддаца да канца справе пролетарыята і памірае са словамі: „Няхай жывуць Советы!"

Але побач з добрым паказам гэтых людзей, некаторыя персанажы пададзены Якубам Коласам усё-ж схематычна. Так, напрыклад, недастаткова разгорнут вобраз камандзіра Шалёхіна, Цімоха Будзіка і некаторых іншых чырвонаармейцаў.

Безумоўна, немагчыма паказаць цэлы батальён чырвонаармейцаў у індывідуальным разрэзе, але можна было ў аповесці паказаць некалькі характэрных тыповых вобразаў гэтых людзей.

Калі ўзяць процілеглы чырвонаармейцам і партызанам лагер людзей—войта, Васіля Бусыгу, Бірку, Бруя і іншых, то трэба сказаць, што з гэтага лагера людзей, лепш за ўсіх паказан Васіль Бусыга. Васіль Бусыга вельмі ўдала паказан не толькі як выканаўца сваіх службовых абавязкаў, а і ў бытавым разрэзе (яго адносіны да Аўгінні).

Што да іншых людзей з гэтага лагера, дык мы ведаем толькі адно: яны ва ўсім дапамагаюць войту і пану Крулеўскаму, яны ўсе змагаюцца з партызанамі і чырвонаармейцамі. Жыццё-ж гэтых людзей ва ўсёй складанасці паказана недастаткова.

У аповесці выведзены тыпы ксяндзоў (Пуцеўкоўскі) і беларускіх нацыяналістаў (Галеніч), якія варожа ставяцца да „барбарскай" Масквы і трымаюць курс на „культурную" Варшаву, для якіх так дарага „Маці Беларусь", што яны гатовы яе прадаць хоць самому чорту, абы яна не дасталася ў рукі „барбараў-большэвікоў", толькі каб яна не стала совецкай.

Беларускія нацыяналісты вельмі часта ў сваіх творах звярачаліся да тэм, звязаных з жыццём і побытам беларускага селяніна-палешука. Але беларускія нацыя-

налісты любілі знаходзіць у Палессі „сапраўдных беларускіх тыпаў", якіх яны часта апраналі ў лапці і саматканую беларускую світку. Прычым, у гэту адзежу „сапраўднага беларуса" нацыяналісты апраналі кулакоў.

Якуб Колас, які ведае вельмі добра Палессе, таксама ў некаторых сваіх ранейшых творах збіваўся на дарогу нацыяналістаў. Так, напрыклад, у аповесцях, „У Палескай глушы" і „У глыбі Палесся" ён шукаў нацыяналістычных правадыроў - інтэлігентаў, якія, быццам - бы, толькі адны здольны вызваліць з нядолі беларускага селяніна.

Аповесцю „Дрыгва" Якуб Колас паказаў, што на матэрыялах Палесся можна пісаць на вельмі актуальныя, соцыяльнанасычаныя тэмы, што правільнае і глыбокае вывучэнне беларускага Палесся дае багата цікавых матэрыялаў з гісторыі рэволюцыйнага руху, што там можна знайсці не толькі „тыповага беларускага селяніна-палешука", а і селяніна-партызана, селяніна-рэволюцыянера — барацьбіта за пабудову новага жыцця.

У канцы свайй аповесці Якуб Колас зазначае, што яна з'явілася, як вынік расказа самога дзеда Талаша, які існуе ў сапраўднасці і жыве на Палессі. І менавіта таму, што Якуб Колас узяў для свайго твору сапраўднага героя, што ён гэтага героя не сфатаграфаваў, а абагуліў, стыпізаваў і яшчэ таму, што падзеі грамадзянскай вайны на Беларусі паказаны праўдзіва, рэалістычна—аповесць „Дрыгва" становіць сабой у пэўным сэнсе „тыповыя характары ў тыповых абставінах".

**Саламон Левін**

---

## Хвядос Шынклер—СОНЦА ПАД ШПАЛЫ, *аповесць* ЛІМ

Аповесць „Сонца пад шпалы"—першы буйны твор Хвядоса Шынклера, які прыйшоў да яго праз адзіны літаратурны шлях: Шынклер у свайй творчасці, бадай, ні разу не выкарыстоўваў іншай тэматыкі, апрача чыгункі. У святле „Сонца пад шпалы" ранейшыя творы Шынклера (і „Стрэлачнік Мігай", і „Ічэ", і „Блок") былі як-бы „вывучэннем матэрыялу", „загатоўкамі" для вялікага абагульняючага палатна.

І той факт, што Шынклер на працягу ўсёй свайй літаратурнай чыннасці няўхільна распрацоўвае адну і тую-ж тэматыку — будаўніцтва соцыялістычнага транспарта—па сутнасці, даў станоўчыя вынікі ў „Сонцы"; аднак, у гэтым, думаецца мне, адначасова са станоўчымі вынікамі ляжаць і адмоўныя якасці творчасці Шынклера.

Аповесць „Сонца пад шпалы" малюе чыгунку першых гадоў рэканструкцыі, будаўніцтва і рэарганізацыю транспарта, аповесць паказвае новых людзей соцыялістычнай працы (Дзераш), моцна акцэнтуе на паказ галерэі спецыялістаў. У актуальнасці тэматыкі, па сутнасці, захоўваецца поспех кнігі. Гэты поспех яшчэ і ў тым, што Шынклеру ўдалося ў кнізе сваімі мастацкімі сродкамі паказаць адменны тып спецыяліста, спачатку „бізнэсмэна", а потым—сапраўднага савецкага інжынера—тып інжынера Прыстрома.

Аднак маёй задачай з'яўляецца паказаць на адмоўныя якасці гэтай, безумоўна, цікавай кнігі.

Шынклер, распрацоўваючы ва ўсіх сваіх творах адну і тую-ж тэму, ствараючы падобныя адна да аднэй сітуацыі (гэта абумоўліваецца аднароднасцю матэрыялу), безумоўна, добра ведае свой матэрыял, умее адбіраць найбольш яркія „кавалкі" яго. Аднак у наяўнасці—у выніку ўсяго—пэўная вузкасць і сітуацый і тыпажа і тэма чыгункі не заўсёды гучыць у Шынклера ў сувязі з усім будаўніцтвам соцыялістычнай краіны, у дачыненні з усім агульным фронтам будаўніцтва і барацьбы. Ці не азначае гэта, што час-ад-часу Шынклеру варта знаходзіць „аддушыну", зазіраць у іншыя галіны жыцця?—пры гэтай умове „мясцовы" матэрыял чыгункі загучыць у новай яркай якасці. Пры ўсёй яркасці чыгуначнай тэматыкі, пры ўсім багацці яе на цікавыя і арыгінальныя тыпы—у гэтым ляжыць безумоўная небяспека вузкасці і пэўнай закансерванасці.

І, думаецца мне, што ў гэтай наяўнай небяспецы вузкасці пісьменніцкага матэрыяла крыюцца недахопы стылю Шынклеравай аповесці. Асноўны з гэтых недахопаў — хранікальнасць твору, адсутнасць усё ўзрастаючай, дынамічнай „інтрыгі". Гэтаму дапамагае і тое, што Шынклер, добра ведаючы свой матэрыял, да педантычнасці намагаецца зафіксаваць усе вядомыя яму дэталі, усе вядомыя яму тэхнічныя тэрміны, усе вядомыя яму факты. І часта атрымліваецца так, што гэтыя дэталі і тэрміны „існуюць" асобна ад персанажаў, што пісменніцкая ўвага непрапарцыянальна накіравана на дэталі і тэрміны і мала аддадзена гэтай увагі паказу людзей. Па сутнасці, цэнтральнай фігурай аповесці павінен быў быць Дзераш, чалавек з новымі якасцямі соцыялістычнай псіхікі, чалавек, які ад рабочага прыйшоў да высокага кіруючага паста. Але Дзераш выразна не ўдаўся Шынклеру, ён атрымаўся гэтай хадульнай „партийной совестью в кожаной куртке" і яго засланіў, зацямніў параўнальна моцна зроблены вобраз інжынера Прыстрома.

У сваёй кнізе Шынклер, палемізуе з тымі, якія мяркуюць, што паказаць соцыялістычную пераробку людзей можна толькі на матэрыяле гігантаў нашай будоўлі—на матэрыяле Турксіба, Магнітагорска, і не бачыць яркіх, каларытных персанажаў у сябе пад носам. У гэтым ёсць праўда, але Шынклер не разумее таго, што экскурс на Турксіб ці Магнітагорск дае вялікую перспектыву, дае тое, што дапамагае раскрыць больш ярка тэму на ўсіх яе апасродкаваннях. Менавіта гэтай перспектывы не хапае Шынклеру, яго людзі і сітуацыі „хранікальны“, статычны да пэўнай ступені.

З гэтага асноўнага мінуса кнігі вынікаюць і мінусы ў стылістыцы, вынікае тое, што Шынклер піша залішне павольным, часам не дзейным сказам, што цэлы шэраг апісанняў і пейзажаў залішне стылізаваны пад гэтае, здавалася-б, рэалістычнае, а па сутнасці—псеўда-рэалістычнае, павольнае, расцягнутае разгортванне сюжэта. У выніку гэтай стылізацыі паяўляецца пэўная сухасць, педантычная сухасць тэксту, у выніку гэтай стылізацыі падбіраецца стары, недзейны, не літаратурны падбор слоў: „ляношчы“, „фацэт мультановы“, „блішчоны“, „памінтрэжыць“, „стрэнкляваты“, „уздзянберыць“ „віхлець“, „аблутаць“, што з'яўляецца ўплывам „мужычай стыхіі“, па сутнасці—уплывам нацыяналістычнай літаратуры, аб чым ужо не раз пісалася і ў адносінах да Хвядоса Шынклера. Па сутнасці, гутарка тут ідзе аб тым, што праз гэткі лексікон шмат-што з літаратуры нашай не даходзіць да шырокіх мас совецкага чытача. Культура мовы—гэта не адэкватна слоўным вымудрам, не адэкватна вышукванню старэчых „дзярбонікаў“.

Дзіўным з'яўляецца і тое, што ў гэткай вялікай па памеры кнізе мала лірыкі, няма цікавага і яркага вобраза жанчыны. А ў Шынклера былі ўсе магчымасці для таго, каб вобраз бібліятэкаршы распрацаваць поўна, з увязкай яе ў агульную сюжэтную канву аповесці. Педантычная сухасць наклала свой адбітак і на гэта.

Такім чынам, у наступных сваіх работах Шынклеру трэба паспрабаваць знаходзіць больш яркія, больш каларытныя сітуацыі і вобразы і „афармляць“ іх больш яркімі, больш каларытнымі мастацкімі сродкамі. Гэта зразумела, не „зоркі з неба“, а рэальныя магчымасці, якія ёсць у лепшых старонках „Сонца пад шпалы“.

**Барыс Мікуліч.**



**Адказны рэдактар: МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ**



Адрас рэдакцыі: Менск, Совецкая, 68, Дом пісьменніка

# ЗМЕСТ

*Стар.*

К. Чорны—Трыццаць год (раман) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
Р. Мурашка—Свае-чужыя (апавяданне) . . . . . . . . . . . . . . . . . . 21
П. Глебка—Два вершы (верш) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
М. Цэлеш—Курылка (аповесць) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 33
М. Паслядовіч—Канфлікт (апавяданне) . . . . . . . . . . . . . . . . . . 51
А. Александровіч—Шчаслівая дарога (паэма) . . . . . . . . . . . . . . . 58
В. Глазырын—Фронт (п'еса) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 71
Я. Скрыган—На выселках (апавяданне) . . . . . . . . . . . . . . . . . . 88
Б. Мікуліч—Дужасць (раман) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 95
М. Клімковіч—Рашэнні XVII з'езда ВКП(б) і задачы літаратуры . . . . . . . 109
П. Хатулёў—Заўвагі пра творчасць П. Броўкі . . . . . . . . . . . . . . 120
Бібліяграфія:
С. Левін—Аб „Дрыгве“ Коласа . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 131
Б. Мікуліч—Аб „Сонца пад шпалы“ Шынклера . . . . . . . . . . . . . . . 133

